| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 148 | Капітальны рамонт Дома культуры чыгуначнікаў, вул. Варшаўская | 2460 | Уласн. сродкі | Бел-. чыгунка | ПБУП “Верты-каль 21 стагоддзе” | маецца | ПБУП “Верты-каль 21 стагоддзе” | |
| 149 | Рамонт фасадаў жылых дамоў і прылеглых да іх тэрыторый, вул. Астроў-скага, 12,11,13,14, вул. Інтэрнацыянальная, 5, 10, 12, вул. Чапаева, 2 | 2900 | Уласн. сродкі | Бел-. чыгунка | ПБ г. Ліда | маецца | ПБУП “Верты-каль 21 стагоддзе” | |
| 150 | Будаўніцтва, рэканструк-цыя, капітальны і бягучы рамонт службова-тэхніч-ных будынкаў і будынкаў, у т.л.:<br>-пасажырскіх платформ на прыпыначных пунктах;<br>-пасажырскіх платформ;<br>-будынка вакзала на ст. Ліда;<br>-будынка санітарна-быта-вога корпуса, вул. Труха-нава, 22;<br>-агароджа тэрыторыі ст. Ліда;<br>-сетак цеплазабеспячэння;<br>-пераездаў з укладкай гумовых насцілаў | 7450 | Уласн. сродкі | Бел-. чыгунка | Гродна-грамадзян-праект | маецца | Дарбуд-мантаж-трэст | |
| | **РАЗАМ:** | **16310** | | | | | | |
| | **УСЯГО:** | **23468** | | | | | | |
| | **ПРАДПРЫЕМСТВЫ БУДАЎНІЧАГА КОМПЛЕКСУ РУП “Дарожна-будаўнічы трэст №6” ДБУ-24** | | | | | | | |
| 151 | Афарбоўка фасада будын-ка, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. 1-я Навапрудская, 40А | 23 | Уласн. сродкі | ДБК №24 | ДБК №24 | дэф. акт, каштарыс маецца | ДБК №24 | |
| | **РАЗАМ:** | **23** | | | | | | |
| | **Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, ААТ “БМТ №19”** | | | | | | | |
| 152 | Рэканструкцыя адміністрацыйнага будынка, вул. Савецкая, 21 | 350 | Уласн. сродкі | ААТ “БМТ №19” | Гродна-гіпрабуд | у распра-цоўцы, красавік 2010 | ААТ “БМТ №19” | |
| 153 | Рамонт фасадаў будынкаў інтэрнатаў,<br>- вул. Камсамольская, 2;<br>- вул. Перамогі, 4 (рэкан-струкцыя кафэ “Геліёс”);<br>-вул. Перамогі, 6 | 1 200 | Уласн. сродкі | ААТ “БМТ №19” | Гродна-грамадзян-праект | дэф. акт, каштарыс, красавік 2010 | ААТ “БМТ №19” | |
| | **РАЗАМ:** | **1 550** | | | | | | |
| | **ДРБУ-48** | | | | | | | |
| 154 | Афарбоўка фасада адміні-страцыйнага будынка, установка плота на тэрыто-рыі базы, добраўпарадка- | 71 | Уласн. сродкі | ДРБУ-48 | ДРБУ-48 | дэф. акт, каштарыс маецца | ДРБУ-48 | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ванне тэрыторыі, вул. Качана, 54А | | | | | | | |
| | **РАЗАМ:** | **71** | | | | | | |
| | | | | **ТАА “Вега”** | | | | |
| 155 | Заканчэнне будаўніцтва вытворчага цэха і добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Хімікаў | 65 | Уласн. сродкі | ТАА “Вега” | УПТП “Буд-забесп” | маецца | Уласн. сілы, ДБУ №24 | |
| | **РАЗАМ:** | **65** | | | | | | |
| | | | | **ЛМК ААТ “Белсантэхмантаж”** | | | | |
| 156 | Бягучы рамонт фасада адміністрацыйнага будынка, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Хімікаў, 8 | 60 | Уласн. сродкі | ЛМК ААТ “Белсан-тэхман-таж” | ЛМК ААТ “Белсан-тэхман-таж” | дэф. акт, каштарыс маецца | ЛМК ААТ “Белсан-тэхман-таж” | |
| | **РАЗАМ:** | **60** | | | | | | |
| | | | | **ААТ “Будвектар”** | | | | |
| 157 | Бягучы рамонт фасада адміністрацыйнага будынка з заменай вокнаў, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Сасновая | 220 | Уласн. сродкі | ААТ “Буд-вектар” | ААТ “Буд-вектар” | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ “Буд-вектар” | |
| | **РАЗАМ:** | **220** | | | | | | |
| | | | | **ААТ “ЛРБ №4"** | | | | |
| 158 | Бягучы рамонт фасада будынка адміністрацыйна-бытавога корпуса, добраўпарадкаванне терыторыі, вул. Фурманава, 56 | 35 | Уласн. сродкі | ААТ “ЛРБ №4” | ПБ г. Ліда | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ “ЛРБ №4” | |
| | **РАЗАМ:** | **35** | | | | | | |
| | | | | **ДК “Лідскае ПМБ”** | | | | |
| 159 | Рамонт і афарбоўка адміністрацыйнага будынка, афарбоўка агароджы, вул. 2-я Крупаўская | 35 | Уласн. сродкі | ДК “Лідскае ПМБ” | ДК “Лідскае ПМБ” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **35** | | | | | | |
| | **УСЯГО АБ’ЕКТЫ БУДАЎНІЧАГА КОМПЛЕКСУ** | **2 059** | | | | | | |
| | | | | **БАНКІ** | | | | |
| | | | | **ААТ “Белаграпрамбанк”** | | | | |
| 160 | Бягучы рмонт фасада будынка “Белаграпрамбанка” з добраўпарадкаваннем прылеглай тэрыторыі, вул. Таўлая | 90 | Уласн. сродкі | ААТ “Белагра прам-банк” | ПБ г. Ліда | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ “ЛРБП №17” | |
| | **РАЗАМ:** | **90** | | | | | | |
| | | | | **ААТ “БПБ-Банк”** | | | | |
| 161 | Афарбоўка фасада, замена вітражоў аддзялення ААТ “БПБ-Банк”, вул. Міцкевіча | 102 | Уласн. сродкі | ААТ “БПБ-Банк” | УП “Дзітва-буд” | дэф. акт, каштарыс маецца | УП “Дзітва-буд” | |
| | **РАЗАМ:** | **102** | | | | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь** | | | | | | | |
| 162 | Афарбоўка фасада будынка і дызельнага аддзялення,афарбоўка агароджы, вул. Савецкая | 150 | Уласн. сродкі | Нац. банк | ААТ "ЛРБП №17" | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ "ЛРБП №17" | |
| | **РАЗАМ:** | **150** | | | | | | |
| | **УСЯГО БАНКІ:** | **342** | | | | | | |
| | **ПРАМЫСЛОВЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ І АБ'ЕКТЫ БЫТАВОГА АБСЛУГОЎВАННЯ** | | | | | | | |
| | **ААТ "Лідааграпраммаш"** | | | | | | | |
| 163 | Бягучы рамонт фасада адміністрацыйнага будынка, добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі, вул. Ігнатава, 52 | 1186 | Уласн. сродкі | ААТ "Лідаагпраммаш" | АКБ ААТ "Лідаагпраммаш" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 164 | Рамонт фасада будынка інтэрната, вул. Таўлая, 23 | 130 | Уласн. сродкі | ААТ "Лідаагпраммаш" | АКБ ААТ "Лідаагпраммаш" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **1 316** | | | | | | |
| | **ААТ "Лідсельмаш"** | | | | | | | |
| 165 | Бягучы рамонт будынкаў і пабудоў прадпрыемства, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Савецкая | 281 | Уласн. сродкі | ААТ "Лідсельмаш" | АКБ ААТ "Лідсельмаш" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 166 | Рамонт фасада будынка інтэрната, добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі, вул. Міцкевіча, 38-1 | 260 | Уласн. сродкі | ААТ "Лідсельмаш" | АКБ ААТ "Лідсельмаш" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **541** | | | | | | |
| | **ААТ "Лакафарба"** | | | | | | | |
| 167 | Бягучы рамонт вытворчых будынкаў на тэрыторыі прадпрыемства, вул. Качана | 3066 | Уласн. сродкі | ААТ "Лакафарба" | АКБ ААТ "Лакафарба" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 168 | Бягучы рамонт і афарбоўка фасада будынка заводакіраўніцтва, добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі, вул. Качана | 4428 | Уласн. сродкі | ААТ "Лакафарба" | АКБ ААТ "Лакафарба" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 169 | Бягучы рамонт фасада будынка інтэрната, добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі, вул. Качана, 6 | 2288 | Уласн. сродкі | ААТ "Лакафарба" | АКБ ААТ "Лакафарба" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 170 | Бягучы рамонт фасада будынка інтэрната, добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі, вул. Кірава | 266 | Уласн. сродкі | ААТ "Лакафарба" | АКБ ААТ "Лакафарба" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 171 | Рамонт бытавых памяшканняў па цэхах, вул. Качана | 2222 | Уласн. сродкі | ААТ "Лакафарба" | АКБ ААТ "Лакафарба" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 172 | Рэканструкцыя санаторыя 'Вясёлка"( 1 чарга - спальны корпус) | 7000 | Уласн. сродкі | ААТ "Лакафарба" | ГГП | у распрацоўцы, сакавік | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **19 270** | | | | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | **ААТ “Лідскі завод электравырабаў”** | | | | | | |
| 173 | Бягучы рамонт вытворчых будынкаў, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Фабрычная | 400 | Уласн. сродкі | ААТ “Лідскі завод электравырабаў” | АКБ ААТ “Лідскі завод электравырабаў” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 174 | Бягучы рамонт і афарбоўка фасада будынка інтэрната, вул. Савецкая | 600 | Уласн. сродкі | ААТ “Лідскі завод электравырабаў” | АКБ ААТ “Лідскі завод электравырабаў” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **1 000** | | | | | | |
| | | **ААТ “Лідскі ліцейна-механічны завод”** | | | | | | |
| 175 | Бягучы рамонт адміністрацыйна -бытавога корпуса, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Качана | 1680 | Уласн. сродкі | ААТ “Лідскі ліцейна-механічны завод” | АКБ ААТ “Лідскі ліцейна-механічны завод” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 176 | Бягучы рамонт фасада ліцейнага цэха | 365 | Уласн. сродкі | ААТ “Лідскі ліцейна-механічны завод” | АКБ ААТ “Лідскі ліцейна-механічны завод” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 177 | Разборка адміністрацыйна -бытавога корпуса (незавершанае будаўніцтва), вул. Качана | 600 | Уласн. сродкі | ААТ “Лідскі ліцейна-механічны завод” | АКБ ААТ “Лідскі ліцейна-механічны завод” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **2645** | | | | | | |
| | | **РУПП “Завод “Ізатрон”** | | | | | | |
| 178 | Бягучы рамонт фасадаў вытворчых карпусоў №1,№2, рамонт агароджы прадпрыемства, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Качана, 19 | 1152 | Уласн. сродкі | РУПП “Завод “Ізатрон” | АКБ РУПП “Завод “Ізатрон” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 179 | Бягучы рамонт фасада будынка інтэрната, вул. Качана, 6 | 67 | Уласн. сродкі | РУПП “Завод “Ізатрон” | АКБ РУПП “Завод “Ізатрон” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **1 219** | | | | | | |
| | | **ААТ “Лідская абутковая фабрыка** | | | | | | |
| 180 | Бягучы рамонт і афарбоўка фасада галоўнага корпуса, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Фабрычная | 260 | Уласн. сродкі | ААТ “Лідская абутковая фабрыка” | АКБ ААТ “Лідская абутковая фабрыка” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 181 | Добраўпарадкаванне тэрыторыі інтэрната №1, вул. Чарняхоўскага і інтэрната №2, вул. Міцкевіча, 10 | 150 | Уласн. сродкі | ААТ “Лідская абутковая фабрыка” | АКБ ААТ “Лідская абутковая фабрыка” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **410** | | | | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **ААТ "Лідахарчканцэнтраты"** | | | | | |
| 182 | Бягучы рамонт вытворчых будынкаў на тэрыторыі прадпрыемства, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Таўлая | 445 | Уласн. сродкі | ААТ "Ліда-харч-канцэнт-раты" | АКБ ААТ "Ліда-харч-канцэнт-раты" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **445** | | | | | | |
| | | | **ААТ "Завод "Оптык"** | | | | | |
| 183 | Бягучы рамонт фасадаў вытворчых будынкаў і будынкі заводакіраўніцтва, афарбоўка агароджы прадпрыемства, вул. Машэрава, 10 | 358 | Уласн. сродкі | ААТ "Завод "Оптык" | АКБ ААТ "Завод "Оптык" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 184 | Рамонт і афарбоўка фасада будынка інтэрната №3, вул. Машэрава, 6 | 60 | Уласн. сродкі | ААТ "Завод "Оптык" | АКБ ААТ "Завод "Оптык" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **418** | | | | | | |
| | | | **ААТ "Лідскае піва"** | | | | | |
| 185 | Бягучы рамонт фасадаў будынкаў і агароджы з боку вуліц Набережная і Савецкая | 350 | Уласн. сродкі | ААТ "Лідскае піва" | АКБ ААТ "Лідскае піва" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **350** | | | | | | |
| | | | **ВРУП "Доследны завод "Нёман"** | | | | | |
| 186 | Бягучы рамонт фасада адміністрацыйнага будынка, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Жукава | 1099 | Уласн. сродкі | УП "ДЗ "Нёман" | АКБ УП "ДЗ "Нёман" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 187 | Добраўпарадкаванне тэрыторыі і рамонт фасада інтэрната, вул. Рыбіноўскага | 84 | Уласн. сродкі | УП "ДЗ "Нёман" | АКБ УП "ДЗ "Нёман" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **1 183** | | | | | | |
| | | | **Філіял РУПП "Гроднахлебпрам" Лідскі хлебазавод** | | | | | |
| 188 | Бягучы рамонт фасада і дахаў будынкаў хлебнага і булачнага цэхаў, вул. Шубіна | 200 | Уласн. сродкі | Лідскі хлеба-завод | АКБ Лідскага хлеба-завода | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **200** | | | | | | |
| | | | **ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат"** | | | | | |
| 189 | Бягучы рамонт фасада будынка сталовай, добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі прадпрыемства з уладкаваннем аўтастаянкі, вул. Энгельса | 550 | Уласн. сродкі | ААТ "Лідскі малочна-кансер-вавы камбінат" | АКБ ААТ "Лідскі малочна-кансер-вавы камбінат" | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 190 | Капітальны рамонт будынка інтэрната з добраўпарадкаваннем прылеглай тэрыторыі і ўладкаваннем аўтастаянкі, вул. Транспартная, 4-1 | 800 | | ААТ "Лідскі малочна-кансер-вавы камбінат" | АКБААТ "Лідскі малочна-кансер вавы камбінат" | деф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 191 | Добраўпарадкаванне жылога пасёлка з арганізацыяй аўтастаянкі па вул. Энгельса, вул. Транспартнай | 400 | Уласн. сродкі | ААТ “Лідскі малочнакансервавы камбінат” | АКБААТ “Лідскі малочнакансер вавы камбінат” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **1750** | | | | | | |
| | | **КУП “Лідская мэблевая фабрыка”** | | | | | | |
| 192 | Бягучы рамонт адміністрацыйных і вытворчых будынкаў, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Мопраўская | 800 | Уласн. сродкі | КУП “Лідская, мэблевая фабрыка” | АКБ КУП “Лідская, мэблевая фабрыка” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **800** | | | | | | |
| | | **ААТ “Лідскі мясакамбінат”** | | | | | | |
| 193 | Бягучы рамонт будынкаў і пабудоў прадпрыемства, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Талстога | 87 | Уласн. сродкі | ААТ “Лідскі мясакамбінат” | АКБ ААТ “Лідскі мясакам бінат” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **87** | | | | | | |
| | **УЯГО ПА ПРАМЫСЛОВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ** | **31634** | | | | | | |
| | | **АБ’ЕКТЫ БЫТАВОГА АБСЛУГОЎВАННЯ КУП “Лідабытсэрвіс”** | | | | | | |
| 194 | Бягучы рамонт фасада будынка і добраўпарадкаванне тэрыторыі вытворчага ўчастка, вул. Энгельса, 100 | 105 | Уласн. сродкі, ІФ | КУП “Лідабытсэрвіс” | УПГП “Будзабесп” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 195 | Бягучы рамонт фасада будынка, замена даху і добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі адміністрацыйнага будынка, вул. Ленінская, 24 | 85 | Уласн. сродкі, ІФ | КУП “Лідабытсэрвіс” | УПГП “Будзабесп” | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **190** | | | | | | |
| | | **УКП “Лідскі камбінат бытавых паслуг”** | | | | | | |
| 196 | Рамонт фасада будынка адміністрацыйна-бытавога корпуса, добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі, вул. Савецкая, 23а | 140 | Уласн. сродкі, ІФ | УКП “Лідскі камбінат бытавых паслуг” | ПБ г. Ліда | дэф. акт, каштарыс маецца | ТАА “Вега” | |
| 197 | Рамонт фасада бытавых памяшканняў, вул. Ленінская, 8б, 8в | 80 | | УКП “Лідскі камбінат бытавых паслуг” | ПБ г. Ліда | дэф. акт, каштарыс маецца | ТАА “Вега” | |
| | **РАЗАМ** | **220** | | | | | | |
| | **УСЯГО АБ’ЕКТЫ БЫТАВОГА АБСЛУГОЎВАННЯ** | **410** | | | | | | |
| | **УСЯГО ПРАМЫСЛОВ. ПРАДПРЫЕМСТВЫ І АБ’ЕКТЫ БЫТАВОГА АБСЛУГОЎВАННЯ** | **32 044** | | | | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ КАНЦЭРН ПА НАФЦЕ І ХІМІІ** | | | | | | | |
| 198 | Будаўніцтва МАЗС, вул. Камуністычная | 4 100 | Уласн. сродкі | ААТ "Ліда-нафта-прадукт" | ТДА "Інжбуд-цэнтр" | маецца | тэндар | |
| 199 | Капітальны рамонт фасада будынка адміністрацыйна-бытавога корпуса, вул. Энгельса, 87 з уязной групай | 70 | Уласн. сродкі | ААТ "Ліда-нафта-прадукт" | ПБ г. Ліда | у распрацоўцы, травень 2010 | ААТ "Буд-вектар" ДРБУ №24 | |
| 200 | Мадэрнізацыя будынкаў аператарнай у частцы вонкавага аздаблення фасада АЗС №2, в. Астроўля, капітальны рамонт асфальтабетоннага пакрыцця | 130 | Уласн. сродкі | ААТ "Ліда-нафта-прадукт" | ПБ г. Ліда | у распрацоўцы, травень 2010 | ААТ "Буд-вектар" ДРБУ №24 | |
| | **РАЗАМ:** | **4 300** | | | | | | |
| | **НАЦЫЯНАЛЬНЫ СТАТЫСТЫЧНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** | | | | | | | |
| 201 | Бягучы рамонт будынка аддзела статыстыкі Лідскага раёна, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Чапаева, 20 | 341 | Рэспубл. бюджэт | Галоўнае стат. кіраванне па Гродз. вобласці | УПГП "Буд-забесп" | у распрацоўцы, сакавік 2010 | ААТ "Будкомплекс" | |
| | **РАЗАМ:** | **341** | | | | | | |
| | **АБ'ЕКТЫ РАЙВЫКАНКАМА** | | | | | | | |
| | **Усяго аб'ектаў: 3**<br>**Неабходна сродкаў: 4 900**<br>**Крыніца фінансавання - Мясцовы бюджэт: 4 900** | | | | | | | |
| 202 | Бягучы рамонт будынка райвыканкама, вул. Савецкая, 8 | 1 900 | Мясцовы бюджэт | ККБ райвыканкама | | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ "ЛРБП №17" | |
| 203 | Бягучы рамонт будынка па вул. Чапаева, 19 | 1 300 | Мясцовы бюджэт | ККБ райвыканкама | | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ "Будкомплекс" | |
| 204 | Бягучы рамонт будынка ЗАГСа з добраўпарадкаваннем прылеглай тэрыторыі, вул. Міцкевіча, 5 | 1 700 | Мясцовы бюджэт | ККБ райвыканкама | | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ "Будкомплекс" | |
| | **РАЗАМ:** | **4 900** | | | | | | |
| | **МІНІСТЭРСТВА ПРАЦЫ І САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ**<br>**Аб'екты кіравання па працы, занятасці і сацыяльнай абароне** | | | | | | | |
| 205 | Бягучы рамонт будынка кіравання па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, вул. Савецкая, 31 | 310 | Мясцовы бюджэт | ККБ райвыканкама | ПБ г. Ліда | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ "ЛРБП №17" | |
| 206 | Бягучы рамонт будынка кіравання па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, вул. Камсамольская, 14, добраўпарадкаванне тэрыторыі | 700 | Мясцовы бюджэт | ККБ райвыканкама | ПБ г. Ліда | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ "ЛРБ №4" | |
| | **РАЗАМ:** | **1 010** | | | | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **ГК “ЛІДСКІ РА¨ННЫ ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫ ЦЭНТР САЦЫЯЛЬНАГА АБСЛУГОЎВАННЯ”** | | | | | | | |
| 207 | Замена агароджы тэрыторыі аддзялення кругласутачнага знаходжання для грамадзян пажылога веку і інвалідаў, вул. Куйбышава, 15 | 48 | Мясцовы бюджэт | ГК “Лідскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва” | ПГУВП “Ландшафт-сэрвіс” | дэф. акт, каштарыс маецца | ПГУВП “Ландшафт-сэрвіс | |
| | **РАЗАМ:** | **48** | | | | | | |
| | **УСЯГО:** | **1 058** | | | | | | |
| | **МІНІСТЭРСТВА УНУТРАНЫХ СПРАЎ** | | | | | | | |
| 208 | Рамонт будынкаў МУС, вул. Перамогі, 36 і вул. Перамогі, 40 | 405 | Рэспубл. бюджэт | ККБ райвыканкама | | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ “ЛРБП №17” | |
| | **РАЗАМ:** | **405** | | | | | | |
| | **КАМІТЭТ ДЗЯРЖБЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** | | | | | | | |
| 209 | Рэканструкцыя будынка КДБ вул. 7 Лістапада | 400 | Рэспубл. бюджэт | ККДБ | ПБ г. Ліда | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ “БМТ №19” | |
| | **РАЗАМ:** | **400** | | | | | | |
| | **МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**<br>**Аб’екты юстыцыі** | | | | | | | |
| 210 | Бягучы рамонт фасада будынка суду з мадэрнізацыяй даху, рамонт унутраных памяшканняў, вул. Перамогі, 43 | 2 500 | Рэспубл. бюджэт | ККБ райвыканкама | УПГП “Будзабесп” | дэф. акт, каштарыс маецца | УПГП “Будзабесп” | |
| | **РАЗАМ:** | **2 500** | | | | | | |
| | **МІНІСТЭРСТВА ПА НАДЗВЫЧАЙНЫХ СІТУАЦЫЯХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**<br>**Аб’екты РАНС** | | | | | | | |
| | **Усяго аб’ектаў: 2**<br>**Неабходна сродкаў: 2420**<br>**Крыніца фінансавання: Рэспубліканскі бюджэт: 2420** | | | | | | | |
| 211 | Бягучы рамонт фасада будынка Лідскага РАНС па вул. Камсамольская, 4 | 130 | Рэспубл. бюджэт | Лідскі РАНС | ААТ “ЛРБ №4” | дэф. акт, каштарыс маецца | ААТ “ЛРБ №4” | |
| 212 | Капітальны рамонт будынка МНС, вул. 8 Сакавіка, добраўпарадкаванне тэрыторыі | 2 290 | Рэспубл. бюджэт | Лідскі РАНС | Гродна-грамадзян-праект | маецца | ААТ “ЛРБ №4” | |
| | **РАЗАМ:** | **2 420** | | | | | | |
| | **ІНШЫЯ АБ’ЕКТЫ** | | | | | | | |
| | **Усяго аб’ектаў: 1**<br>**Неабходна сродкаў: 700**<br>**Крыніца фінансавання: Мясцовы бюджэт: 700** | | | | | | | |
| 213 | Установка малых арх. форм | 700 | Мясцовы бюджэт | ЛГУП ЖКГ | | | | |
| | **РАЗАМ:** | **700** | | | | | | |



***Замак і сажалка Замкавая***




***Аўтавакзал***



***Пажарнае дэпо***



***Лядовы палац***



***106 - кватэрны дом***



***Спартовы комплекс “Алімпія”***



***Ліцэй***



***Стадыён***

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **КУЛЬТАВЫЯ АБ’ЕКТЫ** | | | | | |
| 214 | Бягучы рамонт Касцёла Ўзнясення Святога Крыжа Божага, вул. Савецкая, 2 | 200 | Сродкі грамадзян | Парафія | | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| 215 | Бягучы рамонт Архістраціга-Міхайлаўскага Кафедральнага сабора, добраўпарадкаванне тэрыторыі, вул. Савецкая, 20 | 200 | Сродкі грамадзян | Прыход | | дэф. акт, каштарыс маецца | Уласн. сілы | |
| | **РАЗАМ:** | **400** | | | | | | |
| | | | **АСНОЎНЫЯ АБ’ЕКТЫ** | | | | | |
| 216 | Рэстаўрацыя і рэканструкцыя Лідскага замка, знос жылых дамоў па вул. Замкавая, 3; 5; 7; 9; 1 па вул. Энгельса, 4; 6; 8 | 9700 | Мясцовы бюджэт | ККБ аблвыканкама | Мінскпраект | у распрацоўцы | ААТ “БМТ-19” | |
| 217 | Лёдавы палац у г. Лідзе Гродзенскай вобласці | 30000, у т. л. 25 500<br>4500 | Мясцовы бюджэт<br>Рэспубл. бюджэт | ККБ аблвыканкама | БГП | маецца | ААТ “БМТ-19” | |
| 218 | Будаўніцтва спартовага комплексу для гульнявых відаў спорту па вул. Качана ў г. Лідзе | 14000 | Мясцовы бюджэт | ККБ аблвыканкама | Гроднаграмадзянпраект | у распрацоўцы | ААТ “БМТ -30” | |
| 219 | Будаўніцтва стадыёна, вул. Качана (футбольнае поле са штучным пакрыццём, адкрытыя тэнісныя корты, універсальныя гульнявыя пляцоўкі) | 9500 | Мясцовы бюджэт | ККБ аблвыканкама | Гроднаграмадзянпраект | у распрацоўцы | Гроднапрамбуд | |
| 220 | Будаўніцтва 106-кв. жылога дома па вул. 7 Лістапада сацыяльнага значэння і для адсялення са зносімага жылля | 11600 | Мясцовы бюджэт | ККБ райвыканкама | Гроднажылбуд | у распрацоўцы | Гроднажылбуд | |
| | **УСЯГО па аб’ектах:** | **351 967** | | | | | | |

**Старшыня А.П. Худык.**



***Пешаходны пераход цераз чыгуначныя каляі***



***Мастацкая школа***



***Бульвар князя Гедыміна***

**ІНФАРМАЦЫЯ Аб БУДАЎНІЦТВЕ ПЕРАХОДЗЯЧЫХ АБ'ЕКТАЎ "ДАЖЫНКІ-2010"**

| №п/п | Найменне аб'екта | Нарматыўная працягласць будаўніцтва | Пачатак будаўніцтва | Каштарысны кошт *млн. руб.* | Асвоена на 01.02.2011 *млн. руб.* |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Будаўніцтва стадыёна ў г. Лідзе | | чэрвень 2010 | 24987,4 | 14483 |
| 2 | Будаўніцтва спорткомплекса | 17,8 мес. | травень 2010 | 23637,7 | 17768 |
| 3 | Рэстаўрацыя і рэканструкцыя Лідскага замка | 51 мес. | травень 2010 | 42101,3 | 7963 |
| 4 | Рэканструкцыя транспартнай развязкі | 7 мес. | жнівень 2010 | 7124,3 | 2225 |
| 5 | Рэканструкцыя лячэбнага корпуса вузлавой паліклінікі пад супрацьтуберкулёзны дыспансер | падрыхт. перыяд - 2,1 мес. будаўніцтва - 5,5 мес. | верасень 2010 | | 1520 |

Абсалютная большасць работ, прадугледжаных планам, выканана. Выканана і велізарная колькасць іншых работ, у тым ліку пейзажнага і фларыстычнага плану. Мадэрнізаваны Курган Неўміручасці і Цэнтральны гарадскі парк, мадэрнізаваны і створаны дзесяткі сквераў і скверыкаў.

Цэнтр горада вызвалены ад састарэлых за многія дзесяціГоддзі дамоў і будынкаў. Горад стаў больш прасторным і светлым, прывабным і ласкавым.

Яркія фарбы фасадаў зрабілі яго вясёлкавым і вясёлым.

Створана і аформлена каля тысячы месцаў для стаянак аўтамабіляў у самых розных раёнах горада.

Кожная вуліца, якая трапляла пад рэканструкцыю, была пашырана хоць на метр, хоць на паўметра. У горадзе з'явіўся першы ў яго гісторыі праспект.

Вуліцы каля замка атрымалі гістарычныя, мілагучныя назвы: Замкавая, Грунвальдская, бульвар князя Гедыміна, праспект Перамогі.

Рэстаран каля замка займеў назву "Грунвальд", рэстаран каля рынка названы "Гедымін".

Адкрыты Лідскі літаратурны музей, Дом рамёстваў, Мастацкая школа. Гэта ў дадатак да мадэрнізаваных пад "Дажынкі" Раённага палаца мастацтваў і Школы мастацтваў, рэканструяваных і адбудаваных раней Лідскага гістарычна-мастацкага музея, Цэнтральнай раённай бібліятэкі, Цэнтра дзіцячай і юнацкай творчасці і іншых аб'ектаў. Такога для культуры ў Лідзе не рабілася ніколі.

І асноўнае, зрушыліся з месца работы ў Лідскім замку. Была адноўлена другая вежа і сцены. Рэстаўрацыя замка ўступіла ў завяршальную фазу. Яшчэ год-другі, і 350-гадовая эпоха разбурэння і заняпаду найстарэйшага замка Беларусі застанецца ззаду і будзе забыта.

Створаны магутны і рознабаковы спартовы комплекс Ліды, без якога горад і ўявіць ужо цяжка.

"Дажынкі - 2010" былі для Ліды ўнікальнай магчымасцю правесці рэканструкцыю горада, і вялікая заслуга раённых ды і абласных уладаў, што гэтая магчымасць не была ўпушчана, у адрозненне ад таго, як была ўпушчана магчымасць адкрыць у Лідзе ўніверсітэт.

Наступная задача - правесці ў Лідзе Дзень беларускага пісьменства і друку. Гістарычных і інтэлектуальных заслугаў ў горада дастаткова. Патрэбна толькі жаданне і, безумоўна, вялікая арганізацыйная работа.

Горад чакае яшчэ ўстаноўкі коннага помніка свайму заснавальніку Вялікаму князю Гедзіміну. Як у кожным сур'ёзным горадзе, у Лідзе павінна быць адноўлена ратуша. Яшчэ чакае запаўнення Алея славы на бульвары Гедзіміна, дзе павінны быць пастаўлены помнікі выбітным лідзянам. Трэба закончыць замак, але галоўнае - не згубіць тэмп у развіцці горада, хаця гэта і ёсць самае цяжкае. Але ж Ліда на тое яна і Ліда, каб развязваць самыя складаныя задачы.

# Лідскія юбіляры 2010 года

## Кароль Падчашынскі

### *220 гадоў з дня нараджэння*

**ПАДЧАШЫНСКІ Кароль**, польск. Podczaszynski Karol, рус. Подчашинский Карл Иванович, літ. Podcasinskis Karolis (7.11.1790, Жырмуны Лідскага павету - 19.04.1860, Вільня).

Дзед Караля - Павел Пецун нарадзіўся к. 1695 г., дваровы ў князёў Радзівілаў, праславіўся як майстар па рамонце палацаў і касцёлаў, быў заўважаны Каралём Станіславам Радзівілам (1734-90) і запрошаны на пасаду наглядчыка за будаўніцтвам, у канцы жыцця стаў падчашым магната. У 1772 г. яго дзеці атрымалі шляхецкую годнасць і прозвішча Падчашынскія. Лічыцца, што менавіта Кароль Станіслаў Радзівіл спрыяў уводзінам Пецунаў у шляхецкую годнасць. Як ён мог гэта зрабіць - не зразумела, паколькі з 1768 па 1777 г. знаходзіўся ў эміграцыі.

Бацька Караля - Ян (каля 1735, Жусіны - каля 1800, Жырмуны) да 1772 г. меў прозвішча Пецун. Быў прыдворным архітэктарам у Радзівілаў, навучаўся ў знакамітага віленскага архітэктара Стукі-Гуцэвіча. Па праекце і пад кіраўніцтвам Яна Падчашынскага пабудаваны Жырмунскі драўляны касцёл (1788) і будаваўся касцёл у Бутрыманцах. У яго быў брат, які жыў у Брэст-Літоўску і быў начальнікам мытні.

Маці Караля - Юстына з беднага шляхецкага роду Мяжынскіх, жыла нядоўга.

Кароль нарадзіўся ўжо ў шляхецкай сям'і, быў хрышчоны ў Жырмунскім касцёле. Хрышчонымі бацькамі былі Караліна Радзівіл з Пацаў і віленскі ваявода Юзаф Пац. Скончыў школу пры ўніяцкім кляштары базыліянаў у Брэст-Літоўску, навучаўся ў Брэст-Літоўскай павятовай вучэльні, са срэбным ме-далём скончыў Валынскі ліцэй у Крамянцы (1810-13). Вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Віленскага ўніверсітэта (1814); навучаўся "архітэктурнаму майстэрству" у Імператарскай Акадэміі Мастацтваў у Санкт-Пецярбурзе (1814-16). У 1816 г. атрымаў атэстат і быў уганараваны Другім срэбным медалём за архітэктурную кампазіцыю. У 1817-19 гг. удасканальваўся ў Парыжы і Італіі. З 1819 па 1932 - загадчык кафедры архітэктуры і прафесар (з 1823 г.) Віленскага ўніверсітэта. Чытаў лекцыі, распрацаваў уласны курс лекцый па тэорыі архітэктуры, заснаваў бібліятэку па архітэктуры з 300 тамоў. Адначасова займаў пасаду галоўнага архітэктара Ўніверсітэта і Віленскай вучэбнай акругі. Быў чальцом эканамічнага камітэта Ўніверсітэта і чальцом камітэта па рэарганізацыі школ. "Невысокага росту, лысы, адносна тоўсты, злёгку папсаваны воспай, з разумным і трохі іранічным поглядам, і трохі завышанага меркавання аб сабе".

Пасля закрыцця Віленскага ўніверсітэта займаўся архітэктурным праектаваннем. У 1838 г. разам з жонкай Евай з Пальчэўскіх перабраўся ў маёнтак пад Нясвіжам, захапіўся сельскай гаспадаркай. Пасля смерці жонкі ў 1855 г. некаторы час жыў у сына Баляслава ў Варшаве, затым вярнуўся ў Вільню, дзе завяршыў трэці том сваіх "Асноў архітэктуры". Пахаваны на могілках Росы ў Вільні. Магіла не захавалася.

Аўтар першага ў Літве падручніка тэорыі архітэктуры "Асновы архітэктуры для акадэмічнай моладзі" (на польскай мове; т. 1-3, Вільня, 1828-29,1857), артыкулаў аб выкладанні архітэктуры, аб будаўніцтве, аб прыгажосці прамысловых вырабаў, догляду садоў і паркаў, аб Л. Стуоке-Гуцэвічы, аб выхаванні жанчын, аб рымскім цэменце.

**Асноўныя праекты:**

1816 г. - праект перабудовы палаца сенатара Варцэлі ў Санкт-Пецярбурзе.

1817 г. - праект пераробкі інтэр'еру Калоннай залы (Аулііі) з пераўтварэннем яго ў галоўную залу бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта; праекты кніжных шаф і мэблі для бібліятэкі.

1819-22 гг. - перабудова столі прафесарскай чытальнай залы ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта. Стварэнне столі з глыбокімі кесонамі, з разеткамі і фрыз з арнаментам лісца аканта на сінім фоне.

1822 г. - праект перабудовы ўсіх фасадаў Віленскага ўніверсітэта.

1823-24 гг. - перабудова касцёла Святога Барталамея ў Вільні.

1824-27 г. - кіраўніцтва перабудовай губернатарскага палаца па праекце Ў. Стасава

1824 г. - праект палаца ў Яшунах для сям'і Балінскіх-Снядэцкіх. Пабудаваны палац у 1825-28 гг.

1825 г. - палац у парку Жырмуны ў Тускуленах.



***Палац у парку Жырмуны ў Тускуленах***

1826-29 гг. - рэканструкцыя касцёла Святога Іяана (Акадэмічнага) у Вільні: зменены паўднёвы фасад касцёла, з боку вуліцы Св. Іяана (Svento Jono) прыбудаваны порцік з чатырма карынфскімі калонамі; зменены інтэр'ер, паменшана колькасць алтароў; створаны драўляны амбон, упрыгожаны пазалочаным разьбярствам; у паўночным нефе ўсталяваны помнік першаму рэктару Страйноўскаму.

1827 ? - перабудова Спаскай царквы пад анатамічны кабінет.



***Касцёла Святога Барталамея ў Вільні***

1828 г. - праект і пабудова “егіпецкага маста” на Вілейцы ў Батанічным садзе, створаным Станіславам Юндзілам.

1829 г.- праект кальвініcцкага збору ў Вільні на вуліцы Пілімо, 18. Пабудаваны касцёл у 1830-35 гг. Лічыцца лепшым помнікам другой траціны XIX стагоддзя ў Вільні.

1829 г. - праект гімназіі ў Слуцку, будаўніцтва завершана ў 1838 г.



***Кальвініcцкі збор у Вільні***



***Слуцкая гімназія, унутраны від залы***

1832 г. - праект аднапавярховай вілы ў маёнтку Ліхадзееў.

1830-е гг. - праект 100 пакаёвага палаца і 18 гектарнага парку ў маёнтку Жылічы (Дабосна) маршалка Ігнацыя Булгака.



***Палац у Жылічах***

1835 -36 гг. - праект алтара капліцы Дабравешчання Р.П. Марыі (Кежгайлаўскай) ў Кафедральным саборы.

1835-36 гг. - праект труны Панскай у капліцы Труны Панскай у Кафедральным саборы.

1854 г. - завершана будаўніцтва касцёла Ўшэсця Найсвяцейшай панны Марыі ў Жалудку.

1856-58 - перабудова паўднёвага корпуса Віленскага ўніверсітэта з умацаваннем будынка масіўнымі контрфорсамі.

Па яго сумесных з Казімірам Хрышчановічам праектах пабудаваны вучэльні ў Бабруйску, Невелі Пскоўскай вобласці, Мазыры, Камянцы.

***В. Сліўкін.***

**Літаратура:**

Будрейко Е. К 200-летию рождения профессора архитектуры Кароля Подчашинского.// Magazin Wilenski. № 21. 1990г.

Загідуліна М.А. Караль Падчашынскі - архітэктар класіцызму. // З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны. Ліда. 2006.

Klos J. Wilno. Przewodnik krajoznawczy. Wilno. 1923.

Levandauskas V. Architektas Karolis Podиaљinskis. Vilnius. 1994.

# Генерал-лейтэнант Юзаф Зарэцкі (Іосіф Заржэцкі) (19.12.1800 - 29.01.1869)

19 снежня споўнілася 210 гадоў з дня нараджэння генерал-лейтэнанта інжынернага корпуса **Юзафа Зарэцкага** (у рускім напісанні Иосифа Заржецкого, у польскім напісанні Jozafa Zarzeckiego). Паколькі двухсотгадовы юбілей гэтага выхадца Беларусі ніяк не адзначаўся, ёсць неабходнасць успомніць пра яго з нагоды 210-годдзя. Тым больш, што на сайтах беларускіх амбасад сярод выбітных людзей беларускай зямлі - вынаходнікаў, даследчыкаў, фізікаў, паэтаў, пісьменнікаў, кампазітараў - ён згадваецца як выбітны інжынер-будаўнік. Разам з тым, пра яго няма ні слова ў беларускіх энцыклапедыях.

Юзаф Войцахавіч (у расійскіх дакументах Іосіф Альбертавіч, у некалькіх выпадках Адальбертавіч) Зарэцкі нарадзіўся ў шляхецкай сям'і ў маёнтку або фальварку Скамарошкі. Магчыма, у Скамарошках Капцёўскага сельсавета Гарадзенскага раёна, якія нядаўна былі ўключаныя адміністрацыйна ў склад горада Гародні пад назвай "вуліца Скамарошкі".

Напэўна скончыў дваранскую вучэльню. Паступіў у Віленскі ўніверсітэт. Вучыўся ва ўніверсітэце ў год, калі дзейны таемны дараднік, сенатар і кавалер Навасільцаў Н.Н. раскрыў таемныя таварыствы філаматаў і філарэтаў. Юзафу Зарэцкаму, гэтак жа як Ігнату Дамейку і яшчэ 14 студэнтам, пашанцавала - яны па распараджэнні Навасільцава былі адпушчаны ў месцы іх ранейшага жыхарства. Юзаф Зарэцкі быў адпраўлены ў Лідскі павет у маёнтак прэзідэнта Лідскага гродскага суда Крыдзеля. Не сумняваюся, што Зарэцкі, гэтак жа, як і Дамейка, наведваў паседжанні і быў чальцом таварыства філарэтаў, і гэтак жа, як у Ігната Дамейкі, у яго знайшліся высокія заступнікі.

Адважуся сцвярджаць, што адвёў удар ад маладога Зарэцкага яго сваяк тытулярны дараднік Ануфры Антонавіч Крыдзель. Н.Н. Навасільцаў і А.А. Крыдзель былі масонамі, Крыдзель быў чальцом ложы "Паўночных сяброў", Навасільцаў - чальцом ложы "Злучаных сяброў". У першай палове 19-га стагоддзя Крыдзелі фігуруюць сярод лідскіх абшарнікаў: тытулярны дараднік Ануфры Антонавіч Крыдзель, дараднік гарадзенскай казённай палаты Крыдзель і Аляксандр Крыдзель. Як і многія іншыя лідскія абшарнікі, Крыдзелі ў 1812 г., абнадзееныя магутнасцю войска Напалеона, павялі сябе не зусім годна па стаўленні да расійскага імпе-ратарскага дома, але былі дараваныя. Бацька Юзафа - Войцах Зарэцкі верагодна ўдзельнічаў, як і многія ліцвінскія шляхціцы ў вайне на баку Напалеона і загінуў, альбо не вярнуўся. Маці была з Крыдзеляў.

У 1826 г. Юзаф Зарэцкі скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта і паступіў у Пецярбургскі інстытут корпуса інжынераў шляхоў зносін; адначасова быў залічаны кандуктарам у 4-ты вайскова-працоўны батальён. Праслухаўшы інстытуцкі курс паспяхова здаў іспыт і атрымаў годнасць прапаршчыка корпуса інжынераў шляхоў зносін, пасля чаго працягнуў навучанне ў афіцэрскіх класах. У 1828 г. здаў іспыт і атрымаў годнасць падпаручніка, у наступным годзе - паручніка і быў залічаны ў рэзерву. Здольнасці, працавітасць і поспехі Зарэцкага былі адзначаныя занясеннем яго прозвішча на мармуровую дошку ў канферэнц-зале Пецярбургскага інстытута інжынераў шляхоў зносін.



*Герб Зарэцкіх "Варня"*

У 1829 г. паручнік Ю. Зарэцкі займаўся тапаграфічнай здымкай мясцовасці пад Ноўгарадам для вайсковых паселішчаў. Дырэктар Будаўнічага дэпартамента па марской частцы генерал-лейтэнант Л.Л. Карбаньер у 1830 г. запрасіў маладога інжынера займацца праектаваннем докаў для Кранштадта. Зарэцкі пагадзіўся і быў пераведзены ў корпус інжынераў марской будаўнічай часткі і прыкамандзіраваны да Кранштадтскай інжынернай каманды. З гэтага часу, на працягу сарака гадоў ён займаўся будаўнічымі справамі па Марскім ведамстве.

Першыя 16 гадоў Юзаф Зарэцкі быў тэхнічным кіраўніком на будаўніцтве Мікалаеўскіх докаў у Кранштадце. Імператар Мікалай І вырашыў пабудаваць кранштадскія докі на месцы, якое не здужаў яго прапрадзед Пётр І. Будаўніцтва докаў ажыццяўлялася ў неверагодна цяжкіх умовах з-за сталага прытоку вады. Некаторыя падмуркі закладваліся на 12 м ніжэй ад узроўню вады. Тэхнічныя сродкі для пабудовы докаў заставаліся такімі ж, як і пры Пятры І: для адпампоўкі вады скарыстоўваліся палівачкі, драўляныя помпы і каўшы на ланцугах. Толькі ў 1835 г. з'явілася першая паравая васьмісільная машына з двума чыгуннымі помпамі. Але да таго часу найболей складаныя работы былі завершаныя. Зарэцкі энергічна і настойліва пераадольваў тэхнічныя цяжкасці.

У 1838 г. быў завершаны Карабельны док. За час будаўніцтва гэтага дока Ю. Зарэцкі атрымаў чыны штабс-капітана (1834 г.) і капітана (1837 г.) і абвянчаўся з Ганнай Карлаўнай фон Грэвенс - дачкой капітана першага рангу Карла Ільіча фон Грэвенса. У сакавіку 1838 г. у іх нарадзілася дачка Ганна Яўгенія, а праз 5 гадоў сын Мікалай.

У пачатку 1839 г. Ю. Зарэцкі быў прызначаны асноўным выканаўцам работ на Фрэгатным доку, яму ж былі давераны работы па аздабленні гранітам Абвод-

нага канала.

У 1843 г. Мікалай І прымае рашэнне пабудаваць 4-ярусную казематаваную батарэю ва ўнутранай частцы паўбастыёна Купецкай гавані. Батарэя павінна была франтальным агнём душыць спробы караблёў супраціўніка праравацца на Малы Кранштадтскі рэйд. Складанне праекту і яго выкананне ён усклаў на інжынер-падпалкоўніка Ю. Зарэцкага. Праект батарэі Ю. Зарэцкі склаў за тры тыдні, і наступныя сем гадоў займаўся яго рэалізацыяй. Праца была выключна складанай. Начальнік Галоўнага Марскога штаба князь А. С. Меншыкаў прызнаваў: *"Няма ні аднаго мейсца пры Кранштадтскім рэйдзе, якое б уяўляла для будаўніка больш цяжкасцяў, як цяперашні паўбастыён".*

Пры пабудове падмурка, кладцы мураванага растверка, будаўніцтве казематаў, пабудове скляпенняў Ю. Зарэцкі знаходзіў арыгінальныя рашэнні, выкарыстоўваў новыя тэхнічныя прылады і матэрыялы. Работы на батарэі вяліся кругласутачна, уначы - пры штучным асвятленні. Агульны кошт работ перавысіў мільён рублёў. Пасля завяршэння асноўных работ Мікалай І загадаў называць батарэю "Князь Меншыкаў". Ю. Зарэцкі, які стаў да таго часу інжынер-палкоўнікам, быў узнагароджаны ордэнам Святога Ўладзіміра трэцяй ступені і 5 тысячамі рублёў. На сценах батарэі змясцілі дзве памятныя дошкі: ***«Батарея «Князь Меншиков» начата в 1843 году окончена 1850 году»*** і ***«Во время управления Морским Министерством Адмирала Князя Меншикова строителем был инженер-полковник Заржецкий, при производстве работ находились: инженер-капитан Вильсон, инженер-штабс-капитан Домантович, инженер-подпоручик Шведе».***

По фронце батарэя мела 60 м, у вышыню 22 м. У шасці казематах на трох ярусах і ярусе адкрытай абароны былі размешчаны 44 гарматы, з якіх сорак дзве былі новымі на той час трохпудовымі бамбічнымі гарматамі. Кожны каземат меў дзве амбразуры. Фас батарэі быў бліндаваны гранітнымі плітамі. У прыбудовах знаходзіліся пад'ёмнікі і склепы для бомб і зарадаў. На ярусе адкрытай абароны знаходзіліся дзве адмысловыя корбы для пад'ёму трохпудовых бомб на паверхню праз люкі ў прыбудовах.

У снежні 1848 г. Ю. Зарэцкі прыступіў да складання праекту на пабудову казематаванай батарэі на заходнім фронце Кранштадскага форта; у 1850 г. ён быў прызначаны будаўніком гэтай батарэі. Пры будаўніцтве батарэі Ю. Зарэцкі ўжыў новы спосаб пабудовы падмуркаў, што нашмат зменшыла кошт будаўніцтва.

Адначасова ў гэтыя гады Ю. Зарэцкі быў чальцом і прымаў удзел у паседжаннях розных камісій: па ўстаноўцы водаадліўной паравой машыны ў докавым кранштадтскім басейне, па арганізацыі першага вучэбнаага марскога экіпажу ў Кранштадце, па загарадзі паўночнага фарватэру, дзе наглядаў за работамі, якія праводзіліся па складзеным ім праекце. У 1849 г. ён перарабіў купал Кранштадскага рымска-каталіцкага касцёла.

У 1850 г. Зарэцкі аказаў садзейнічанне мастаку А.П. Багалюбаву, які ў сваіх "Запісках марака-мастака" пакінуў аб ім цёплы ўспамін: *" У той час жыў-быў у Кранштадце палкоўнік Зарэцкі - хвалёны будаўнік фартоў. ¨н быў адукаваны інжынер, любіў мастацтва, часта са мной гутарыў аб маім жыцці наогул, і калі я ... паказаў яму свой альбом, ён моцна мною зацікавіўся"* і пераканаў генерала Кохіюса ўзяць Багалюбава да сабе асабістым ад'ютантам: *"Прадставіўшы, сказаў, што з мяне будзе мастак, калі ён дасць мне волю займацца ў Акадэміі. "Дык ён зусім не фрунтовы", - адказваў генерал. "Ды які вам фрунтовы патрэбен, ён сумленны хлопец. Калі дасце яму якое-небудзь даручэнне, то ніколі вас не падмане. А фрунтавік навошта вам?".*

Падчас Усходняй вайны 1855 г. ён прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы Кранштадта да абароны і пабудаваў пры Лісіным Носе гавань для кананерак.

За 26 гадоў працы ў Кранштадце Ю. Зарэцкі быў уганараваны шаснаццацю імператарскімі падзякамі і некалькімі ўзнагародамі.

1 студзеня 1856 г. Ю. Зарэцкаму прысвоена



***Сямейны някропаль Зарэцкіх на Лідскіх каталіцкіх могілках***



***Магіла генерал-лейтэнанта Юзафа Зарэцкага***




***Магіла Мікалая Іосіфавіча Зарэцкага***

званне генерал-маёра, і ён быў пераведзены ў Марское міністэрства. Чалец шматлікіх камітэтаў і прысутнасцяў: агульнай прысутнасці Будаўнічага дэпартамента па штучнай частцы (з 1955); тэхнічнага камітэта Галоўнага інжынернага кіравання; агульнай прысутнасці Інжынернага дэпартамента Вайсковага міністэрства па штучнай частцы; тэхнічнага камітэта Галоўнага інжынернага кіравання Вайсковага міністэрства (з 1863); будаўнічага аддзялення Марскога тэхнічнага камітэта (з 1867). 1 студзеня 1864 г. Ю. Зарэцкаму было прысвоена званне генерал-лейтэнанта.

Працягваў займацца праектаваннем. У 1859 г. склаў праект Балтыйскага вайсковага порта ў раёне эстонскага горада Палдыскі. Перад гэтым паўгода вывучаў лепшыя замежныя парты і праводзіў неабходныя пошукі. Праект прызналі вельмі паспяховым і… адклалі яго ажыццяўленне да лепшых часоў. ¨н жа стварыў і першы праект Пецярбургскага гандлёвага порта ля Кананерскага вострава з падходным каналам. Пры пошуках Зарэцкі вызначыў прыроду ўтварэння пясчаных водмеляў за вусцем Нявы. Марскі канал да Пецярбурга па праекце Зарэцкага быў абаронены дамбамі. Яны і сёння, зарослыя хмызняком і дрэвамі, служаць маракам, нагадваючы аб адным з таленавітых будаўнікоў Кранштадтскай цвердзі.

У 1862 г. дачка Зарэцкага Ганна Яўгенія выйшла замуж за Фёдара Антонавіча Шванебаха - камандзіра грэнадзёрского сапёрнага батальёна, пасля генерал-маёра. Нарадзіліся ўнукі - Барыс (1863), Яўгенія (1864), Эмануіл (1866), Ганна (1869).

Сваякі Іосіфа Зарэцкага ў Лідскім павеце валодалі маёнткамі Зарэчча і Чаплеўшчына, Крыдзелі валодалі маёнткам Пяцюлеўцы або Малюзін і фальваркам Талькаўшчына. Юзаф Зарэцкі у 1860-я гады набыў маёнткі Воранава і Жырмуны. Пасля яго смерці, смерці сына Мікалая і ўнучкі Ганны Мікалаеўны маёнткі ў 1899 г. перайшлі дачцы Ганне Іосіфаўне Шванебах. Яна склала тастамант, паводле якога маёнткі размеркавала паміж малодшым сынам Тодарам Шванебахам 1874 г.н. і непаўнагадовым унукам Барысам Шванебахам, сынам яе памерлага старэйшага сына Эмануіла. У 1920-х гадах па прычыне адсутнасці ўладальнікаў маёнткі перайшлі Польскай дзяржаве.

Пахаваны генерал-лейтэнант Юзаф Войцахавіч Зарэцкі на лідскіх каталіцкіх могілках з паўночнага боку капліцы Святой Барбары. На велізарнай надмагільнай гранітнай пліце выпуклы надпіс: IOZEF ZARZECKI SYN WOICIECHA HERBU WARNIA GENERAL LEITNANT KORPUSU INGYNIEROW. URODZIL SIE W SKOMOROCZKACH 19 GRUDNIA 1800 ROKU UMARL W PETERSBURGU 29 STYCZNIA 1869 ROKU. У сямейным магільным склепе, абгароджанай металічнай агароджай, таксама пахаваныя: сын Мікалай Іосіфавіч Зарэцкі (11.09.1843 - 12.01.1883); жонка сына Марыя Зарэцкая (1.03.1854- 2.09.1933); унучка Ганна Мікалаеўна Зарэцкая (1881, Вільня-1899, Парыж). З паўднёвага боку агароджы пахаваныя Войцах, Марыя і Ружа Зарэцкія - без дат, верагодна, маленькія дзеткі і Мая Крыдзель.

У польскіх крыніцах паведамлялася, што побач з Юзафам Зарэцкім пахавана яго жонка Ганна Карлаўна Зарэцкая, народжаная фон Грэвенс (1.07.1807- 1.11.1891), але яе надмагільны помнік адсутнічае.

***В. Сліўкін.***

**Першакрыніцы:**

Боголюбов А.П. Записки моряка –художника.

Платонов О. Тайная история массонства.

Русский энциклопедический словарь А.А. Половцова.

НГАБ у Гародні, Ф. 586. воп. 1, спр. 1370.

# Да стагоддзя Данііла Маркавіча Шапіры

Дырэктарскі корпус у Лідзе быў значным і выдатным. Паволі збіраю матэрыялы, спадзяюся сабраць выставу "Лідскія дырэктары". Памíралі былыя дырэктара, як правіла, на баку, у асноўным у Менску пасля павышэння. Помнікаў таму не засталося, засталася людская памяць. Даніл Маркавіч Шапіра памёр і пахаваны ў Лідзе. І дачка яго, выйшаўшы на пенсію, засталася жыць у Лідзе.

Нарадзіўся Д.М. Шапіра 15 снежня 1910 г. у пас. Рудня Мехаўскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і рабочага. Працоўную дзейнасць пачаў у 1926 г. на ст. Езярышча Віцебскай вобласці. У 1930-36 гг. працаваў на Віцебскім заводзе заточных станкоў. Член КПСС з 1932 г. З 1936 па 1946 г. дырэктар іголкавага, а затым маторарамонтнага завода г. Тамбова. З 1946 па 1962 г. дырэктар завода "Лідсельмаш". За перыяд з 1947 па 1957 г. калектыву завода 5 раз прысуджаўся пераходны Чырвоны Сцяг Савета Міністраў БССР. У 1955 г. завод пераадолеў мяжу ў 1 млн. рублёў, было выпушчана прадукцыі на 1 187 тыс. руб. У 1957 -58 гг. завод пачаў выраблядь першыя двухрадковыя бульбакапалкі КТН-2, што паклала пачатак далейшай спецыялізацыі па сельгасмашынах для бульбаводства.

З 1962 г. на пенсіі па стане здароўя. Член гаркама КПБ і дэпутат гарсавета. Член клуба баявой, рэвалюцыйнай і працоўнай славы. Намеснік старшыні гарадского камітэта народнага кантролю. Персанальны пенсіянер. Памёр пасля працяглай і цяжкай хваробы 9 студзеня 1969 г.



***Суботнік на Лідсельмашы. У цэнтры Д.М. Шапіра.***

***В. Сліўкін.***

# Будзевіч Іван Іванавіч

Нарадзіўся 25 снежня 1940 г. у Лідзе. Доктар сель-скагаспадарчых навук (1992), прафесар (1996), член-карэспандэнт Акадэміі аграрных навук Рэспублікі Беларусь (1996), член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2003).

Скончыў Гарадзенскі сельскагаспадарчы інстытут (1968). Галоўны заатэхнік кіравання сельскай гаспадаркі Смалявіцкага райвыканкама (1968-76). Малодшы навуковы супрацоўнік (1976-85), загадчык лабараторыі (1985-88), загадчык аддзела (1988-96), намеснік дырэктара па навуковай працы (1996-2002), адначасова загадчык лабараторыі Беларускага навукова-даследчага інстытута жывёлагадоўлі. Загадчык лабараторыі дзяржаўнай навуковай установы "Інстытут цепла- і масаабмену імя А.У. Лыкава НАН Беларусі". Навуковы кансультант рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Інстытут жывёлагадоўлі НАН Беларусі" (2004 -05). Аўтар больш за 130 навуковых прац, мае 6 аўтарскіх пасведчанняў і патэнтаў.

Стварыў новы кірунак у вобласці біятэхналогіі рэпрадукцыі буйной рагатай жывёлы. Упершыню ў Рэспубліцы Беларусь ажыццявіў буйнамаштабныя комплексныя даследаванні тэарэтычных, метадычных і практычных аспектаў біятэхналогіі трансплантацыі эмбрыёнаў у малочнай і мясной жывёлагадоўлі, якія дазваляюць значна паскорыць стварэнне высокапрадуктыўных статкаў жаданых генатыпаў. На аснове вывучэння ўплыву розных біялагічных, тэхналагічных фактараў, гарманальнага і біяхімічнага статуту арганізма жывёл, вывучэння абмену рэчываў прапанаваў тэарэтычнае абгрунтаванне і ажыццявіў комплексную распрацоўку найболей дасканалых метадаў атрымання, захоўвання і перасадкі біяматэрыялаў, якія з'яўляюцца галоўнымі звёнамі ў тэхналагічным працэсе трансплантацыі эмбрыёнаў буйной рагатай жывёлы.



Узнагароджаны медалём.

***В. Сліўкін.***

**Асноўныя працы:**

1. Арганізацыя і досвед укаранення метаду трансплантацыі эмбрыёнаў у Беларусі // Малочная і мясная жывёлагадоўля. 1992.

2. Стан, практыка выкарыстання і перспектывы трансплантацыі эмбрыёнаў у селекцыі буйной рагатай жывёлы Рэспублікі Беларусь. Мн., 1998.

3. Новыя біятэхналагічныя метады ў паскарэнні селекцыйнага працэсу буйной рагатай жывёлы (разам з І.П. Шыйка) // Аграрная навука на мяжы XXI стагоддзя. Матэрыялы агульнага сходу Акадэміі аграрных навук РБ. Мн., 2000.

# Ежы Путрамант

## *(100 год з дня нараджэння)*

**Ежы** (у дзяцінстве Юрак) **ПУТРАМАНТ**, ПУТРАМЕНТ (польск.: Jerzy Putrament; 14 лістапада 1910, Менск - 23 чэрвеня 1986, Варшава) - польскі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ПНР (1953, 1955, 1964). Кавалер ордэна "Будаўнік Народнай Польшчы" (1974).

З сям'і асадніка, які з 1920-х трымаў фальварак Банева ў ваколіцах Дакудава Лідскага павету. Скончыў Дзяржаўную гімназію імя Караля Хадкевіча ў Лідзе (1929, вучыўся з 1925), філалагічны факультэт Універсітэта Стэфана Баторыя (1934) ў Вільні. Падчас навучання ва ўніверсітэце (1931-1934) чалец паэтычнай групы - Жагары; удзельнік ідэйнага руху віленскай акадэмічнай лявіцы. Сурадактар выданняў "Па-просту" і "Карта", абвінавачаны ў 1937 годзе падчас палітычнага працэсу над групай Г. Дэмбінскага. У 1939-41 гг. быў у Львове, пазней у Кіеве, Маскве, Саратаве, Куйбышаве, Сяльцах, У часы 2-й Сусветнай вайны (1939-1945) - адзін з арганізатараў Саюза польскіх патрыётаў у СССР і 1-ай арміі Войска Польскага. Чалец рэдакцыі "Новых гарызонтаў", афіцэр-палітработнік I дывізіі імя Т. Касцюшкі. З 1944 чалец Польскай рабочай партыі, з 1948 чалец ПОРП, з 1964 чалец ЦК ПОРП. Быў паслом ПНР у Швейцарыі (1945-1947) і Францыі (1947-1950). У 1952-56 - пасол (дэпутат) на Сейм. Генеральны сакратар Саюза польскіх пісьменнікаў (1950-56), віца-старшыня СПП з 1959 г.



**Творчасць.**

Выступаў у друку з 1932. Пачаў з паэзіі, пісаў крытычныя творы, публіцыстыку. Станаўленне як празаіка адбылося ўжо ў гады вайны, і першая кніга навэлаў "Святая куля" выйшла адразу пасля вайны, у 1946 годзе. Паступова перайшоў да буйных формаў: аповесці і раманы. Яму належыць кніга ўспамінаў "Паўвеку" (Pol wieku т. 1-4, 1961-1970), у т.л. пра Ліду 1930-х і Лідскую гімназію. Для творчасці Ежы Путраманта характэрныя вастрыня праблематыкі, драматызм канфліктаў і дынамічнасць падзей, схільнасць да палемічнай завостранасці.

Быў знаёмы з М. Танкам, высока ацаніў творчасць Ежы Путраманта Чэслаў Мілаш.

**Творы.**

**Паэзія:**

1934 - "Wczoraj powrot" ("Вяртанне ва ўчора");
1937 - "Droga lesna" ("Лясная дарога");
1944 - "Wojna i wiosna" ("Вайна і вясна");
1951 - "Wiersze wybrane" ("Выбраныя вершы").

**Проза:**

1936 - "Struktura nowel Prusa" ("Структура навелаў Пруса";
1946 - "Swieta kula" ("Святая куля");
1947 - "Rzeczywistosc" (Рэчаіснасць);
1951 - "Wrzesien" ("Верасень");
1952 - "Notatnik chinski" ("Кітайскі нататнік");
1953 - "Od Wolgi do Wisly" ("Ад Волгі да Віслы");
1953 - Na literackim froncie
1954 - "Rozstaje" ("Ростані");
1955 - "Trzy powroty" ("Тры павароты");
1956 - "Notatki polemiczne" ("Палемічныя нататкі");
1956 - "Dwa lyki Ameryki" ("Два глыткі Амерыкі");
1956 - "Wakacje" ("Канікулы");
1957 - "Wypadek w Krasnymstawie" ("Выпадак у Чырвонаставе");
1957 - "Trzynasty z Wesolka" ("Трынаццаты з Вясёлкі");
1958 - "Strachy w Biesalu" ("Страхі ў Бесалі");
1959 - "Kronika obyczajow" ("Кроніка звычаяў");
1959 - "Fiolki w Neapolu" ("Фіялкі з Неапаля");
1961 - "Arka Noego" ("Ноеў каўчэг");
1961 - "Arkadia" ("Аркадзія");
1961 - "Chinszczyzna" ("Кітайская грамата");
1961 - "Pol wieku", t. I ("Паўвеку", т. I);
1961 - "Pol wieku", t. II ("Паўвеку", т. II);
1963 - "Cztery strony swiata" ("Чатыры бакі свету");
1963 - "Pasierbowie" ("Пасынкі");
1964 - "Odyniec" ("Адзінец", "Дзік-адзінец");
1964 - "Kacik laika" ("Куточак дылетанта");
1965 - "Czarne sosny" ("Чорныя сосны");
1965 - "Pol wieku", t. III ("Паўвеку", т. III);
1966 - "Puszcza" ("Пушча");
1967 - "Malowierni" ("Малаверныя");
1969 - "Boldyn" ("Болдын");
1971 - "Pol wieku", t. IV ("Паўвеку", т. IV).

***Уладзімір Урбановіч***

# Пошукі аўтарскіх рукапісаў і дзённіка

Неяк члены нашага літаратурна-краязнаўчага гуртка даведаліся, што чатырнаццаць гадоў жыцця вядомага польскага паэта, празаіка і публіцыста **Ежы Путраманта** звязаны з нашым краем.

Ежы Путрамант нарадзіўся ў 1910 годзе ў Мінску. З 1925 года сям'я іх пражывала спачатку ў горадзе Лідзе, а потым на хутары Банева (недалёка ад вёскі Дакудава Лідскага раёна). Пасля заканчэння Лідскай гімназіі Путрамант паступіў на філалагічны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У гэты час і пачалася яго літаратурная творчасць. Пісьменнік зблізіўся з маладымі рэвалюцыйна настроенымі пісьменнікамі, прагрэсіўнай моладдзю, што адыграла важную ролю ў яго далейшым жыцці і літаратурнай творчасці.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Ежы Путрамант жыў у Савецкім Саюзе, супрацоўнічаў у польскім часопісе «Nowe Widnokregi» ("Новыя гарызонты")*, прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі польскай арміі, а з 1943 года як салдат 1-й дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі са зброяю ў руках змагаўся за вызваленне Польшчы.

У многіх сваіх раманах, аповесцях, такіх, як «Рэчаіснасць», «Верасень», «Паўвеку» і іншых Ежы Путрамант глыбока і праўдзіва апісаў рэвалюцыйную барацьбу ў Заходняй Беларусі ў 30-я гады.

У першым томе мемуараў «Паўвеку» пісьменнік расказвае пра сваё жыццё з ранняга дзяцінства да пачатку польска-нямецкай вайны ў 1939 годзе. У кнізе дадзены яскравы малюнак грамадскіх адносін у Заходняй Беларусі ў 20-30-я гады, паказаны шляхі пераходу перадавой часткі польскай моладзі на бок рэвалюцыі. Аўтар апісвае Ліду, Дакудава, Банева, Іўе, Наваградак, возера Свіцязь, рэкі Нёман і Дзітву і многа іншых мясцін, называе людзей, некаторыя з якіх жывуць і сёння.

У 1958 годзе наш літаратурна-краязнаўчы гуртог наладзіў перапіску з Ежы Путрамантам. У адным са сваіх лістоў ён пісаў нам: *«Я вельмі расчулены вашай памяццю. Сапраўды, я пражыў у Баневе каля 10 гадоў — з 1928 па 1939. Там пачаў сваю літаратурную дзейнасць, там засталіся ў час вайны і мая асабістая бібліятэка, і шэраг рукапісаў, і дзённік, і самыя лепшыя ўспаміны маладосці. Нейкі час я нават падпісваўся «Банеўскі»—гэта быў адзін з маіх псеўданімаў... Пасылаю фотакартачку. Калі атрымаеце — напішыце...»*

У другім лісце Ежы Путрамант пісаў: *«З беларускіх пісьменнікаў таго часу я добра знаёмы і сябрую з Максімам Танкам, з якім сустрэўся нядаўна ў Маскве на III з'ездзе ССП».*

Гэта навяло нас на думку — перачытаць яго кнігі «Верасень», «Рэчаіснасць», «Паўвеку» і іншыя і летам наведаць мясціны, дзе жыў пісьменнік, сустрэцца з людзьмі, якія яго ведалі, пашукаць рукапісы, дзённік, сабраць дадатковыя матэрыялы пра яго грамадскую дзей-насць у нашым краі.

Паход наш быў камбінаваны. Адначасова з літаратурай мы вывучалі гісторыю і эканоміку роднага краю, наведалі музей шклозавода «Нёман» і Лідскі раённы краязнаўчы музей. Асноўную частку шляху мы ехалі аўтобусам, а па літаратурных мясцінах падарожнічалі пешшу.

**Бярозаўка**.

Аўтобус шпарка рухаецца на паўночны-захад. Мінаем Наваградак, вёску Лоўчыцы — некалі паляўнічую дачу польскага караля Стэфана Баторыя, прыгожыя дубровы і хвойныя бары. Перад намі раскрываецца панарама Бярозаўкі з высокімі фабрычнымі комінамі шклозавода «Нёман».

У ваколіцах цяперашняй Бярозаўкі існавалі яшчэ два заводы. Адзін з іх знаходзіўся ля вёскі Астроўна і называўся Старой Гутай. Калі гэты завод быў заснаваны — ніхто не памятае. Але большасць старажылаў мяркуе, што пасля адмены прыгоннага ладу. Старая Гута існавала да 1915 года і была спалена пры адступленні царскіх войск.

У апошняй чвэрці XIX стагоддзя за 5 кіламетраў ад Бярозаўкі купец Краеўскі пабудаваў другі шклозавод, які сталі называць Новая Гута. Каб наладзіць вытворчасць высакаякаснай прадукцыі, Краеўскі прывёз з Чэхаславакіі дасведчанага майстра — шклавара Юльяна Столе, які пазней стаў яго супольнікам.

У канцы XIX ст. два купцы Каплінскі і Трубовіч заснавалі трэці шклозавод у Бярозаўцы, які захаваўся да нашых дзён (Новая Гута была таксама спалена ў 1915 годзе). Паміж заводамі разгарэлася вострая канкурэнцыя. Каплінскі і Трубовіч пераманілі частку рабочых ад Краеўскага з Новай Гуты. Аднак апошні не застаўся ў даўгу, ён падкупіў былых сваіх рабочых, якія пачалі сістэматычна шкодзіць гаспадарам Бярозаўкі. Каплінскі і Трубовіч не вытрымалі канкурэнцыі і прадалі завод. Так Краеўскі і Столе сталі гаспадарамі Новай Гуты і шклозавода ў Бярозаўцы, які назвалі «Нёман».

Рабочыя тут жорстка эксплуатаваліся. У 20—30-я гады не раз успыхвалі забастоўкі, якія польскія ўлады душылі сілаю зброі, арыштамі, масавымі звальненнямі.

Мы наведваем завод, знаёмімся з тэхналогіяй, сустракаемся з выдатным умельцам — мастаком Чылекам Мікалаем і з іншымі рабочымі, якія паказваюць нам прыгожыя вазы з партрэтамі Максіма Горкага, Янкі Купалы, Якуба Коласа, выстаўку лепшых узораў розных вырабаў, расказваюць аб прадукцыі шклозавода «Нёман», якая вядома не толькі ў Савецкім Саюзе, але і ў многіх іншых краінах зямнога шара.

Чылек Мікалай паведаміў нам пра планы расшырэння вытворчасці, рост культурна-бытавога і жыллёвага будаўніцтва, пра арганізацыю адпачынку рабочых.

**Пудзіна.**

Назаўтра пешшу накіроўваемся праз вёску Пу-

*«Новыя гарызонты» — літаратурны штомесячнік на польскай мове, які з восені 1940 года ў Маскве выходзіў пад рэдакцыяй Ванды Васілеўскай.

дзіна па мясцінах, дзе некалі жыў Ежы Путрамант. Навокал хвойнікі і бярэзнікі, ярка-зялёныя прыгожыя кусты ядлоўцу, многа маладых лесапасадак.

Пудзіна — маленькая вёска на ўзбярэжжы лясной рачулкі. Некалі тут была паляўнічая дача князёў Радзівілаў, закінутая ў непраходныя глухія лясы. Старажылы расказваюць, што і назва «Пудзіна» паходзіць ад слова «пудзіла» (страшыла), такая тут была бязлюдная глухмень. У 1939 годзе пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР тут арганізаваўся першы ў Баранавіцкай вобласці калгас, а ў гады Вялікай Айчыннай вайны — першы партызанскі атрад у нашым краі на чале з рэвалюцыянерам-падпольшчыкам Радзецкім Міхаілам Раманавічам. У ваколіцах Пудзіна партызаны правялі некалькі жорсткіх баёў з акупантамі. За ўсё гэта ворагі люта помсцілі мірнаму насельніцтву, а восенню 1943 года вёску разбамбілі нямецкія самалёты; большасць жыхароў засталася без хлеба і жылля. Другі раз фашысты ўварваліся ў Пудзіна вясною 1944 года. Бязлітасна рабавалі насельніцтва, моладзь адпраўлялі на работы ў Германію, а мужчын, каго толькі злавілі, расстрэльвалі і ўсё палілі дашчэнту. Тыя, што засталіся жывымі, разбрыліся па навакольных вёсках Васілевічы, Бярозаўка, Дакудава і інш.

Старыя жанчыны проста, па-народнаму скупа ўспамінаюць цяжкія гады акупацыі, даўно перажытае гора і нястачы.

Цяпер вёска адбудавалася: прыгожыя ўтульныя домікі, сады, агароды. Па-новаму сталі жыць людзі: у дамах электрычнае асвятленне, радыё, тэлевізары і інш.

Нам расказваюць, што тут не раз бываў у мясцовага настаўніка Ежы Путрамант, што ні то ў 1936, ні то ў 1937 годзе ён нават выступаў у Вільні па радыё і расказваў пра жыццё гэтай вёскі.

**Банева.**

Далейшы шлях наш ляжыць уніз па рэках Крамушаўка і Нёман. Духмяныя лугі, адзінокія магутныя дубы, кудзеркі хвойніку і алешніку, маляўнічы хутар Вязішча, пераправа праз Нёман — і мы ў Баневе.

Цудоўная мясцовасць на правым беразе Нёмана: прыгожыя дубровы, якія паступова пераходзяць на пясчаных узгорках у хваёвыя бары, бярэзнікі, густыя зараснікі арэшніку, вялізны пясчаны пляж на ўзбярэжжы ракі, заліты яркім ліпеньскім сонцам.

Вось як апісвае Е. Путрамант гэтыя мясціны: *«Гушчар арэшніку, воўчага лыка, магутныя дубы, зараснікі маладой яшчэ ружовай асіны, бярэзнікі. Усё гэта расступаецца — абрыў, а ўнізе вада, за ёю буйныя лугі, як англійскія паркі, луг з прыгожа раскінутымі адзіночнымі дубамі вялізных памераў.*

*Гэта мясцовасць называлася Банева. Дастаткова было яго ўбачыць, каб улюбіцца. За лугам быў яшчэ Нёман, хуткі, свежы, з асляпляльна белымі пляжамі і мноствам старых дрэў на абрывах»*.*

Гэта тут пісьменнік напісаў свой першы зборнік вершаў, які назваў «Лясныя дарогі». Сустрэчныя людзі мала могуць нам чаго расказаць пра Ежы Путраманта, накіроўваюць у Дакудава.




Аднак ісці нам адсюль не хочацца. Мы яшчэ доўга купаемся ў Нёмане, загараем на ўгрэтым ліпеньскім сонцам пяску. Толькі самым адвячоркам адпраўляемся ў дарогу.

**Дакудава.**

Ідзём па Нёмане ўверх: кусты, хвойнік, поле, старыя дзоты і ўмацаванні з часоў Першай Сусветнай вайны, а пасля пыльны гасцінец, уздоўж якога растуць дзе-ндзе старыя пахілыя бярозы, і вёска на гарызонце.

Прыпамінаецца апісанне Е. Путраманта: *«Выехаў на шырокі грунтовы гасцінец, які пралёг з Беліцы праз Ганчары ў Дакудава, больш-менш паралельна Нёману. Спачатку былі густыя кусты, злева тарфянікі з Месячнымі гарамі на гарызонце. Кусты кончыліся. Вялікі прастор палёў, перасечаны гасцінцам з рэдкімі старымі бярозамі, якія пахіліліся злева направа, з захаду на ўсход»* **. Гэта ўсё захавалася па сённяшні дзень.

Мы ў Дакудаве. Гэта старажытная вёска, у якой цяпер налічваецца каля 400 двароў. У «Хронікі Быхаўца» пры апісанні адной з усобных войн паміж Вялікім князем Літоўскім Вітаўтам і Наваградскім князем Карыбутам Альгердавічам сказана: *«...Князь Карыбут Альгердавіч... пачаў збіраць войска і, сабраўшы, пайшоў супраць яго* (Вітаўта.— *У. У.) І сустрэліся войскі ў мясцовасці, што называецца Дакудава, і было разбіта войска Карыбута войскам Вітаўта, сам жа князь Карыбут уцёк у Навагрудак з княгіняю і дзецьмі. Князь жа вялікі Вітаўт, сабраўшы сваё войска, сам пайшоў к Наваградку і, узяўшы горад, князя Карыбута і княгіню яго з дзецьмі захапіў у палон»**** .

У 1705 годзе тут перапраўляўся праз Нёман са сваёю арміяй Карл XII і, па сцвярджэнню некаторых гісторыкаў, амаль не ўтапіўся.

Гутарым з жыхарамі Дакудава. Яны называюць дзесяткі людзей, якія не толькі помняць пісьменніка, але

* Jerzy Pytrament. Pol Wieku, Warszawa, 1961, стар. 81.

** Там жа, стар. 113

*** «Хроника Быховца». М., Академия наук СССР. 1966, стар. 72.

асабіста былі з ім знаёмыя.

Так Лабко Мікалай, Васілеўскі Іосіф расказалі нам пра некаторыя эпізоды з жыцця Е. Путраманта ў іх мясцовасці.

У 1936 годзе Ежы Путрамант з групай перадавой моладзі і пры актыўным удзеле Максіма Танка выдаваў у Вільні газету «Poprostui» («Па-просту»), а пасля «Karta» («Карта»). Газеты выступалі ў абарону інтарэсаў беларускага народа, часта канфіскаваліся і нарэшце былі закрыты. Праз год Ежы Путраманта і ўсіх супрацоўнікаў газет абвінавацілі ў рэвалюцыйнай прапагандзе і аддалі пад суд.

17 верасня 1939 года Ежы Путрамант першы, пачуўшы па радыё, што Чырвоная Армія перайшла польска-савецкую граніцу, акружаны натоўпам сялян, рушыў да гміны (польскае валаснoe праўленне), разбіў партрэты Ю. Пілсудскага і І. Масціцкага і абвясціў усім, што ад гэтага часу гаспадаром жыцця становіцца сам народ.

Старажылы расказваюць пра яго адносіны да сялян, дружбу з мясцовай інтэлігенцыяй. У суседзяў Ежы Путраманта распытваем пра бібліятэку пісьменніка, яго рукапісы, дзённік. Але дарэмна. У час Вялікай Айчыннай вайны былі знішчаны ўсе будынкі, мабыць, тады загінула і бібліятэка, і ўсе рэчы.

Вяртаючыся дамоў, мы зноў наведалі Банева. Адзін з блізкіх знаёмых Е. Путраманта паказаў нам пясчаныя ўзгоркі, якія пісьменнік называў Месячнымі гарамі, малое азярцо — Жабіны рай, Шведскі курган, гару Акудыш на левым беразе Нёмана (у народзе Высокі груд), выспу на Нёмане, зарослую лазою і алешнікам, дзе пісьменнік і яго сябры любілі праводзіць вольны час. Усе гэтыя мясціны з любоўю апісаны ў многіх творах Е. Путраманта.

**Ліда.**

З Ганчароў у Ліду і з Ліды ў Валеўку едзем аўтобусам. Ліда — гэта адзін са старажытных гарадоў Беларусі. Тут захаваўся замак XIV стагоддзя. Гісторыя Ліды ў многім нагадвае гісторыю Навагрудка: частыя войны, пажары, эпідэміі. У XV стагоддзі гэта быў вялікі гандлёвы і рамесніцкі дэнтр, у горадзе жыло тады каля 15 тысяч жыхароў. У 1795 годзе Ліда была далучана да Расіі, і хаця горад стаў павятовым, але ён страціў паступова сваё папярэдняе значэнне, рамёствы заняпалі, і к 1861 году тут засталося насельніцтва толькі 2,5 тысячы. Павелічэнне колькасці насельніцтва і развіццё прамысловасці пачынаецца толькі ў 80-х гадах XIX стагоддзя, пасля пабудовы чыгункі Баранавічы - Вільня.

У час Першай і Другой Сусветных войнаў горад (асабліва цэнтр) быў моцна разбураны. «*Ліда выглядала страшна,*— піша Е. Путрамант.— *Плоская раўніна, брудны малы гарадок, уціснуты паміж трыма вялікімі балотамі, якія зараслі алешнікам, з мноствам крыклівых варон. Бедныя яўрэйскія крамы. Смурод ад тысячы вазоў і коней, якія забарыкадоўвалі ўвесь цэнтр горада ў кірмашовыя дні... Малая, здрадлівая Лідзейка, уся ў трысці, недаступная, бо вілася па імшарышчах, балоцістая і вельмі халодная*» .

Зараз нічога не засталося ад гэтага. Горад расце і прыгажэе з кожным годам: балоты асушваюцца, рэгулюецца цячэнне Лідзейкі, растуць жылыя кварталы ў горадзе, дзесяткі школ, тэхнікум, першы ў Беларусі лакафарбавы завод і інш.

Мы наведалі абутковую фабрыку і ЦЭЦ, пабывалі ў краязнаўчым музеі, агледзелі руіны сярэднявяковага замка Гедзіміна, адпачылі ў прыгожым, цяністым парку. Стары чыгуначнік-пенсіянер Надашкевіч расказаў нам пра спатканне ў 1940 годзе з Янкам Купалам, які прыязджаў на сустрэчу з жыхарамі Ліды, што вылучылі яго кандыдатам у Вярхоўны Савет БССР. Тут доўгі час жыла паэтэса, наша зямлячка, Ніна Тарас, а таксама Валянцін Таўлай.

У гады Вялікай Айчыннай вайны, у цяжкія дні акупацыі Ніна Тарас пісала:

*Слоў няма, каб цяпер гаварыць,—*
*Яны анямелі.*
*Слёз няма, каб наўзрыд праліць,—*
*Яны скамянелі.*
*На руінах стаю адна*
*У суровым маўчанні.*
*А навокал вайна, вайна,*
*Папяліішчы ды камні.*
*Я спыталася паўшых байцоў:*
*— Што рабіць мне, скажыце, героі?*
*І здаецца, шапнулі слаўцо:*
*«Да зброі! Да зброі!»*

Асабліва вялікае ўражанне на юных падарожнікаў зрабіла сустрэча з Кацярынай Міхайлаўнай Клімко, маці юнага героя Лідскага камсамольскага падполля Аляксандра Клімко. Гэтая сціплая жанчына доўга расказвала нам, як яе шаснаццацігадовы Шурык стварыў падпольную камсамольскую арганізацыю, як юныя героі сыпалі пясок у буксы, у цыліндравае масла, расклейвалі партызанскія лістоўкі па горадзе, дастаўлялі партызанам зброю, узарвалі ў дэпо паваротны механізм, электрастанцыю, атруцілі групу нямецкіх афіцэраў... Шурык, яго бацька і іншыя падпольшчыкі загінулі напярэдадні вызвалення горада ў 1944 годзе.

...Слухаюць юныя падарожнікі гэтую сівую жанчыну, і яе расказ, як і апавяданні пра зверствы фашыстаў у Пудзіне, Дакудаве, стварае жудасны малюнак бесчалавечнасці фашызму, паказвае мужнасць, нязломнасць, гераізм народа ў барацьбе за сваё шчасце і незалежнасць.

Начуем у школе-інтэрнаце, што размешчана ў будынку былой польскай гімназіі, якую канчаў Ежы Путрамант.

Пасля паходу мы аб усім напісалі Е. Путраманту. У адказ атрымалі вялікую пасылку кніг, у якіх апісана Ліда, Навагрудак, Іўе, Дакудава і вучоба пісьменніка ў Лідскай гімназіі і Віленскім універсітэце.

Усё тое, пра што нам удалося даведацца і што мы запісалі ў час паходу, мае пэўную каштоўнасць і цікавасць у вучэбна-выхаваўчай рабоце.

*(Паводле У.А. Урбановіч. Шляхамі паэтаў і герояў. З вопыту краязнаўчай работы па беларускай літаратуры. Выдавецтва "Народная асвета", Мінск, 1970 г. Стар. 144 - 153.)*

* Jerzy Pytrament. Pol Wieku, Warszawa, 1961, стар. 51.

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

**Дзіўнае прозвішча**

Я паходжу з зямлі лясоў, балотаў і азёр. Цяпер пасля сарака добра зразумеў, як глыбока ўрэзаўся ў маю свядомасць той пейзаж. Каб акрэсліць гэтую тэрыторыю, дастаткова назваць пяць месцаў, найшчыльней звязаных з маімі бацькамі і маёй маладосцю. Бацька нарадзіўся ў Панявежы, маці – у Наваградку, я – у Менску. Гімназію скончыў у Лідзе, універсітэт - у Вільні.

Зямля лясоў, балотаў і азёр была зямлёй супольнага жыцця некалькіх народаў. Зведала яна прыплавы і адплывы некалькіх моваў, некалькіх дзяржаўнасцяў, некалькіх ладаў. Не заўсёды адно пагаджалася з другім. Мала хто ведае, напрыклад, што ў міжваенны перыяд віленская і наваградская вёска пераэжывала вялікі, пачаты яшчэ ў мінулым стагоддзі працэс адплыву літоўскага элементу, які спарадзіў не польскі, а беларускі прыплыў.

Гісторыя маёй сям'і вельмі дакладна адлюстроўвае гэтыя працэсы. Путраманты выводзяцца з дробнай жмудскай шляхты. Цярпеўшы з першых школьных гадоў з нагоды дзіўнага прозвішча, намагаўся яго расшыфраваць. Падобна, што па-літоўску (а можа, па-латышску) ***pytra*** абазначае нейкую народную страву ці не скіслае молако – ***mentis*** – па-просту – ***мяккі***. Як бачым, этымалогія вельмі празаічная.

Аднакласнікі з другога класа гімназіі імя Св. Казіміра не сягалі так далёка. Хапала ім абзавання: *"Путрамант – атрамант* (чарніла)*"*, і яны рабілі гэта так упарта, што займеў прэтэнзіі да бацькі за прозвішча і задумваўся над тым, каб яго (г.зн. прозвішча, а не бацьку) змяніць. Згадзіўся з ім толькі пасля прачытання "Пана Тадэвуша".

Але і тое не дало мне поўнага задавальнення. У галярэі жмудскіх прозвішчаў, названых Міцкевічам, разам з маім спатыкаліся ў тым жа класе, а таксама ў суседніх Рымшы, Борзабагатыя, Крапштулы і г.д. і да т.п. У заўвагах да школьнага выдання "Пана Тадэвуша" кожнае з тых прозвішчаў было патлумачана! Такі і такі, гербу такога і такога, з павету... і г.д. Толькі пры маім прозвішчы стаяў абразлівы каментар, які запомніўся на ўсё жыццё: "Путрамантаў не ведае ні адзін з геральдыкаў, відаць, гэтае прозвішча фантазійнае". З абурэннем паказаў гэта бацьку. Той таксама быў абураны, пагражаў, што напіша ў выдавецтва. Апавядаў, што мы нават маем герб. На жаль, не мог яго назваць. Гаварыў, што мела гэта быць нешта кшталту бочкі піва, увянчанай дубовым лісцем.

Значна пазней, ужо ў універсітэце перагледзеў усялякія гярбоўнікі на гістарычным семінары. Канешне, не знайшоў ні слоўца пра Путрамантаў у гярбоўніках з шаснаццатага, сямнаццатага, васямнаццатага, дзевятнаццатага стагоддзяў. У апошнім, выдадзеным на пачатку дваццатага, адкрыў з трыумфам паўстаронкі на тэму майго роду. Пададзены нават герб: ***Даленга***. Прыгожы герб. Аж запрыгожы, як на сям'ю, якую геральдысты адкрываюць толькі ў дваццатым стагоддзі.

Канчаткова з маім прозвішчам мяне памірылі "Успаміны з Марыпозы"

Ужо пасля выдання кнігі атрымаў ад майго прафесара Яна Астрэмбскага з Познані ліст, у якім піша м.ін.: *"Этымалогія прозвішча* ***Путрамант****, падазеная панам, утрымоўвае недахопы і памылкі. Прозвішча гэтае мае ў рэчаіснасці сувязь з выразам латышскім і літоўскім* ***путра*** *з найбольш частым значэннем* ***густы крупнік****, але, не гледзячы на гэта, справа выглядае інакш. Па сутнасці гэта прозвішча латышскае пазней зменена ў жмудскім дыялекце. Пачатковае гучанне было* ***Путраімс*** *у значэнні* ***крупы****: у латышскай мове (****putraims****), 1. м.ін.* ***putraimi*** *абазначае ўласна* ***крупы****. Відавочна нехта з продкаў пана з тым прозвішчам або мянушкай перасяліўся з Латвіі ў суседнюю Літву, дакладней кажучы, на Жмудзь. І тут пачалі яго называць на жмудскі лад, г.зн. змяніўшы дыфтонг* ***аі*** *на* ***а****(доўгае),* ***Путрам(а)с****. Нашчадак таго перасяленца называўся ўжо* ***Путрам-антас****(Putram-entas) – дадатак* ***-антас*** *(-entas), як і* ***інтас*** *паказвае ў т.л. паходжанне ад імя бацькі. Продкі пана сядзелі недзе ў Цяльшэўскім павеце. Ва ўсякім разе ў ваколіцах Варняў (літ Варняй) ёсць вёска з літоўскай назвай Путраманцішкі (што абазначае: сядзіба Путрамантаў)".*

**Прадзед, дзед, бацька**

Вельмі мала ведаю пра гісторыю Путрамантаў. Тым не менш, некалькі гадоў таму назад бацька распавядаў мне скарочана біяграфію свайго дзеда, майго прадзеда. Яна не пазбаўлена характэрнага гістарычнага прыхарошвання.

Мой прадзед быў арандатарам маёнтка ў час студзеньскага паўстання (1863 г. *рэд.*) Аднаго дня прыйшоў да яго паўстанцкі аддзел і ,не спаткаўшы неадкладнай гатоўнасці задавальнення сваіх правізійных жаданняў, збіў арандатара, а маёнтак цалкам сплюндраваў. На наступны дзень прыйшлі казакі і, абвінава-

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POLWIEKU. Mlodosc."** Czytelnik, Warszwa, 1962.

ціўшы прадзеда ў аказанні дапамогі паўстанцам, павесілі яго, а можа, зрабілі ласку і расстралялі.

Прадзед меў некалькі сыноў. Пасля такога канца кар'еры арандатара ўсе здэкласавалі. Мой дзед працаваў тэлеграфістам на некалькіх жмудскіх чыгуначных станцыях, у т. л. (гаворачы па-польску) на Чорнай Рэчцы (па -літоўску, бо было б "у ¨дупе"), а потым у Панявежы. Ажаніўся з паннай Грушчынскай (з іншай галіны, чым аўтар "Цягніка на Марсель", на паўкрыві чэшкай. Сам пачуваўся на той час паўліцвінам, але бабка аказалася нязвыкла энергічнай. Хутка ўзяла свайго паўліцвіна за пантофлі, а паколькі ў ёй самой паўкрыві польскай цалкам узяла верх над паўкрывёй чэшскай, і мужа, і сыноў давяда да поўнай польскасці.

Сыноў тых было двое: Уладзіслаў і Юльян. Апошні скончыў палітэхнічы інстытут. Стаў інжынерам, атрымаў працу ці не ў Астрахані і там з невядомай для мяне прычыны ўчыніў самазабойства. Засталася пасля яго ўдава і дзве дачкі. Пасля вайны яны жылі ў Коўні. У тым варыянце Пураманты сталі поўнымі літоўцамі. Мы не падтрымлівалі з той галіной радні ніякіх стасункаў. Хадзілі чуткі, што мая стрыечная сястра была дырэктаркай гімназіі.

Уладзіслаў таксама быў у палітэхнічным інстытуце ў Пецярбургу. Але ці не выказваў цягі да матэматыкі, ці таксама з-за сваркі з бацькамі, хутка кінуў тую вучэльню і пайшоў у юнкерскую школу. Не было гэта лёгка, зважаючы на тое, што быў католік, усё ж неяк туды трапіў. Закончыў школу ў вызначаны тэрмін і атрымаў накіраванне ў 120-ты Серпухаўскі полк, які размяшчаўся ў Менску. Тут пазнаёміўся з амаль дзевятнаццацігадовай паннай Марыяй Руткоўскай.

**Руткоўскія**

Была яна пятым па чарзе дзіцем, народжаным са страшнага мезальянсу. Пад Нясвіжам, у маёнтку не вельмі вялікім, але і не найменшым, які называўся Смолічы, здаўна сядзеў род Жалнаркевічаў. Былі блізкімі крэўнымі з Хлапіцкімі, тымі - ад незадачлівага дыктатара з лістападаўскага паўстання. Калі нават гэта і адпавядала праўдзе, то не была тая крэўнасць па простай лініі, таму што Хлапіцкі не пакінуў нашчадкаў. У 1919 годзе бачыў нават тых крэўных. Прыехалі ў Менск з прадуктамі на продаж. Рабілі ўражанне моцна падупадлых.

І вось адна з Жалняркевічань учыніла страшную рэч: закахалася ў маскаля, настаўніка. Не зважаючы на дабраславенне бацькоў, уцякла са сваім абранцам у Менск. Тут жа ўзялі шлюб. Мяркуючы па прозвішчы, расейскасць тога маскаля не была надта грунтоўнай. Жыццё маладой пары было добрым, але нядоўгім. Нарадзілі ў кароткі час шасцёра дзяцей, пасля чаго муж нечакана памёр, пакінуўшы пасля сябе ўдаву ў роспачнай маёмаснай сітуацыі, цалкам пакінутай, бо была праклятая яе нябеднай сям'ёй. Пра яго сям'ю не ведаю нічога. Ад яго запомніў толькі бараду *a la* Аляксандр III.

Удава Руткоўская выказала аднак моцны гарт духу і сілу волі. Нейкім цудам збудавала ў тагачасным прадмесці Менска (недалёка ад вакзала) малы, нізкі, драўляны дамок і здавала ў наём пакоі гімназічным вучням і дробным чыгуначным чыноўнікам, тэлеграфістам і г.д. Каля доміка мела агародчык. Цяжка паверыць, але факт, што з апорай на такія слабыя сродкі выцягнула шасцёра дзяцей, як гаворыцца "ў людзі".

Мусіла гэта быць выключна цяжкім. Зацятасць сям'і нарадзіла зацятасць у маладой удавы, якая на хвілю страты мужа не мела нават трыццаці гадоў. Яшчэ праз трыццаць гадоў выразна чуў дома вялікую, няўхільную крыўду на тых дзедзічаў са Смоліч. Стасункі крыху паправіліся толькі ў міжваенны час.

Маладыя Руткоўскія паказвалі не горшы тэмперамент. Найстарэйшая, Антаніна, якая мела шаснаццаць гадоў, закахалася ў аднаго з кватарантаў, старэйшага за яе на тры гады кадэта па прозвішчы Мануеў, і тут каханне было вялікім і раптоўным. Каханкі выказалі выключную настойлівасць, пабраўшыся шлюбам у рэкордным тэмпе, дзякуючы асобнаму дазволу цара, паколькі абое былі непаўнагадовыя, каханак жа ў дадатак быў вучнем корпуса кадэтаў. Быў гэта, здаецца, першы выпадак такога роду. Мелі дваіх дзяцей. Сам Мануеў пазней быў адным з найвышэйшых афіцэраў у Дзянікіна, начальнікам штабу нейкай вялікай часткі, а можа нават аж арміі, не эміграваў, хаваўся пад чужым прозвішчам у тым жа Менску.

Другі з чаргі сын Міхал пайшоў на медыцыну ў Маскву. У час рэвалюцыі 1905 года ён браў удзел у маскоўскім паўстанні. Да скарбонкі сямейных легендаў належыць гісторыя выезду бабкі Руткоўскай па яго ў Маскву. Рабілася гэта падчас вядомага чыгуначнага штрайку. Бабка і з тым справілася, даехала коньмі да Масквы, знайшла сына, як распавядалася, сцягнула за полы з барыкады і прывезла дадому. Пасля паразы рэвалюцыі ён вярнуўся ў Маскву, закончыў вучобу і прыехаў як доктар з прыбыткам: двухгадовай дачушкай Галінай, якую яе мамка, нейкая маскоўская ўцяшальніца студэнтаў, уступіла свайму "ўцёкламу" прыяцелю назаўсёды.

Наступная па чарзе пара маладых Руткоўскіх пазначана была пячаткай нянавісці лёсу. Сын Вячаслаў захварэў на невылечную эпілепсію. Дачка Любоў упала з камода і была потым гарбатай. Характары абоіх былі дзіўна палярнымі. Эпілептык з году ў год станавіўся што раз цяжэйшым да вытрывання. Здаецца, што ў канцы яшчэ займеў манію пераследу. Быў страхам дому. Гарбуння стала павітухай. Была вельмі добрай, ласкавай зычлівай да людзей. Першага я смяртэльна баяўся (як акажацца не без падставы), другую наймацней любіў з усіх дзядзькаў і цётак. Як гаварылася, пятай была Марыя, шосты, Аляксандр. Меў цягу да тэхнікі, вучыцца не хацеў, працаваў на чыгунцы. Наймалодшы памёр найраней, недзе ў 1919 годзе, вельмі банальна, бо ад тыфу.

**Маці**

Марыя была ў сям'і найладнейшай. Прынамсі, скончыла школу. Мела неясныя артыстычныя зацікаўленні, палітычныя погляды, уласцівыя свайму асяроддзю, г.зн. антыманархічна-ліберальныя. Мела буйныя, досыць рамантычныя ўяўленні. Наведвалі яе сны, якія ўмела апавядаць так прыгожа, што некаторыя памятаю

па сёння. У дзяцінстве фантазіявала, ствараючы мройныя, але якія доўга жылі ў яе свядомасці, постаці і пасяброўску апекавалася над імі. Старэйшыя ведалі гэта і не прапускалі, каб не пакпіць. Так, напрыклад, ва ўзросце некалькіх гадоў гаварыла, што наведвае яе нейкі Васток (Усход), які прыходзіць з дачкой, таварышкай гульняў, распавядае ёй байкі, прыносіць падарункі. Старэйшыя з таго збыткавалі, хавалі яе цацкі, звальваючы віну на Вастока. Бедалага верыла ім, так моцна пераканала сама сябе ў рэальнасці той постаці.

У апошнія гады школы маці мела шмат кавалераў, сярод іх аднаго вайсковага лекара, паляка, па прозвішчы Ялец (Елец). Быў руды, вельмі ветлівы, акуратны але цельпукаваты. Заляцаўся вельмі ўпарта. Марыя была ў разгубленасці. Мабыць, менавіта гэты стан прыспешыў яе рашучасць, калі з'явіўся іншы - афіцэр, таксама паляк, свежа спечаны падпаручнік Путрамант.

Вечарам таго дня, калі ён прыйшоў першы раз на нейкі пасляабедзены таварыскі сход і ўвесь час сядзеў у кутку, глядзеў на яе, вытарашчыўшы вочы, без словаў, абвясціла раптам мацеры: "А, між іншым, гэта будзе мой муж".

Так гэта канешне і стала. Узялі шлюб у студзені 1910 года. Калі вольна той казус падагуліць, ён рашуча гаворыць пра ўзаемнае каханне з першага пагляду. Аднаўляючы характар маці на падставе яе апавяданняў пра часы паненскія, а таксама на падставе ўласных непасрэдных назіранняў, якія цягнуліся ад часоў майго дзяцінства аж да канца яе жыцця, не магу абараніцца перад здзіўленнем. Гісторыя яе для мяне была неаспрэчным аргументам супраць фаталістычнай тэорыі пра нязменнасць людскіх харктараў, тэорыі якой прытрымліваліся розныя людзі, нават тыя, што прызнаваліся да марксізму. Маці з гадоў дзясятых і маці з гадоў трыццатых – гэта дзве розныя асобы. І калі нават можна знайсці ў іх пэўныя канстанты, то для мяне з'яўляеццца відавочным, што пры іншай плыні жыцця стварыла бы яно асобу вельмі і вельмі адметную. Прычынай, якая акрэсліла ўвесь наступны развой характару маці, было нешчаслівае замуства.

Узялі шлюб у студзені. Я нарадзіўся ў лістападзе. 1910 года. Хацеў бы сцвердзіць, што ў сапраўднасці я малодшы на два тыдні ад таго, як кажуць дакументы. Бо нарадзіўся 14 лістапада, але паводле старога стылю, г.зн. 27 лістапада паводле стылю новага.

Два моманты маёй падсвядомай біяграфіі. Маці, як у той час усе маладыя дзяўчаты яе ўзроўню, любіла Талстога. Талстой якраз памёр тыдзень таму назад пасля драматычных уцёкаў з Яснай Паляны. Было гэта найвялікшае здарэнне на той час, прэса была поўная падрабязнасцяў. Маці вельмі перажывала. Бо трохі, не вельмі сур'ёзна, верыла на той час у метапсіхоз ці ў перасяленне душаў. Апавядала мне пазней шматразова, што малілася аб душы Талстога для свайго будучага сына. І ад самага ранняга дзяцінства тым спосабам агітавала мяне да пісьменніцкага занятку.

Калі мне было некалькі тыдняў, прыснілася мацеры Маці Божая. Што менавіта прыйшла да яе і па чарзе дабраславіла ўсіх чальцоў яе сям'і. Маці, укленчыўшы, пакорна слухала тыя дабраславенні з неспакойным пачуццём, што нехта ў той літанні прапушчаны. Урэшце апрытомнела і крыкнула распачліва: "А Юрак?" – і



***Малы Юрак Путрамант з маці. Менск. Прыблізна 1912-1913 гг.***

прачнулася. Дзіця ляжала каля яе ўсё сіняе. Прыдушыла яго ў сне. Удалося выратаваць, дзякуючы штучнаму дыханню.

Апавядаючы пра гэта шматразова, маці, здаецца, разумела сэнс здарэння адназначна: што Маці Божая сваім з'яўленнем у сне дала магчымасць уратаваць дзіця. Але зараз думаю сабе, што адмова дабраславення магла быць прадказаннем намнога пазнейшага развіцця паглядаў нядошлай ахвяры.

Як вынік са сказанага вышэй, маці ў маладосці была рэлігійнай. Была гэтая рэлігійнасць досыць спецыфічная, уласна кажучы – талстоўская, не без сумненняў пасеяных метафізікай, якая адмаўляла ўсялякае ўмяшанне царквы ў справы пазарэлігійныя. З гадамі і гэта ў яе прайшло.

**Найдаўнейшае**

Найдаўнейшыя ўспаміны. Відавочна, захаваныя дзякуючы пачарговым успамінам у не такім далёкім мінулым.

¨сць хуткая, сонечная, пясчаная рачулка. Не бачу яе ўсёй. Бачу толькі кавалак пад маімі нагамі. Стаю па калені ў вадзе. Пясок адплывае з-пад ног.

Мусіў мець тады два з паловай гады. 120-ты полк стаяў у летнім лагеры каля станцыі Лясная пад Баранавічамі. Бачу дасканала і той кавалак рэчкі, і пясок. Бачу таксама і месца, у якім прыпамінаю сабе тую пылінку дзяцінства першы раз. Быў год трыццаты, можа

трыццаць першы. Іду пешкі са станцыі Мінойты да Банева. Дарога доўгая, сумую. Пачаў перабіраць найдаўней-шыя ўспаміны. Патрапіў якраз на тое. Магчыма таму, што побач таксама была малая рачулка. Бяжыць справа, уся ў алеі чарнявых алешын, налева і спераду прымо-раныя сасёнкі. Другі з найдаўнейшых успамінаў лёгка ўстанавіць з дакладнасцю да дня. Лета 1914 года. Дакладна ліпень. Сядзім у сталоўцы ў бабкі ў Менску (вуліца 2-я Сергіеўская, сёння Рабкораўская, 22). Абед. На стале стаіць суп з рознай гароднiны. Памятаю дасканала, бо вельмі яго любіў. Асабліва любіў адзіночныя бобкі зялёнага гарошку, бо можна было з імі гуляць у... хаванкі, паляванне, адшукванне скарбаў. Рассоўваю лісткі капусты, кавалкі бульбы, чырвоныя кружкі морквы. Шукаю тыя зялёныя бобкі.

Раптам усе ўстаюць, кідаюць лыжкі, выбягаюць на падворак. Наступіла зацменне сонца. Я таксама выбег. Нехта на кухні копціць кавалкі шкла. Дзіўны празрысты змрок. Усе глядзяць на неба цераз чорнае шкло. Даюць і мне паглядзець. Чорнае неба праз чорнае шкло выглядае нязвыкла змрочна. У кухні жоўты агенчык свечкі.

Гэта два каменчыкі з рассыпанай, згубленай мазаікі. Потым пачынаюцца часы, які запомніў надоўга. Адзінкавыя малюнкі, якія захаваліся, зараз уключаны ў прычынны ланцуг і маюць т.зв. фон. Словам, пасля перадгісторыі ўваходзім у часы гістарычныя.

**Петрыкаў**

Мы з маці знаходзімся ў Петрыкаве. Гэта малое мястэчка ў самым сэрцы Палесся на паўднёвым беразе вялікай рэчкі Прыпяці. Знаходзімся ў брата маці, Міхала, тога доктара, які з Масквы прывёз старэйшую за мяне на тры гады дачку Галіну.

Ідзе вайна. 120-ты Серпухоўскі полк з усёй 40-й дывізіяй ужо здолеў аказацца на фронце. Уваходзіў у склад 1-й арміі генерала Раненкампфа. І здалеў ужо перастаць існаваць. У бітве, сумная слава якой прыгасла перад катастрофай Самсонава, але якая злучалася з ёю як злучаецца серыя баксёрскіх удараў – правы, левы, правы – Раненкампф аказваецца на самай справе не разгромленым, але пабітым. Называецца яна бітвай пад Гумбінам – Гольдапам. Пад Гольдапам падчас нейкай сутычкі прападае без вестак паручнік Путрамант.

Маці дапытвалася пра лёс свайго мужа. Праз некалькі тыдняў вайсковыя ўлады паведамілі ёй, што паручнік Путрамант палёг на полі славы. ¨й нават выдалі пенсійную кніжачку, як удаве па афіцэры. Брат прапанаваў ёй пераехаць у Петрыкаў, слушна лічачы, што адарванне ад надзённых варункаў прынясе ёй палёгку.

Для мяне выезд той быў дакладна прыемным. Дзядзька Міхал Руткоўскі быў дырэктарам шпіталя т.зв. “земскага”, г.зн. тое самае, што самакіраванага. Петрыкаў быў малым гарадком, ачэпленым Прыпяццю, аддалены на 20 кіламетраў ад найбліжэйшай чыгуначнай станцыі Канцэвічы.

Шпіталь стаяў на краі гарадка. За ім на нейкі кіламетр цягнуліся аброблены палі, а далей чорнай, высокай сцяной стаялі палескія бары.

Шпіталь быў збудаваны на месцы зліквідаванага бровара, руіны якога займалі правы пярэдні кут вялізнага (як мне тады здавалася) квадрата, аточанага высокім парканам з дошак. Шпітальныя будынкі былі драўляныя з акруглых бярвёнаў, зшарэлыя ад дажджу, пэўна, вельмі нудныя, хоць мне падаваліся найпрыгажэйшымі. Было некалькі, занятых шпітальнымі аддзеламі. Асобна, некалькі з тылу стаяў драўляны будынак заняты заразным аддзелам. Асобна стаяў таксама будыначак трупярні. Дзіўна, але я баяўся зусім не яго. З тылу, блізка ад плоту стаяла доўгая і прысадзістая абора, а дакладней вазоўня. Была зусім пустая. Дзверы яе, звычайна адчыненыя, асвятлялі толькі асяродак, правы і левы куты танулі ў што раз ўсё глыбейшай цемры. Не прыпомню сабе, каб мяне там спаткала нешта непрыемнае. А тым не менш, праз доўгія гады, аж да поўнай сталасці адным з серыйных кашмараў, якія пераследвалі мяне ў сне – была ўласна тая вазоўня, шэрае асветленае яе нутро, і два затаёныя чорныя крылы. Акцыя сну вельмі простая: мушу тут стаяць, рушыцца з месца не магу, а з тых крылаў цягне на мяне неакрэслены бессэнсоўны страх.

У левым пярэднім (ад вуліцы) куце стаяў таксама аднапавярховы, драўляны жылы будынак. Адно крыло займаў адзіны, акрамя дзядзькі, шпітальны доктар Саламон Рапапорт. Другое займалі мы, г.зн. апрача дзядзькі цётка Люба, якая працавала ў шпіталі нянячкай, маці са мной і мая кузінка Галіна. Памяшканне было вялікім, пэўна, шэсць або і болей пакояў. Запомніў з яго крышку. Кабінет дзядзькі: гладкая і халодная цырата канапы. Цёмны калідорчык каля дзіцячага пакоя. Там непрыемна было праходзіць вечарамі, а абмінуць не было як, іншай дарогі ў сталоўку не было. Сталоўка таксама цёмная. На тым, бадай, і ўсё.

Зрэшты, гэта было не важна. Больш важнай была кампанія. Вельмі хутка і натуральна такая ўтварылася па тэрытарыяльным прынцыпу: Галя са мной і двое дзяцей Рапапорта – Леа, на год старэйшая за мяне, і Мулік, на год за мяне малодшы. На тэрыторыі шпіталя было шмат іншых дзяцей – нянячак, прыслугі, кухарак і г.д.

Згодна з панаваўшыыымі ў старэйшага пакалення ліберальна-дэмакратычнымі поглядамі ніколі ніхто нам не сказаў кепскага слова за гульні з імі. У цёплы час бегалі мы па ўсім шпіталі. Калі наступала зіма, шырэйшыя кантакты станавіліся з прыроды рэчаў больш рэдкімі, дамінавала суседства з-за сцяны.

Адным з элементаў светапогляду і майго дзядзькі, і цёткі, і маці была рашучая пагарда антысеметызмам. З Рапапортамі падтрымлівалі яны вельмі блізкія таварыскія стасункі. Сам доктар быў зрэшты вельмі сімпатычны, добры, неамбітны, вельмі спакойны. З усіх яго дзяцей (пазней, ужо ў петрыкаўскія часы, нарадзіўся ў яго другі сын, Нахман, але той не ўваходзіў у таварыства) я аддаваў перавагу Муліку.

Гулялі, ясная рэч, галоўным чынам у вайну. Каля вазоўні быў кавалак жоўтага пяску. Тут грэбаліся цэлымі днямі. З бегам часу навучыліся капаць акопы поўнага профілю. Пясок быў вільготны, рабілі з яго снарады, як са снегу. Бойкі былі зацятыя, адна з іх скончылася вялікімі натацыямі, не толькі з нагоды самога, так сказаць тактычнага яе праходжання, колькі з пазнейшага пра яе аповяду. Была гэта мусіць першая палеміка, у якую я меў няшчасце ўдацца.

На той час ужо было вядома, што бацька не загі-

нуў, а трапіў у няволю. Мы былі падзелены на дзве групы. Ужо скончылі бойку з-за недахопу боепрыпасаў, але яшчэ ўзаемна абзываліся. Праціўнік мой ужыў як апошні аргумент: а твой тата пахаваны! Не вельмі здаваў сабе справу з прынцыповай розніцы паміж абодвума выпадкамі. Маці гэта пачула. Была гэта першая лаянка, якую запомніў.

Наогул, вайна што раз часцей прарывалася праз драўляны плот шпіталя. Мусіў гэта быць пятнаццаты год, год вялікага нямецкага наступлення і страты расейцамі Каралеўства Польскага. У нейкіх будах насупраць шпіталя размясцілі першых бежанцаў. Называлі іх "шлянзакі", мелі шмат дзяцей, але нам з імі гуляць не дазвалямі, падобна, берaглі ад "брыдкіх выразаў". Яны абзываліся пры кожнай аказіі рыфмаванымі кпінамі. Першы раз тады адчуў моўную розніцу. Яны крычалі нам нешта незразумелае, але абразлівае. Шпітальныя Колькі і Ванькі адказвалі: "Лях, лях, гаўно у зубах".

З першага перыяду вайны памятаю паштоўкі са слынным героем, казаком Кузьмой Кручковым. Меў іх цэлую серыю. Яны суправажаліся чатырохрадкоўямі. Першае памятаю:

Об'явлена мобилизация,
И казак стал, как гроза.
Хватит с немцами лизаться.
Намазолили глаза.

Аднойчы вечарам мы сядзелі пры газавай лямпе ў сталоўцы ці ў салоне. Акно было адчынена, за акном летні вечар. Раптам крык жанчын. Зірнуў ў акно і скамянеў: нехта ў нямецкай востраверхай касцы прайшоў пад самым акном.

Паніка трывала хвіліну. Гэта меў быць жарт аднаго з мясцовых кавалераў, які хацеў пастрашыць жанчын. Іх рэакцыя сведчыла, што з прыходам немцаў ужо лічыліся. Эпоха Кузьмы Кручкова мінула.

**Першыя ўцёкі**

Пэўна восенню таго ж года Петрыкаў агарнула паніка больш сур'ёзная. У доме вырашылі эвакуявацца: маці з Галяй і мною адправілі ў Кацярынаслаў, дзе жыла цётка Антаніна, жонка ўжо, мусіць, палкоўніка Мануева.

Памятаю вакзалы і страшныя "пасадкі". Недзе на нейкай станцыі нейкі вайсковец падае мяне ў вагон праз акно. Страшная цесната ў іншым цягніку. Доўга едзем у тамбуры, тут жа пры туалеце. Потым маці набралася рашучасці, уцягнула нас і транты ў той туалет і забарыкадавалася. За дзвярыма цэлая чарга тых, хто сюды просіцца. Маці няўлольная: вызваліць туалет толькі за месца ў вагоне. Нарэшце месца знаходзіцца.

Кацярынаслаў. Цётка прымае нас, канешне, без энтузіязму, бо праз нейкі час мы аказваемся ў падвале невялікага доміка ў прадмесці. Ля нашых ног цудоўны вялізарны абрыў у найпрыгажэйшых зарасніках пустазелля, якое вышэй носа. Непаўторныя ўмовы для гульняў. Зусім не разумею дрэннага настрою маці. Падвал цёмны, малы, вельмі ўтульны.

Тыя ўмовы плюс затрымка немцаў, недзе паміж Валынню і Баранавічамі спрычыніліся да таго, што маці вырашыла вярнуцца ў Петрыкаў. Нічога з таго падарожжа не памятаю.

Рэвалюцыі не заўважыў, яе першых праяваў не памятаю. Настроі ў доме мусілі быць з большага эсэраўскімі. Раблю выснову па часопісу Аркадзя Аверчанкі "Сатырыкон", якога ў доме было поўна. У той час быў ён вельмі левым. Памятаю малюнак на вокладцы аднаго з нумароў. Велізарны барадаты мужык у лапцях стаіць на адной назе на малым кавалку зямлі. Другую прытрымлівае рукой: няма дзе яе паставіць. Таму што каля яго малы, пузаты абшарнік – мусіць у цыліндры – задраў галаву і пагражае яму палкай.

Памятаю яшчэ адну сцэну. Фронт наблізіўся, у Петрыкаве з'явілася шмат салдатаў. Мусіць на самым пачатку рэвалюцыі зрабілі на шпітальным двары мітынг цэлай дывізіі. Чатыры палкі сталі квадратам. Пасярод нехта прамаўляў. Быў здзіўлены што цэлая дывізія змясцілася на шпітальным двары. Пэўна была моцна прарэджана.

Маці ўжо некалькі год вучыла Галю чытанню і, наогул, школьным пачаткам. Нягледзячы на тры гады розніцы, я звычайна сядзеў каля іх. Здаецца чытаў па складах ужо ва ўзросце гадоў двух, робячы сенсацыю на вуліцы спробамі прачытання шыльдаў. У петрыкаўскія часы маці адкрыла ўва мне матэматычныя таленты. Была гэта дакладна вялікае пераўвелічэнне: па-просту я вельмі латва зразумеў аўтаматыку нарастання лічбавых шэрагаў і з-за недахопу лепшага занятку лічыў для ўласнай прыемнасці да тысячы, дадаючы па два, па тры, а потым адымаючы.

Кніжкі ў той час вельмі мяне займалі. У дзядзькі знайшоў добра ілюстраванае выданне "Жыцця зверанят" Брэгма. Сядзеў над ім цэлымі гадзінамі, асабліва праняты зместам ілюстрацый, дрыжучы ад уражання з выгляду жоўтых, зялёных, пурпуровых змей, якія потым блыталіся па снах. Наогул, я быў вельмі ўражлівы на страхі. Пасля прачытання адной кніжкі баяўся ўсяго – цемры, адзіноты. Была гэта аповесць пра страхі ў панурым замачку. Адной з галоўных іх праяваў была крывавая пляма, якая што дзень з'яўлялася ў адным з замкавых пакояў. У адзін з дзён аказалася яна не крывавай, а зялёнай. Не ведаю чаму, але ў той момант маё ўражанне дасягнула вяршыні.

Не памятаю ні назвы, ні аўтара, але на працягу гадоў можа пятнаццаць былі звязаны ў мяне з той кніжкай успаміны найвялікшых уражанняў дзяцінства. Потым, ва ўніверсітэце натрапіў на яе паўторна і пазнаў: быў гэта "Дух у замку" Аскара Вільдэ, забаўная пародыя на літаратуру страхаў і вампіраў. Мая поўная незнаёмасць з тым жанрам прывяла да таго, што не дапяў да парадыйнай сутнасці і ўсё прыняў усур'ёз.

Але па-за кніжкамі я быў пякельна лянівы. Маці вынесла з майго дзяцінства такі малюнак: мы з Галяй нарабілі страшнага балагану ў дзіцячым пакоі. Маці сказала прыбраць. Я не паварушыўся. Заглянула другі раз і крыкнула абурана: "Такі балаган, а ты нават палец аб палец не ўдарыш.." Калі праз чвэрць гадзіны прыйшла зноў, Галя з нехаццю грэбалася ў раскіданых цацках, а я сядзеў на кукішках і церпяліва ўдараў палец аб палец...

**Першае каханне**

У Петрыкаве перажыў першае каханне. Мусіў

мець тады гадоў пяць або шэсць. Аб’ектам маіх пачуццяў была высокая, ладная шпітальная акушэрка. Нейкая Ніна Осіпаўна. Калі яе бачыў, румяніўся, і тузаўся ад спрэчных жаданняў: глядзець на яе і ўцякаць ад яе. Гэтае астатняе напэўна вынікала з таго, што атачэнне без цяжкасці расшыфравала мой стан і бязлітасна з мяне смялася. Ніна Осіпаўна пазней пасля нашага ад’езду памерла ад халеры.

Я сам, зрэшты, у той час хварэў два разы вельмі цяжка. Першы раз гэта быў круп, грозны від дыфтэрыту. Не дапамагала вакцына, якую ўлівалі ў мяне ў страшнай колькасці. Рыхтаваўся ўжо да аперацыі цяжкай і небяспечнай. Дзядзька, вельмі добры хірург, не хацеў яе рабіць з погляду на блізкае сваяцтва. Як вядома, хвароба заключаецца ў тым, што ў горле ўзнікае пухліна. Яна паступова разрастаючыся прыводзіць да смерці ахвяры ад удушэння. Аперацыя заключаецца ў прабіцці горла і ўстаўлення ў яго срэбнай трубкі. Калі ўсё было гатова, паспрабалі яшчэ апошні спосаб. Пасадзілі мяне ў выключна гарачую ванну і яшчэ прыкрылі коўдрай аж пад бараду, каб пара разагрэла на максімум шыю. Ясна памятаю свае ўражанні ў той ванне. Калі гарачыні не мог ужо вытрымаць, маці хутка мяне выцягнула і закруціла ў халодную, мокрую прастыню. Я зайшоўся спазматычным кашлем.

Таго, уласна, і дабіваліся. Кашаль прарваў смяротэльную пухліну. Я быў уратаваны.

Трохі пазней, напэўна ў васямнаццатым годзе праз Петрыкаў прайшла эпідэмія дызентарыі. Хварэлі ўсе па чарзе. Маю досыць прыемныя ўспаміны ад той хваробы, бо пад канец атрымоўваў што дзень салодкае жэле, якое вельмі любіў.

Недзе, як гаворыцца, у міжчассі прыйшлі немцы. На гэты раз ніхто ўжо не ўпадаў у паніку. Ніхто не ўцякаў. З іх побыту памятаю толькі адно.

Шпіталь знаходзіўся на краі мястэчка, праз пару соцень метраў ад астатніх пабудоваў. Памятаю сябе з дзетварой каля драўлянага плоту. Глядзім здалёк на драўляныя развалiны. Адтуль ляціць страшны крык дарослага мужчыны. Гэта немцы злавілі некага з жыхароў на невядома-якім злачынстве і “для прыкладу” білі яго жалезнымі шомпаламі для чысткі карабінаў. У канцы васямнаццатага і ў дзевятнаццатым годзе спакойнае, дакладней, нуднае петрыкаўскае жыццё парушалі розныя надзвычайныя здарэнні. Немцы адышлі, рассыпаліся, зніклі. Не памятаю з таго ні паўценю.

Аднаго ранку – было шэра, дождж, нуда – сядзім з Галяй у салоніку, калупаемся без ахвоты ў кубіках ці цацках. Адчыняюцца дзверы, уваходзіць нейкі госць у акулярах, у шкураной вопратцы, цёмным плашчы, фуражцы.

- А вы хто? – пытае нас.

Прадстаўляемся сканфужана. Раптам Галя крычыць:

- Дзядзька Ўладак!

Я яго ва ўсякім разе не пазнаў. Прыбегла маці. Бацька вярнуўся з няволі. Не меў уласнага кута, прыехаў сюды з Менска.

Быў, мабыць, суткі, не даўжэй. У наступны вечар знік. Нам забаранілі пра яго гаварыць. Пазней даведаліся, што паехаў шукаць Дзянікіна, пра якога хадзілі ў Петрыкаве першыя смутныя чуткі.

**Вайна**

Потым разыграліся ваенныя падзеі, якія першы раз закранулі нас непасрэдна. Была нейкая бітва. Нас загналі ў хату. Чулі працавітая, хуткае стуканне кулямётаў. Свісталі з рыкашэту кулі. Цераз паркан перад тымі развалінамі, дзе немцы некага білі, бачны былі раптоўныя цёмныя хмаркі выбухаў і чутны вясёлыя гукі, якія беглі ад іх. Я, які баяўся ўсякага цёмнага ценю, тым разам не адчуваў ніякага страху, хіба як перад маці, якая рэзка на мяне крычала і заганяла дадому.

Пасля той першай бітвы прыйшло рашэнне ўцякаць з Петрыкава. Пайшлі цэлаю кучаю – жанчыны і дзеці са шпіталю – да адлеглага на 10 кіламетраў маёнтка багатай польскай сям’і Каневічаў, які называўся Брынёў. Была ранняя восень, прыгожы парк, аранжарэя, палац, усё апусцелае, пазамыканае на замкі. Эканом размясціў нас у нейкіх пакоях.

Потым адтуль уцякалі ў Канцэвічы. Ішлі да іх праз вялікі лес. За пяць кіламетраў ад Петрыкава была вёска Гаравaха. Літасцівыя бабы паілі нас малаком. Яшчэ пятнаццаць вёрст да Капцэвічаў. Ледзьве туды давалакліся.

Тут было доўга і голадна. Вялікай радасцю была пара бульбін. Жылі разам з Рапапортамі ў адным цёмным пакоі. Маці хадзіла жабраваць напрабаваліся розных сурагатаў гарбаты: сушанай морквы, чабару, сунічных лісцяў. Памятаю што тая трэцяя версія была найменш непрыемнай.

Затое мы цэлымі днямі забаўляліся ў вялікім гурце. Двухгадовы Нахман крычаў па начах. Бегалі па рэйках. Цягнікі не хадзілі.

Потым прыйшла вестка: Петрыкаў канчаткова занялі палякі. Вяртаемся. Польскія войскі стаялі ў Капцэвічах. Першае маё сутыкненне з імі было непрыемнае. Ішлі пешкі ў Петрыкаў, старашна змучаныя. Перад намі ехала пустая вайсковая фурманка. Калі яна нас мінала, маці папрасіла, каб нас падвезлі. Жаўнеры не сказалі “не”. Наадварот, кіўнулі галовамі, памахалі рукамі. Але коней не прыпынілі, прапануючы, каб іх дагналі. І маці, паўжывая ад знямогі, паддалася на той абман. Калі ўжо была вось-вось, фурман аглянуўся і шмаргануў пугай на конях. Коні перайшлі на рысь. Жаўнеры глядзелі на нас і клаліся ад смеху. Было гэта першае ў маім жыцці сутккненне з нічым не апраўданым хамствам.

Петрыкаўскія рэшткі. Забыў пра Ніну Осіпаўну. Якраз цяпер, пасля вяртання з Капцэвічаў, з’явіліся ў нас забароненыя гульні. Лазілі хіба што ўчацвярых у руіны бровара і звязаныя смяротэльным страхам перад мамусямі дазвалялі сабе гуляць у доктара. Прыводзіла гэта да ўрокаў з вобласці параўнальнай анатоміі. Не звязвалася гэта яшчэ ні з якімі версіямі на тэму нараджэння дзяцей, ані простая рэч, з каханнем. Была толькі цікавасць, тым большая, што забароненая. Склалі нават шыфр, абсалютна, зрэшты, ні да чаго не прыдатны, акрамя аднамомантавай патрэбы нешта схаваць ад ведама старэйшых.

У доме нешта папсавалася. Абедзве сястры глядзелі крывым вокам на розныя прыгоды свайго старэйшага, адзінокага і прыстойнага брата. Іх апека мусіла яму дакучаць. У дадатак трапіў ён якраз у наркаманію, што раз часцей уводзіў сабе морфій.

Доктар Рапапорт знянацку захварэў на тыф і на

працягу некалькіх дзён памёр. Праз пару гадоў удава па ім з усёй тройкай дзяцей выехала ў Палестыну.

**Зноў Менск**

Павінна была быць зноў восень, калі і мы выехалі з маці ў Менск. Праз нейкі час пасля нас прыехала і цётка. Дзядзька – доктар застаўся адзін. Неўзабаве ажаніўся са сваёй гаспадыняй. Меў яшчэ адну ці дзве дачкі. Галя аказалася потым хворай на сэрца. Жыла ў Ленінградзе. Стала інжынерам. Пісала нават нам праз некалькі гадоў, просячы, каб прыслалі трыганаметрычную лінейку. Далей звесткі пра яе і яе бацьку няясныя і невясёлыя. Потым у 1-й дывізіі спаткаў некага з Петрыкава спытаў пра доктара Руткоўскага. Даў мне зразумець, што дзядзька прапаў у 1937 годзе. З іншых крыніц чуў, што расстралялі яго немцы. Пра Галю ў 1940 годзе пісала таямніча цётка, як пра сасланую.

Толькі цяпер прыглядзеўся да нашай 2-й Сергіеўскай. Была гэта кароткая небрукаваная вулічка, забудаваная пераважна чыгуначнікамі. Стаялі тут аднапавярховыя драўляныя домікі, акружаныя садзікамі. Уздоўж драўляных парканаў цягнуліся ходнікі (тратуары) з дошак. Ідэальнае мейсца для гульні ў цягнік. Можна было бегаць па іх, размахваючы гарызантальна рукамі, шыпець, трубіць: “Ту-у, ту-у!” і прытупваць нагамі там, дзе “каляя” пралягала над лужынай.

Жылі тут сем’і, падобныя да нашай, г. зн., вельмі мешанага этнічнага паходжання. Справа ад нас стаяў дом Аніхімоўскіх. Нягледзячы на канчатак “скі” гэта былі расейцы. Насупраць жыла сям’я Воўк, не зважаючы на расійскае гучанне прозвішча – польская. Злева быў домік Ганкевічаў, ні такіх, ні гэтыкіх. Ва ўсякім разе польскіх дамоў тут было дастаткова, прычым – як на той час – ніякіх на тым фоне трэнняў і непаразуменняў вулачка не ведала.

Бабка жыла ў тым самым доміку, у якім я нарадзіўся. Жыллё складалася з чатырох пакойчыкаў, з якіх два замененыя на спальні былі вузенькімі клеткамі. Домік быў нізкі, аселы ў зямлю – ад ходнікаў да акон было не больш, чым паўметра. Куханька мікраскапічная, такія ж сені, чысцюткая, утульная сталоўка. Лямпы яшчэ газавыя з абажурамі з матавага шкла ў сецесійных узорах, у салоніку шмат кветак, фікусы і пеляргоніі. На зіму, якая ўласна надыходзіла, ужо ўставілі дубэльты, падаконнікі паміж першай і другой рамай праклалі ватай, паставілі на іх шкляначкі з драбкамі сернай кіслаты, каб шыбы не замярзалі. Вокны замыкалі акяніцамі, якія былі забяспечаны жалезнымі крямарамі - была гэта штодзённая сямейная ўрачыстасць, нехта выскокваў на холад, дождж, у цемру, бег ад акна да акна, жоўтыя плямы дошак засланялі гранатовы (цёмна-сіні) змрок ночы, скрыгат клямара, яго згладжаны ад старасці канец высоўваўся з адтуліных пры акне. Трэск спрунжыны. Быў гэта найноўшы, аўтаматычны спосаб замыкання акяніц. На некалькіх вокнах дзейнічалі яшчэ прастарэлыя клямары з адтулінай на канцы, у якую ўстаўляўся тоўсты цвік. І вось жыллё, як сярэднявечная цвердзь, адрэзана ад ночы мурамі акяніц. Тут цёпла, светла, утульна.

Нарэшце тут, у Менску, я пачуўся цалкам “у сябе”. Памяшканне мела свой старасвецкі пах, нешта з нафталіну, з ружавага алею і з нечага яшчэ. Яно мела свае закуткі, этажэркі з кніжкамі, старыя альбомы з фатаграфіямі ў пазалочаных рамках, наклееных на тоўстую тэкстуру і забяспечаных па адвароце рэкламай фірмаў з гербамі і медалямі. За сцяной крайняй спальні было яшчэ маленькае памяшканне, адрэзданае ад яе ў часы колішняга замуства цёткі Антаніны. Цяпер жылі там Ягмінавы, ён тэлеграфіст, як мой дзед, вялікі, стары, барадаты, таксама спольшчаны ліцвін, яна малая, тоўстая, можа на трыццаць гадоў малодзейшая за яго. Маці не вельмі іх любіла. Яго - за плюгавы язык, яе – за лішнюю набожнасць. А між тым, калі іх праз некалькі гадоў спаткала ў Польшчы, прымала не раўня як родных.

На падворку, насупраць доміка, але ў глыбіні, стаяў другі дом, новы, збудаваны ўжо пасля майго нараджэння, таксама драўляны і аднапавярховы, але вышэйшы. Там былі два памяшканні. У адным жыла сям’я некага жыццёвага недарэкі з грозным прозвішчам Сувораў. У другім ужо нейкі час жылі Мануевы з двума на шмат старэйшымі за мяне дзецьмі, Леанідам і Нінай.

Паміж старым і новым домам з левага боку цягнуліся драўляныя складзікі па аднаму на памяшканне, ляжала там дрэва, старыя краты, жалязякі, словам – шмат цікавых рэчаў. Уздоўж складзікаў - драўляны ходнік. З правага боку быў агарод з некалькімі чарэшнямі і вішнямі, які пераходзіў за новым домам у садзік, дзе панавалі высакародныя “цітоўкі” і “апорты” велізарныя яблыні з чырвоным румянцам, ярчэйшым у першых, цямнейшым, амаль фіялетавым у другіх. Была таксама адна папяроўка, з салодкімі “рассыпчатымі” пладамі, а таксама пара антонавак, спачатку кіслых, потым найсмачнейшых з усіх, асабліва, калі трапляў на яблыка, ажно празрыстае ад набранага соку. Былі акрамя таго кусты агрэсту і парэчак, быў паркан, моцна зарослы, былі мікраскапічныя пагорачкі і густая трава паміж дрэвамі. Словам – усё, што трэба для найлепшай забавы.

На дзядзінцы караляваў адзін, іншых дзяцей у маім узросце не было. У Ганкевічаў побач меў аднаго равесніка. А, наогул, на вуліцы пачало паволі ствараца таварыства. Ужо вузка хлапечае. Не набыло яно яшчэ формы “каманды”, але ўжо пачынала вечарамі цягацца разам, трохі біцца паміж сабою на вуліцы, трохі разам хадзіць на суседнія вулачкі. Тут не было гульняў “у доктара”, але было шмат размоў на гэтую тэму. З’явіўся набор “моцных” слоў па герархіі вузка дакладных, як у лістах дыпламатычнага корпусу. У адным з “польскіх” дамоў на другім канцы вуліцы выбухнуў скандал: колькі гадовы хлопец быў злоўлены бацькамі “на” сваёй равесніцы з суседняга дому. Хадзілі туды і стаялі доўга, гледзячы на звычайныя вокны, на пусты – бо садзік яшчэ не падрос – падворак. Усё тут здавалася нейкім інакшым, таямнічым, грэшным, пякельна цікавым. Вінаватых ніхто з нас не ўбачыў, бацькі адправілі іх недзе далёка.

Па сутнасці рэчаў усё гэта было яшчэ вельмі нявіннае, захапляльнае. Наогул, але як адно з многіх, не найважнейшае. Найважнейшым для мяне былі кніжкі. Асаблівым маім захапленнем былі гістарычныя аповесці. Шалёнае ўражанне на мяне зрабіла, напрыклад, аповесць пра паўстанне Спартака. Адзін раз зімой пайшлі з маці ў бібліятэку і пасля доўгіх пошукаў натрапілі на кнігу пра бітву пад Белай Гарой. Было холадна, я засунуў кніжку пад паху, усадзіў рукі ў кішэні і ішоў

за маці ў сваім тоўстым футарку, як у панцыры. Каля чыгуначнага маста бегала нейкая купка сорвігалоў. Поўны шчасця, што такое цікавае чытанне чакае мяне дома, не звярнуў увагі на іх крыкі і тупат, прыйшоў дадому – кніжкі не было. Балбесы выцягнулі яе ў мяне з-пад пахі! Жаль па ёй застаўся ў мяне на доўгія гады: не так з таго, што ўкралі, а з таго, што не паспеў прачытаць.

Яшчэ дзве драбніцы. Хлопцы пачыналі паціху курыць. Маці, сама заядлы курэц, хацела мяне абараніць перад той кепскай звычкай і "сучасным" спосабам. Калі ў нас неяк згадалі пра папяросы, сказала мне, што, калі захачу, то сама мне будзе даваць папяросы, абы толькі не курыў цішком. Згадзіўся на тую ўмову і адразу папрасіў папяросу. Дала яе. Дадала, што трэба прызвычайвацца паволі. З першага дня адну, з другога – дзве, з трэцяга – тры, і гэдак далей.

Выкурыў першую пры маці. Агледзела мяне ўважліва. Назаўтра з раніцы папрасіў другую. Дала. выкурыў. Вечарам папрасіў зноў...

Тут накрычала на мяне і катэгарычна забараніла. Думала, што пасля першай не вытрымаю, і мяне вырве. Вытрымаў. Але тады не вытрымала яна.

Аднак я курыць не спяшаўся. Толькі закончыўшы ўніверсітэт пачаў курыць заядла. Праз дзевятнаццаць гадоў пад націскам лекара кінуў тытунь зноў і дасканала абыходжуся без яго па сёння.

Неяк маці размаўляла з некім, бадай што з цёткай. Пачуў слова "арыстакраты". Не вельмі ведаючы, што яно значыць, пачаў з ім гуляць "Арыстакраты", "акрысатраты", "арцыкастраты".

- Як, як?! – загукала маці

Паўтарыў.

Выбухнулі смехам. Намагаліся мяне пераканаць, што ведаю, што гэта значыць. Кляўся, што не маю разумення. Мусіць не паверылі. Часта са мной гэта здаралася. Людзі не хочуць верыць, што не меў разумення.

**Нешта жудаснае**

Той жа зімой перажыў нешта жудаснае. Дзядзька – эпілептык жыў у доме, хоць час ад часу забіралі яго ў шпіталь. Я баяўся яго падсвядома, напэўна ў вачах ён меў нешта такое. Напэўна адсутнасць усмешкі, добрага слова. Дзядзька праседжваў цэлыя дні ў сваім пакоі, і нават дзверы, якія ў яго вялі, будзілі ўва мне неспакой. Не чытаў, не працаваў. Віпілваў лобзікам з фанеры рамкі для фатаграфій, і, здаецца, гадаваў галубоў. Маці, бабка, цётка заўсёды стараліся мяне ад яго адгарадзіць.

Сам не ведаю, як тое сталася, што аднойчы застаўся з ім адзін на адзін у цэлым доме. Быў пачатак зімы, за вокнамі ляжаў мокры, але досыць глыбокі снег, хмары ішлі нізка, было змрочна, хоць ужо падходзіў поўдзень.

Дзядзька раптам выйшаў з пакою. Падышоў да мяне, слова не сказаўшы схапіў мяне за горла і пачаў душыць. Я не мог крыкнуць, зрэшты, і не было нікога. Да гэтага месца памятаю ўсё дакладна. Не памятаю, што мяне ўратавала. Ці вырваўся ад яго? Наўрад. Ці сам мяне адпусціў? Мусіць, таксама не. Здаецца, што ўвайшла бабка. Так, цяпер уласна прыпамінаю сабе. І найстрашнейшым было не тое, што мяне душыў у пустым памяшканні, але тое, што, калі бабка прыйшла, мусіла яго ласкава ўгаворваць, каб пакінуў мяне ў спакоі. А, калі ён мяне адпусціў, шапнула, каб уцякаў.

Выскачыў з дому, прамчаўся цераз двор, павярнуў за новы дом і там, як стаяў, у куртачцы і панчохах, прысеў на кукішкі ў снежнай гурбе пад кустом агрэсту. Убачылі мяне з вокнаў кватаранты і ўзялі да сябе. Дадому вярнуўся толькі тады, калі дзядзьку забралі ў шпіталь.

Два ўражанні засталіся ў мяне пасля таго. Страх перад вар'ятам ці п'яніцам і агіда. І дакучлівае пачуццё, што часам ты можаш быць нявінна пакрыўджаным, а відавочны вінаваўца становіцца аб'ектам лагодных угавораў і дыпламатычных захадаў.

З дзядзькам, дарэчы, жыццё абышлося бязлітасна: застаўся ў псіхіятрычным шпіталі ўжо да канца, да смерці праз некалькі гадоў.

**Дваццаты год**

Прыйшла вясна дваццатага года. Ужо ведалі сёетое пра бацьку. У Дзянікіна трапіў у дывізію Жалігоўскага, быў пад Адэсай, хварэў на тыф, распавядаў пазней з незвычайным артыстызмам, як разам з грэкамі і французамі ўцякаў у Адэсу пад артылерыйскім агнём. У дадатак меў сорак градусаў гарачкі, якія спрыялі таму, што бачыў усё наўкола нечувала яскрава, і нічога не баяўся.

На той час бацька быў у 2-м палку падгалянскіх стральцоў. Да нас не прыязджаў.

Часам хадзілі да яго бацькоў, яны таксама перабраліся ў Менск і збудавалі сабе домік недалёка ад нас, каля самай чыгункі. Домік быў новы, але няўтульны, без зелені, без тога налёту старасвецкасці, які столькі прыцягальнасці дадаваў доміку на 2-ой Сергіеўскай. Маці, дарэчы, не любіла свякрухі, адразу часта праз яе плакала, потым востра сабе прыпамінала. Бабка Путраманціха мела нязгоршы характар. Ледзьве дзед размыкаў вусны, верашчала: "Здыму пантофель і дам па пысе!" Дыскусія на тым перапынялася.

Дзед быў безабаронны, пачцівы, барадаты. Любіў выпіць: гэта, здаецца, і дало яго жонцы такую хатнюю перавагу. Быў меншы за бабку. Тая ў дадатак насіла акуляры ў бляшанай аправе. Мне не падабалася. Цалкам падзяляў меркаванне мацеры пра яе.

Вясна надыходзіла з вайною. Вайны датуль не адчувалі – акрамя некалькіх эпізодаў у Петрыкаве. Цяпер, аднак, і весткі з фронту пачалі станавіцца тэмай размоў і шэптаў – і нарэшце ў самім горадзе нарастала напруга. Наша мяшаная вулачка пачала дзяліцца паводле вызнання і мовы. У польскім асяродку (з дзеячоў быў вядомы ўсім малады і прыстойны пан, нейкі Уладзіслаў Рачкевіч) пачалі пераважаць шавіністычныя настроі. У горадзе, дзе палякі склалі значную меншасць, такія настроі павінны былі выклікаць непазбежную напружанасць і рост актыпольскіх настрояў.

Вясна ішла, і вайна набліжалася да нас што раз хутчэй. У чэрвені весткі з фронту пачалі пашыраць паніку. Распавядалі, што бальшавікі распачалі вялікае наступленне. У польскім асяродку то той, то іншы паспешна ад'язджаў. Маці чакала вестак ад бацькі. ¨н быў на той час у Кіеве. Адразу адтуль ішлі трыумфальныя паведамленні. Потым і там усё змянілася. Лісты ад

бацькі прыходзіць перасталі. Канец чэрвеня ў Менску быў страшны. Катастрофа беларускага фронту стала фактам. Лавіна бальшавікоў сунулася на захад, пагражаючы гораду поўным акружэннем. Менск быў стаўкай штабу фронту. Тут былі велізарныя склады боеприпасаў, абмундзіравання, харчавання. Эвакуацыя тых складоў была пачата надзвычай позна. І тады ж на астатняй, не адрэзанай яшчэ чыгуначнай лініі на Баранавічы здарылася катастрофа неверагодна страшных памераў.

Падобна на тое, што нейкі дыверсант ускочыў на лакаматыў аднаго з цягнікоў і ці то забіў машыніста, ці то выпхнуў яго, ва ўсякім разе цягнік затармазіў. Цягнікі ішлі адзін за другім, калі той першы спыніўся, урэзаўся ў яго разагнаны другі. У гэты ўехаў бранецягнік, загінула, відаць, шмат людзей. Фактам з'яўляецца, што яшчэ ў 1926 годзе, калі я там праязджаў, бачыў ля падэшвы вельмі высокага ў тым месцы насыпу паржавелыя восі вагонаў. Эвакуацыя была сарваная, людзі маглі ўжо толькі ўцякаць і прабірацца па адным. Пра ратаванне запасаў не было і мовы. Гэта ў сваю чаргу выклікала наступную жорсткасць. У першыя дні ліпеня пачаліся падпалы складоў. Памятаю летняе неба Менска з чатырох бакоў зацягнутае дымамі. Людзей, агаладалых за зіму і вясну агарнула шаленства ад выгляду нішчэння такіх багаццяў. Хто быў жыў, бег з мяшкамі на пажары. Усё гарэла разам, снарады і кансервы. Не адзін з шукальнікаў скарбаў узляцеў у паветра. У нас выключную энергію праявіла бабка. Прыцягнула цэлы мяшок банак са згушчаным малаком. Былі ўжо прыпаленыя, ад таго сапраўдныя прысмакі для мяне: разбівалі банку, а адтуль цякла бронзавая вадкасць са смакам цукерак "крэм бруле".

Наступныя два дні было найцяжэй. Па вуліцах бегалі жаўнеры, падобна, што найгоршыя (бандыты), і падпальвалі ўжо не склады, а звычайныя дамы. Людзі выстаўлялі абразы ў вокнах, каб паказаць што яны не яўрэі. Асаблівай папулярнасцю карысталіся Маці Божая Вастрабрамская і Маці Божая Чанстахоўская.

У нас, на нашай вуліцы, было здарэнне, што жаўнеры прычапіліся да Волкавай, той, што жыла насупраць, хоць яна была найрадавітайшай полькай. Не ведаю, што яе ўратавала. Бабка таксама сумела адагнаць пару смаркачоў у мундзірах, якія беглі па вуліцы з банкай бензіну.

Ноч прыйшла трывожная, уся ў брудных малінавых зарывах. Дзесьці ў ваколіцах чыгуначнага вакзала кожныя некалькі секунд рваліся цяжкія снарады: гэта цэлыя суткі гарэлі артылерыйскія склады. Гарэла ўсюды навокал. Здавалася, што ад горада застанецца жменя пепелу. Нас ратавалі садзікі.

Маці выйшла ў сад, бо з супрацьлеглага боку, з суседняй вуліцы, агонь, здавалася ужо набліжаўся. Раптам з-за куста выглянуў чалавек. Папрасіў яго схаваць. Маці завяла яго на гарышча нашага дома, туды, дзе звычайна ляжалі на саломе апорты і антонаўкі, дзе куты былі завалены лахманамі, кніжкамі, старымі фатаграфіямі. Ніхто ў хаце пра гэта не ведаў.

Яшчэ суткі трывалі пажары. Потым здалёку пагрукала трохі артылерыя і замоўкла. Трохі было страляніны з вінтовак. Вуліцу перабеглі некалькі чалавек у мундзірах зямлістага колеру, інакшых, чым польскія.

На двары з'явіўся той, якога маці схавала на гарышчы. Дзякаваў маці:

- Дазвольце прадставіцца, такі і такі, дзеяч камуністычны.

Маці адказала:

- А я жонка польскага афіцэра, Путраманта.

Чалавек змяшаўся. У канцы параіў, каб нікому болей так не прадстаўлялася.

Значна пазней маці рабіла намаганні прыпомніць яго прозвішча. Сцвярджала, што спатыкала яго сярод найвыбітнейшых, не была ўпэўнена, ці не быў гэта Куйбышаў. Гэта, здаецца, выключана. У той час быў ён у Туркестане.

Пайшлі з маці ў цэнтр горада. Пасля апошніх дзён прыход Чырвонай Арміі – акрамя ўсякіх неспакояў, якія ён нам асабіста абяцаў – прымалі як вялікую палёгку.

Вось малюнак, які памятаю: галоўная вуліца Менска, Захар'еўская. Даходзім з маці да чыгуначнага мастка, які праходзіць над вуліцай. Ісці вельмі цяжка. Ногі грузнуць па костачкі ў гразі вельмі асаблівага роду: уся вуліца - брук, тратуар - была засыпана масай кавы.

Здалёк чуваць яшчэ адзінкавыя стрэлы. Яшчэ то тут, то там слупы дыму, тонкія і чорныя ў бляклым, распаленым ліпеньсім небе. З-пад самага моста вынырвае калона войска. Ідуць свабодна. Мундзіры зямлістыя, добра абшарпаныя. Некалькі збоку на конях.

Не шмат памятаю з наступных месяцаў. Было кепска з прадуктамі. Часам прыходзілі чырвонаармейцы прасіць што-небудзь паесці. Бабка дала ім раз нечага такога, што елі самі. Памятаю куслівую рэпліку аднаго з іх:

- Чырвонаармеец - не свіня, усё з'есць.

Суседзі, хоць мы ворагаў і не мелі, пачалі аднак шаптацца на тэму маці, што жонка польскага афіцэра. Аднаго дня з'явіўся да нас нейкі тып, які запатрабаваў дакументы маці, яна прынесла пенсійную кніжачку, выдадзеную ў 1914 годзе, дзе бацька быз залічаны да забітых. На кніжацццы вялізнымі літарамі было напісана: "Удава". Нешта гладзеў, глядзеў. Здавалася, што чытанне давалася яму з цяжкасцю. Ва ўсякім разе па-за тыя вялікія літары не перайшоў, аддаў маці дакумент і пайшоў сабе.

Восенню ізноў усё памянялася. Прыйшлі весткі, што палякі пасоўваюцца на ўсход. Тым разам не было ані пажараў, ані страляніны. Нейкім кастрычніцкім днём прыйшла вестка, што бальшавікі ўцяклі. Мы пабеглі на найбліжэйшую шашу, якая праз Маладзечна ішла на Вільню. Уся шаша была забіта польскімі абозамі.

Але людзі не здолелі яшчэ апамятацца, калі дакладна ў наступны дзень абозы рушылі назад. Бальшавікі ўступілі ў горад ізноў, бадай што ўжо з вечара.

Гэта было ўжо перамір'е. Менск заставаўся па там-тым баку, польсія перадавыя дазоры развярнуліся і цяпер выраўноўвалі фронт.

Праз колькі тыдняў, калі ўжо пачалася зіма, з'явіўся ў доме нехта з нашых сваякоў, Шыманскіх, якія жылі ў невялікім фальварку недалёка ад станцыі Негарэлае. Прывёз паштоўку ад бацькі. ¨н чакаў нас у Шыманскіх.

Размовы ўсю ноч і плач, потым пакаванне. Ве-

чарам рушылі. Саннай дарогі яшчэ не было, ехалі возам, вазніца ішоў збоку, месячы снег з граззю і што хвілю кляў, што "коўзка", г.зн. слізка.

Маці, захутаная ў хустку і, наогул, апранутая папростаму, вельмі хвалявалася. Калі даехалі да дэмаркацыйнай лініі, з першай вясковай хаты выйшаў нехта з вінтоўкай.

- Дакументы.

Вазніца пачаў грэбацца па кішэнях, шукаючы сваю паперку, афармленую толькі на яго аднаго. Было холадна, жаўнер дрыжаў у сваім палітку. Мацеры прыйшла святая думка – пачаставала яго папяросай. Узяў закурыў, махнуў рукой.

**Польшча, 1921 год**

І вось мы у Шыманскіх. Быў ужо ў іх, напэўна, летам. Падрабязнасцяў не памятаю. Леташняй зімой жылі ў нас у Менску на станцыі два васямнаццацігадовыя блізнюкі, Пётр і Павел, прыгожыя хлопцы. Цяпер тут прывітаў нас бацька. Першы раз запомніў яго сабе ў вайсковым мундзіры. Пэўнае ўражанне зрабілі на мяне ўсякія срэбныя выкрунтасы, якіх у той час было поўна на афіцэрскіх абшлагах, рукавах і пагонах. Здаецца, што наступным днём мы рушылі далей. Было гэта ў акрэсе новага 1921 года. Вельмі прыкрыя ўспаміны. Падарожжа цяжкае, холадна, хаты перапоўненыя. Нейкая станцыя, дзе мы доўга чакаем на цягнік. Усюды поўна людзей. Памятаю, што бацьку нарэшце ўдалося знайсці куток. Быў гэта дастаткова вялікі спальны пакой з велізарным ложкам, поўным пасцеляў. У ложку нейкі тып з жанчынай. Не ведаю чаму, але мне было страшна сорамна за іх, брыдка і ў агуле абрыдліва. Яны нікольки на нас не зважалі. Мы прытуліліся ў кутку на клунках.

Потым адразу вясна і Давыд-гарадок. Бацька камандаваў батальёнам у палку, які спачатку меў нейкую вельмі дзіўную нумерацыю, а потым быў перайменаваны ў 49-ты полк пяхоты. У той час полк швэндаўся па ўсходніх мясцінах польскай часткі Палесся.

Давыд-гарадок – паўвёска прышчэпленая да велізарнай паўпаводнай Гарыні. Ужо сапраўдная вясна, мутныя ўспаміны з Вялікадня. Вельмі галадна. Жылі ў маленькім нумары яўрэйскага гатэліка. Памятаю, як журботна выглядаў праз акно, ці ардынарац не нясе кацялок з абедам з афіцэрскага казіно. Слабыя былі абеды, не хапала нават на некалькі гадзін. З'явіліся нейкія трэнні ў маці з бацькам. І на мой конт таксама. Я падаваўся бацьку распушчаным, непаслушным, бацька цвердзіў, што я аказваю яму мала павагі. Маці бараніла мяне так заўзята і, нават, у маёй прысутнасці. Гэта ў сваю чаргу дадавала мне задору і што раз больш раздражняла бацьку. Вельмі кепска пачыналася паваеннае сужыцце бацькоў.

Потым Лахва, малая чыгуначная станцыя, таксама над нейкай рэчкай. Ехалі туды на маторнай лодцы. Гэта было прыгожа. Шмат вады, зараснікі на беразе, светла-зялёны травеньскі вечар.

Былі там коратка. Полк, датуль раскінуты на дробных залогах, быў сканцэнтраваны ў Пінску.

Былі тут летам. Жылі ў мансардзе, якая выходзіла на вялкі стары парк. Тут паспрабаваў першую ў жыцці прозу: апісаў некалькі крыжовых перажыванняў, уцёкі з Петрыкава, уцёкі з Менска, нейкую зімовую вандроўку, ужо на гэтым баку. Часам ездзілі з бацькам купацца на другі бераг Піны, насупраць прыгожых кляштароў. Аднойчы вярталіся на лодцы. Улезла ў яе шмат сялян і жаўнераў. Сядзелі, як трусы, гледзячы, як на дне збіраецца што раз больш вады. Людзі пачынаюць хвалявацца, барты на некалькі сантыметраў ад паверхні вады. Нехта хіснуў лодку, і вось водная плынь уварвалася паміж нас, лодка перавярнулася, хто жывы - скача...

Я плаваць не ўмеў. Як камень іду на дно. Не баюся. Памятаю зялёны колер вады. Памятаю здзіўленую думку, гэта я ўжо ўтапіўся? Усё робіцца ў такім кароткім часе, што яшчэ не мучуся з недахопу паветра. Памятаю наступную думку: мусіць трэба памаліцца.

У тую самую хвіліну нейкая сіла выпхнула мяне ўверх. Гэта бацька схапіў мяне за плечы. Трымаліся за перавернутую ўверх дном лодку. З натоўпу пасажыраў – нікога, усе ўмелі плаваць і ўжо былі на беразе.

Толькі цяпер напаў на мяне страх. Бацька потым дамаў мяне тым, што я страшна жаласна крычаў аб паратунку. Сам нічога тога не памятаю. Затое памятаю лодку, якая нарэшце рушыла па нас. Казалі, калі лодка была ўжо блізка, пачаў сердаваць, што плыве так павольна.

Пазней некалькі разоў мог я ўтапіцца, але гэта былі дробязі ў параўнанні з тым выпадкам.

Пачаліся першыя бойкі. У горадзе спелі палітычныя і нацыянальныя канфлікты. Большасць пінчан – гэта былі яўрэі. Яны прынялі савецкую ўладу вельмі добра. Прыход польскіх войскаў прынёс ім чарговыя рэпрэсіі. Як вядома асобныя вайсковыя часткі, найперш галерчыцы і пазнаньцы, былі антыяўрэйскі настроены. Аднаго дня меў дробную вулічную сутычку з нейкім падшпаркам-яўрэем майго ўзросту. Я выйшаў у ёй пераможцам. На наступны дзень, калі зноў там праходзіў, мой учарашні супраціўнік чакаў мяне ўвялікай кампаніі. Адразу кінуліся на мяне. Некалькі мусілі мець па нейкіх гадоў пятнаццаць. Паспрабаваў уцякаць. Акружылі мяне, пачалі біць. Упаў у шаленства, і таксама лупіў з усёй моцы. Тут жа мне пусцілі кроў з носа. Не ведаю, як бы гэта ўсё скончылася, але падзея адбывалася каля ўваходу ў казармы. Жаўнеры глядзелі адразу на ўсё досыць спакойна. Потым адзін з іх крыкнуў

- Гэта сын нашага капітана!

Падскочылі да нас. Мае супраціўнікі кінуліся ўрассыпную. Аднаго злавілі і пацягнулі ў казармы. Той страшна крычаў. Мне зрабілася не па сабе, і я пабег дадому. Пазней той жаўнер, які мяне ўратаваў, з жалем пытаўся, чаму я знік, заміж таго, каб сведчыць у казармах супраць пакасніка. Гэта ўсё былі толькі першыя праявы. Праз некалькі дзён, пасля выезду палка з Пінска выбухнуў там велізарны пажар, які не толькі амаль знішчыў увесь цэнтр горада, але і адкрыў збройнае паўстанне, якое падобна на тое рыхтавалася там камуністамі.

Аказалася, што на гарышчы дома, у якім мы жылі, былі кулямёты. Пэўна, таму гаспадар дома няласкава глядзеў, калі я лазіў па розных закутках.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Заўсёды сэрца поўніцца тым, што вечна помніцца…

## *Алесі Бурак – 80*

Часта задумваюся над жыццём чалавека і разумею, што гэта не толькі цікавая, але і загадкавая з'ява са сваімі трывогамі і радасцямі, складанымі перажываннямі, пошукамі і ўзлётамі мар. Жыццёвыя праявы і абставіны лёсу творчых людзей, якія чуйна і актыўна адносяцца да жыцця, шукаючы ў ім сэнс і ўмеючы пераадолець цяжкасці, вельмі карысны прыклад для маладога пакалення, якое нярэдка пры нязначных хістаннях не вытрымлівае выпрабаванняў часу.

Сустрэць на сваім жыццёвым шляху чалавека, які можа падтрымаць цябе ў цяжкую хвіліну, зразумець набалелае ў душы, акрыліць на ажыццяўленне запаветнай мары – вялікае шчасце. Мне радасна паведаміць аб тым, што на сваім шляху сустрэў неардынарнага чалавека, мэтанакіраванага і паўнадушнага, які можа быць прыкладам у нашым паўсядзённым жыцці.

Праз літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты" я пазнаёміўся з былой настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Бурак Аляксандрай Аляксандраўнай – сябрам гэтага аб'яднання з самага першага дня яго існавання. З 1966 года па сённяшні дзень яна актыўна супрацонічае з раённай газетай, на старонках якой друкуюцца яе вершы, допісы. Яна не толькі вядомая на Лідчыне паэтэса, але і вельмі цікавы суразмоўца, мудры дарадца, дабразычлівы чалавек. Нягледзячы на тое, што Аляксандра Аляксандраўна піша вершы са школьных гадоў, друкавалася не толькі ў раённых, але і ў рэспубліканскіх выданнях, яна толькі ў 2008 годзе выдала сваю кнігу і адрасавала яе *"ўсім дарагім яе сэрцу людзям"*.

Яе кніга "Прастора дабрыні" ёсць і ў мяне з наступным надпісам:

*Дарагі Алесь!*
*Ты – цудоўны Чалавечак,*
*Мой і вучань і паплечнік,*
*Творчы дух мацуй штогод*
*І не бойся перашкод,*
*Калі іх перамагаеш,*
*Розум,сілу набываеш,*
*Узрасцеш на творчай глебе*
*Станеш людзям больш патрэбным.*

А.А. Бурак умее зразумець чалавека, падтрымаць яго высілкі, дапамагчы ў патрэбную хвіліну. Пазнаёміўшыся з маімі першымі творчымі набыткамі, яна не толькі параіла, але і настойліва прапанавала мне вучыцца далей, набыць вышэйшую адукацыю. З яе дабраслаўлення я паступіў у Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы на філалагічны факульгэт. Яе падтрымка ў цяжкія хвіліны мацуе мае сілы ў сумяшчэнні нялёгкай працы будаўніка з навучаннем у вышэйшай установе, аб чым і сведчыць уласнаручны яе надпіс у падараванай кнізе.

Калі я запытаўся, чаму аўтар кнігі Алеся Бурак, а не Аляксандра, яна зазначыла, што сама родам з беларускага Палесся, а там вельмі распаўсюджанае народнае імя Алеся, поўнае імя якой Аляксандра.

*Я так люблю край непаўторны свой,*
*Яго сцяжынкі, долы, пералескі:*
*І нездарма ж і я, і маці, й бацька мой –*
*Палешукі ад роду, усе Алеські.*

Насцярожыла мяне назва беларускамоўнага раздзела кнігі "Мой верш – мой лёс". Знаёмлюся з вершамі і разумею, што многія – аўтабіяграфічныя. Вырашыў сустрэцца з Алесяй Бурак і каб больш падрабязна даведацца аб тым, аб чым яе многія вершы.

У кнізе фотаздымак, на якім А. Бурак і яе вучні побач з народным пісьменнікам Беларусі Іванам Мележам на радзіме Я. Коласа ў кастрычніку 1972 года. *"Я з Хойніцкага раёна, зямлячка Мележа"*, зазначае мая суразмоўніца і расказвае пра першую сустрэчу з І. Мележам, якая адбылася ў 1963 годзе на кватэры прафесара БДУ Жыдовіч Марыі Андрэеўны, якая была родам з Дукоры. І. Мележ і А. Бурак сустрэліся на 40-годдзі Іны Каралёвай, дзе спадарыня Алеся прачытала верш "Сваёй роднай Дукоры", прысвечаны сяброўцы Іне - дачцы М.А.Жыдовіч. Іван Мележ быў студэнтам Марыі Андрэеўны з 1943 г. Трэба адзначыць, што выхаванцамі доктара філалагічных навук М.А. Жыдовіч былі вядомыя пісьменнікі і паэты. Пры яе дапамозе 18 студэнтаў абаранілі кандыдацкія дысертацыі, сталі аўтарамі беларускіх падручнікаў, а Сцяшковіч Тацццяна Філіпаўна – прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы – таксама яе студэнтка і аспірантка.

Дукора – вёска за 45 кіламетраў ад Менска. Тут з 1937 года жыла сям'я Рудчанкі Алеся Сцяпанавіча (дзявочае прозвішча А. Бурак – Рудчанка). ¨н працаваў дырэктарам МТС, быў сябрам і паплечнікам Радзюка Трафіма Сямёнавіча, імя якога носіць адна з вуліц нашага горада. Алесь Сцяпанавіч быў прызваны ў армію 1 сакавіка 1941 г., знаходзіўся на граніцы недалёка ад Берасцейкай цвердзі, *"не вярнуўся з вайны ён, былы палітрук"* ("У родных мясцінах"). Дукору Алеся Аляксандраўна лічыць сваёй другой радзімай, бо тут прайшла большая частка дзіцячых і юнацкіх гадоў.

Успамінае яна і той выпадак, калі яшчэ ў студэнцкія гады сустрэлася з Якубам Коласам. У той час не хадзілі ні аўтобусы, ні маршруткі: дабірацца дадому студэнтам было цяжка. А да бліжэйшай чыгуначнай станцыі з Дукоры, дзе яна жыла, была адлегласць 12 кіламетраў. Каб патрапіць у Менск, студэнтка Аляксандра ішла да станцыі пешшу, па чыгунцы. А з Менска ўжо дабіралася на спадарожных машынах, у большасці на грузавіках. Аднойчы яна

выйшла на шашу з мэтай спыніць які-небудзь транспарт, каб дабрацца з Менска да Дукоры. І тут легкавая машына прыпыняецца… Спераду сядзеў мужчына – пасажыр, які не адварочваючыся, з цікавасцю распытваў у дзяўчыны: дзе вучыцца, якая сям’я. Аляксандра, шчырая па натуры, расказвала, што яна студэнтка, едзе дадому, дзе яе чакае маці і тры малодшыя сястры, што бацька яе загінуў на вайне. З пачуццём болю ўспрыняў мужчына яе адказы. А калі даехалі да Дукоры, Аляксандра памкнулася заплаціць. І чалавек, які сядзеў на пярэднім сядзенні павярнуўся да яе. Гэта быў славуты Якуб Колас. Канешне, грошай ад яе за праезд ніхто не ўзяў.

Нельга абысці ўвагаю ваенныя і нялёгкія пасляваенныя гады жыцця А.Бурак.

*Без бацькі расла я старэйшай дачкою…*
*Падоўгу адна па-над сіняй ракою*
*Я з горкай калінай на лёс наракала*
*І крыўду ў роснай вадзе паласкала.*

(“Сэрца сэрцу”)

На чацвёрты дзень вайны маці і чатыры дзяўчынкі (старэйшай было 10 гадоў), апынуліся ў плыні бежанцаў, але ўцячы ад немцаў не ўдалося. З-за Магілёва ад Дрыбіна ўжо па акупаванай тэрыторыі пехатою дабіраліся на радзіму ў Хойніцкі раён. Да вызвалення Беларусі маці і старэйшая Алеся працавалі на чужых людзей, каб неяк выжыць. Апухалі з голаду, хадзілі ў лазовых лапцях і зрэбным адзенні. Вайна навучыла Алесю Аляксандраўну не толькі драць лазу і плесці лапці, прасці кудзелю, снаваць кросны і ткаць. Жыццё навучыла шыць, вышываць, жаць і выконваць мужчынскую работу: касіць, пілаваць, секчы дровы, хадзіць за плугам. З 12-гадовага ўзросту яна ўжо на ўласным кавалку хлеба, а працоўная навука пакінула на левай руцэ вялікія шрамы ад касы, сярпа, пілы.

У 1944 годзе вярталіся ў Дукору ў таварных вагонах, але там нічога не знайшлі: усё разрабавалі і немцы, і людзі. Замест трохпакаёвай кватэры прытулкам для сям’і стаў пакой у барачным доме, па вуглах якога зімой выступаў іней і дажджлівымі днямі прыходзілася падстаўляць пасудзіны, бо працякала страха. Аднак сям’я выжыла: маці працавала вартаўніком і прыбіральшчыцай ў школе, а старэйшая дачка вучылася і працавала паштальёнам. Апраналася ў гімнасцёрку, спаднічку з салдацкага абмундзіравання, даматканую світку на кудзелі, ездзіла на саначках у лес па дровы і вазіла на гэтай жа зімовай тэхніцы малодшую сястру – інваліда дзяцінства.

Старэйшая дачушка паабяцала бацьку стаць настаўнікам. І ўжо пасля заканчэння Дукорскай школы яна паступіла ў Менскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Спалучаючы вучобу і работу хатняй прыслугі ў сям’і прафесара БДУ Вінберга, у 1950 годзе Аляксандра закончыла інстытут з дыпломам выкладчыка логікі, псіхалогіі і педагогікі ў педвучылішчах, набыўшы дадатковую спецыяльнасць выкладчыка беларускай мовы і літаратуры ў школах.

*“Мой настаўнік школьны Васіль Савіч*
*Улюбіў мяне ў беларускасць”*

(Радкі з верша студэнтскіх гадоў).

Перагортваю старонкі кнігі “Прастора дабрыні” і знаходжу імёны вядомых беларускіх творцаў, якія былі не толькі асабіста знаёмыя з А. Бурак, але, як я пазней даведаўся, аказалі значны ўплыў на яе творчы і чалавечы лёс. Гэта Гарбацэвіч Васіль Савіч і Русак Адам Герасімавіч.



***8-мы клас Дукорскай СШ Менскай вобл. У ніжнім радзе трэці справа пісьменнік-драматург, заслужаны настаўнік Беларусі Васіль Савіч Гарбацэвіч. У верхнім радзе трэцяя справа Рудчанка А.А. (пасля замуства Бурак А.А.), 1948 г.***

Алеся Аляксандраўна з вялікай ахвотаю расказвае аб гэтых дарагіх для яе людзях. Яна паказвае свае запісы аб іх, пісьмы, выразкі з газет са звесткамі аб гэтых славутых дзеячах беларускай культуры.

Васіль Савіч Гарбацэвіч - *“школьны настаўнік”*, з найстарэйшых пісьменнікаў Беларусі, аўтар драматычных твораў “Чырвоныя кветкі Беларусі”, “Вяселле” і іншых, заслужаны настаўнік Беларусі, закончыў Менскі пединстытут у 1933 годзе і амаль ўсё сваё жыццё працаваў настаўнікам у Дукоры. Хочацца прывесці запіс Алесі Аляксандраўны ў сувязі са смерцю Васіля Савіча ў 1985 годзе:

*“Смерць заўсёды нечаканая, і ніколі з ёй нельга змірыцца. Даведаўшыся аб*

*тваёй смерці, доўга не магла прыйсці да сябе. Жыццялюб, ты радаваўся кожнаму поспеху сваіх вучняў, радаваўся першым маім вершам, напісаным у школе. Я старалася ва ўсім быць падобнай на цябе, не здрадзіць тваёй дабрыні, шчырасці, адданасці сваім вучням. Улюбёны ў людзей, у сваю працу, кожную справу робячы творча, ты гэтыя рысы пакінуў і ў сваіх вучнях. Дзякуючы табе мяне сярод сяброў і ў газетах і ў Міністэрстве культуры назвалі паэтам. Няхай пухам будзе родная зямля, якая узгадавала цябе, і якой ты аддаў свой талент – талент настаўніка і пісьменніка".*

А вось і другі запіс:

*Васіль Гарбацэвіч – мой любімы настаўнік, мой жыццёвы ідэал. Гэта ён прывіў любоў да ўсяго беларускага. Дзякуючы яму я стала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры".*



***Алеся Бурак з сынам-першакласнікам Валодзям , 1964 г.***

Нельга не звярнуць увагу на запісаныя Алесяй Аляксандраўнай словы В. Гётэ: "*Тыя, у каго мы вучымся, правільна называюцца нашымі настаўнікамі, але не ўсякі, хто вучыць нас*, *заслугоўвае гэта імя"*. І далей ужо заўвага самой Алесі Аляксандраўны: *"Не называцца настаўнікам, а быць ім!"*

Ашчадна захоўваецца ў архіве маёй настаўніцы (я смела і небеспадстаўна так называю Алесю Аляксандраўну) і газета "Пухавіцкія навіны" ад 14 красавіка 1983 года з артыкулам "Летапісец і настаўнік з Дукоры", прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Васіля Савіча Гарбацэвіча. Працуючы ў школе, Алеся Аляксандраўна ніколі не шкадавала аб тым, што стала настаўніцай. Яна заставалася і застаецца вернай свайму любімаму духоўнаму і прадметнаму настаўніку.

Напярэдадні юбілею Алесі Аляксандраўны я сабраў выкызванні яе вучняў розных гадоў выпуску. Усе яны адзначалі высокі прафесіяналізм і эрудыцыю сваёй настаўніцы, яе любоў да беларускай мовы і літаратуры, а таксама і сваю любоў да настаўніцы, выказвалі словы ўдзячнасці за цікавыя ўрокі, вечары сустрэчы з пісьменнікамі, экскурсіі па радзімах Я. Купалы і Я. Коласа, падарожжы па родным краі. Называлі і асноўныя рысы характару: добразычлівасць, паважлівыя адносіны да сваіх вучняў і іх бацькоў, уменне падтрымаць лепшыя задаткі ў сваіх выхаванцаў. Многія яе вучні хацелі быць падобнымі да сваёй настаўніцы, пра што пісалі ў экзаменацыйных сачыненнях (у 1970 г.) на тэму "Чалавек, на якога я хачу быць падобным". (Падрабязней аб выказваннях вучняў А. Бурак надрукавана ў матэрыяле "Кожны з нас нясе па жыцці нешта добрае, узятае ад яе…" у газеце "Принеманские вести" за 16 снежня 2010 года). Алеся Бурак ганарыцца тым, што многія яе вучні сталі настаўнікамі. Гэта Каранюк Тамара, Пінаева Алена, Мулінская Алена, Жлабовіч Галіна, Ламбоцкая Галіна, Шэўчык Таіса. Вялікую радасць даставілі ёй вучні Тузін Валера і Каранюк Тамара, якія былі ў першых шэрагах суполкі "Рунь", што мела мэту адраджэння роднай мовы, культуры, гістарычных традыцый беларускага народа. (Аб суполцы "Рунь" можна прачытаць у "Лідскім летапісцы" у № 3-4 за 2008 год).

Пра тое, што на ўроках Алесі Бурак заўсёды было цікава, гаворыць наступны факт. Вясною 1969 года ў школьным раскладзе супалі ўрокі беларускай літаратуры ў 6 і 10 класах. Паколькі гэта быў апошні ўрок, Алеся Аляксандраўна пайшла праводзіць заняткі ў выпускны 10 клас, а 6 клас адпусціла дадому. Якое ж было ў яе здзіўленне, калі вучні 6 класа засталіся ў школе і папрасілі правесці ўрок беларускай літаратуры 7-ым урокам па ліку. У настаўніцкім калектыве многа гаварылі аб гэтай вучнёўскай неспадзяванцы, некаторыя нават з нейкай зайздрасцю.

Цікавым з' яўляецца і наступны ўспамін маёй суразмоўцы. У пачатку траўня 1969 года да Алесі Аляксандраўны прыехаў карэспандэнт рэспубліканскага радыё і запісаў яе парады па падрыхтоўцы да выпускных экзаменаў. Яе голас прагучаў на ўсю Беларусь 22 траўня 1969 года. Трэба пазначыць, што 5 сакавіка 1995 года па Лідскаму радыё пра А. Бурак была зроблена передача "Сустрэча для Вас". Пасля гэтага яшчэ двойчы лідзяне чулі яе голас па мясцовым радыё: у 2006 годзе ў перадачы "Лідская паэтычная гасцёўня" і ў 2008 годзе з нагоды выхаду кнігі "Прастора дабрыні".

*"Цягнуся к сонцу тонкаю рукою,*
*А ногі спутаны зялёнаю травою"* -
(Радкі аўтабіяграфічныя.)

У 1969 годзе Алеся Аляксандраўна прайшла конкурс на замяшчэнне вакантнага месца на кафедры псіхалогіі і педагогікі ў Гарадзенскі дзяржуніверсітэт. Яе імя вядомае было ўжо ў вобласці. У 1964 годзе ў сакавіку месяцы А. Бурак дзялілася досведам сваёй работы на 1 абласным з'ездзе па грамадскім выхаванні дзяцей, аб чым пісалі "Гродзенская праўда" і "Настаўніцкая газета". Летам 1968 года яна чытала лекцыі на абласных курсах удасканалення настаўнікаў. Але не змагла яна стаць выкладчыкам ўніверсітэта, а таксама і паступіць у аспірантуру з-за цяжкай хваробы – *"а ногі спутаны зялёнаю травою"*.

З многімі пісьменнікамі і паэтамі была знаёмая і сустракалася Алеся Бурак . Пра гэта паведамляюць успаміны, фотаздымкі аб літаратурных сустрэчах. Вось на адным з іх – яна і паэты Авер'ян Дзеружынскі і Адам

Русак у час сустрэчы ў школе № 11 г. Ліды ў красавіку 1968 года. З гэтай сустрэчы пачалася перапіска паміж А. Русаком і А. Бурак. Амаль усе лісты Адама Русака знаходзяцца ў асобным альбоме, які мне многае расказаў і аб асобе іх аўтара з Менска і аб асобе адрасата з Ліды. Чытаючы і перачытваючы іх, я многае зразумеў у жыцці, а таксама тое, дзякуючы чаму і каму ў Алесі Аляксандраўны такія рысы характару, як жаданне дапамагчы чалавеку ў творчасці і ў жыцці, быць чулай, шчырай і добрай, з цеплынёй адносіцца да людзей, быць вернай сваёй прафесіі многія гады, цікавіцца чалавечым лёсам. Безумоўна, многімі з гэтых рыс яна надзелена ад прыроды, некаторымі з іх надзяліў яе Васіль Савіч, аднак і роля Адама Русака таксама не малая.

Хачу прывесці з дазволу Алесі Аляксандраўны некаторыя вытрымкі з пісем Адама Русака. У першых двух лістах А. Русак просіць Алесю Бурак даслаць свае вершы, каб ён змог надрукаваць іх у рэспубліканскіх выданнях. У адным з іх (ад 13.05.68 г.) такія словы А. Русака:

*“Я іду на ўзлессе,*
*А са мною Алеся,*
*Напілася вадзіцы*
*Жыватворчай крыніцы.*
*Ды ідзём па старонцы,*
*І цалуе нас сонца.*

Алеся Аляксандраўна адказвае яму вершам:
*“Каб жа той жывой вадзіцы*
*З незвычайнай той крыніцы!*
*Я пайшла б з табой без стомы!*
*Па ўзлесках, па прасторы*
*Сэрцу любае старонкі,*
*Дзе смяецца рэха звонка.*
*Дзе рамонкі палявыя*
*І званочкі лугавыя*
*Так прыветна гнуць галоўкі,*
*Дзе вясна гаі ў абноўку*
*Апранула. І, здаецца,*
*Хай цалуе сонца, песціць…*
*Кожны з нас на сваім месцы!..”*

І далей у прозе:

*“Я не дарасла да рэспубліканскага друку і лічу, што лепш заставацца кожнаму на сваім месцы. Вы – паэт, я –настаўнік”.*

Тое, што Алеся Аляксандраўна – настаўнік *“на сваім месцы”* першым заўважыў былы загадчык аблана Жукоўскі. ¨н прыехаў у Красноўскую школу (тут першы год працавала А. Бурак), пабываў на яе ўроках, прыйшоў да дырэктара школы Сільвашкі Аляксандра Сафронавіча, удзельніка сустрэчы амерыканскіх і савецкіх войск на Эльбе,і сказаў: *“Я забіраю з сабою гэтую здольную настаўніцу з творчым падыходам да сваёй работы і пераводжу яе ў Ліду, інакш яна тут прападзе”*. У Красноўскай школе не было электрасвятла, бібліятэка школы памяшчалася ў адной кніжнай шафе, аўтобусы з Ліды не хадзілі. Жукоўскі прывёз Алесю Аляксандраўну да загадчыка гарана Віннічэнка Ніны Міхайлаўны і загадаў уладкаваць яе на работу ў горадзе. Такім манерам у 1955 годзе А. Бурак стала працаваць у СШ № 8, будынак якой узнік сярод руінаў у цэнтры Ліды. Прыйшлося разам з вучнямі акультурваць тэрыторыю вакол школы: разбіваць клумбы, высаджваць дрэвы. Зараз у гэтым будынку знаходзіцца Лідская музычная вучэльня.

У пісьме ад 20. 05. 68 г. Адам Русак раіць свайму адрасату прачытаць артыкул Максіма Лужаніна “Паэзія года” з часопіса “Полымя” № 5, бо гэта дапаможа ў творчасці *“звонкаструннаму сэрцу, улюбёнаму ў жыццё, у чалавека, у сонца, у песню…Ступайце смялей у Вашую, нікім не адкрытую, сцежку паэзіі”*. У адным з пісем дае Алесі Аляксандраўне параду пісаць толькі беларускія вершы, і не вельмі доўгія, *“пружыністыя”*.

З усіх канцоў Беларусі ляцелі лісты ад славутага паэта ў Ліду. Часта Адам Русак бывае на Гарадзеншчыне – у Смаргоні, Ашмянах, Навагрудку, Слоніме і інш.

*“Гродзеншчына – цудоўны край, харошыя там людзі, цудоўная прырода і звонкія песні.”* – піша А. Русак у адным з пісьмаў. А ўжо ў другім: *“Цудоўная Ваша Гродзеншчына яшчэ і таму, што там жыве мая знаёмая, з добрым чулым сэрцам і душой Алеська…”*

У 1969 годзе Алеся Аляксандраўна паспяхова адказвала на мастацка – літаратурную тэлевізійную віктарыну “Турнір дапытлівых”. Шукаючы адказы на пытанні, яна часта бывала і ў Менскай рэспубліканскай бібліятэцы (у яе захаваўся білет чытача таго часу). Але з Адамам Русаком яна не сустракалася. Аднак, калі ёй па якой прычыне не ўдавалася знайсці ў Лідзе матэрыял па пытаннях турніра і не выпадала часу паехаць у Менскую бібліятэку, яна звярталася да Адама Русака, і ён дасылаў ёй звесткі па тым ці іншым пытанні. Імя А. Бурак называлася з тэлеэкрана ў ліку пераможцаў тэлевіктарыны, што вельмі было прыемна і ёй, і яе вучням. Праз сваіх сяброў-паэтаў А. Русак перасылаў А. Бурак зборнікі з надзвычай цёплымі подпісамі, называючы яе *“маладой паэтэсай”*, *“кветкай Нёманскага краю”*. ¨н добра адгукаўся аб яе творах, якія па яго просьбе дасылала Алеся Бурак: *“Вельмі дзякую за сардэчныя, душэўныя Вашы вершы. Я ўсё думаю, як пусціць іх у свет”*. ¨н збіраўся выпусціць яе кніжку, але смерць Адама Русака ў сакавіку 1987 года абарвала здзяйсненне гэтай задумы.

У пісьме ад 04. 07.68 года ёсць такія словы:

*“Зараз я знаходжуся ў Уздзенскім, затым у Капыльскім раёнах. Сустракаюся з людзьмі, чытаю ім свае вершы і Вашу “Маці”* (“Сэрца сэрцу”- *А.Х.*), *якую публіка вельмі цёпла ўспрымае і дорыць гарачыя апладысменты ў Ваш адрас.”* Адам Русак змяшчае вершы А. Бурак ў газетах “ЛІМ” і “Вячэрні Мінск”. Праз некаторы час паведамляе ёй, што на яе словы беларускі кампазітар Мар’ян Наско напісаў “Баладу пра маці”, і што песня камісіяй пры Міністэрстве культуры прынята ў рэспубліканскі рэпертуар. Алеся Аляксандраўна вымушана была ехаць на прыём да міністра культуры Мінковіча, каб ён падпісаў ёй заяву на атрыманне ганарару ў суме 100 рублёў (гэта больш, чым тагачасная зарплата!). Алеся Бурак упершыню прачытала на дакументах Міністэрства – **“Паэт Алеся Бурак”**. Аднак да сённяшніх гадоў яна не лічыць сябе сапраўдным



***Алеся Бурак і Іван Мележ з вучнямі СШ №11 г. Ліды ў Мікалаеўчыне на 90-годдзі Якуба Коласа, кастрычнік 1972 г.***

З горыччу ўспамінае Алеся Аляксандраўна той дзень, калі дазналася аб смерці Адама Русака, аўтара шырокавядомых песень "Бывайце здаровы!", "Ой, бярозы ды сосны", "Толькі з табою". Яна захоўвае не толькі яго пісьмы і паштоўкі, але і газетныя выразкі пра свайго старэйшага сябра. Але, як вядома, творцы не паміраюць, яны жывуць вечна, бо ёсць іх творы.

Шмат дасканалых, напісаных на высокім узроўні вершаў ёсць і ў Алесі Бурак. Яе паэзія не раз была заўважана як рэспубліканскімі, так і мясцовымі літаратарамі. Першы паэтычны конкурс, аб'яўлены рэдакцыяй раённай газеты "Уперад" (цяпер "Лідская газета"), быў прысвечаны 50-годдзю Беларускай ССР. Верш А. Бурак "Беларусі" быў прызнаны лепшым, але сакратару Лідскага гаркама партыі Паповай Н. І. не хацелася даць яму першае месца (не вельмі любіла А. Бурак былы яе дырэктар школы за яе праўдзівасць і просталінейнасць, уменне адстаяць свой пункт гледжання на школьныя падзеі). Атрымалася 3-яе месца. У 2006 годзе праводзіўся творчы конкурс, прысвечаны В. Таўлаю пры "Лідскай газеце". Верш "У вянок В. Таўлаю" быў надрукаваны толькі часткова (не любіў рэдактар "Лідскай газеты" доўгіх вершаў) і верш "Абеліскі" атрымалі таксама 3-яе месца. У 2008 годзе ў творчым конкурсе, прысвечаным 685-годдзю гораду Ліды, Алеся Аляксандраўна зноў была ўзнагароджана дыпломам за 3-яе месца. Да дня горада была выдана анталогія вершаў "Шануйце роднае слова" і буклет-зборнік вершаў "Мой любы горад Ліда", на старонках якіх змешчаны і вершы А. Бурак. У кнізе "Шануйце роднае слова" надрукаваны і верш сына А. Бурак Уладзіміра Бурака. Невялічкая кніжачка яго твораў "Дарогі розныя бываюць" нядаўна ўбачыла свет і даставіла вялікае задавальненне яго маці – Алесі Бурак.

Трэба пазначыць, што ў друку Лідчыны А. Бурак з'явілася ў снежні 1966 года. На старонцы газеты "Уперад" былі змешчаны яе вершы "От меня ты далеко", "Современнику". Адказны сакратар газеты "Уперад", ды і пры тым, на той час першы кіраўнік літаратурнага аб'яднання Віктар Мікалаевіч Кучынскі быў пазначыў што вершы Алесі Бурак насычаны шчырасцю, вобразнасцю, цеплынёй. Сапраўды, з гэтай адзнакай варта пагадзіцца прачытаўшы яе зборнік "Прастора дабрыні". Калісьці вядомы беларускі паэт Пятрусь Макаль назваў яе вершы выдатнымі творамі, маўляў, што ў паэтэсы "ёсць божая іскра", а радок з яе верш "Маці"("Сэрца сэрцу") *"..і крыўду ў роснай траве паласкала…"* закрануў яго да глыбіні душы. А з якой замілаванасцю паэтэса піша пра сваю родную мову! Яна аздабляе навакольнае жыццё, жыве ў згодзе з іншымі мовамі, пранікае ў замежнасць як *"нашай душы незалежнасць"*, мова родная – *"лепшая з лекаў, ад болю ў*

паэтам, хаця, удзельнічаючы ў паэтычных конкурсах, тройчы займала прызавыя трэція месцы.

З вялікім хваляваннем і ўдзячнасцю ўспамінае Алеся Аляксандраўна яшчэ дзве асабістыя сустрэчы з А. Русаком. Першая, або ўжо другая па ліку, сустрэча адбылася 12 студзеня 1969 года. Адам Герасімавіч сустракаўся з лідзянамі, затым прыйшоў на кватэру А. Бурак, дзе сабраліся яе суседзі, калегі і сябры. Чыталіся вершы, шмат жартавалі, радаваліся ўзаемаразуменню. Пасля гэтай сустрэчы А. Русак амаль у кожным сваім пісьме перадае прывітанне сям'і Бурак і жадае ўсім яе чальцам моцнага здароўя. *"Якая кароткая была сустрэча з Вамі, а палажыла след у сэрцы назаўсёды, і здаецца я быў з Вамі знаёмы з дзяцінства. Нашы сэрцы – родныя"*, - піша А. Русак.

Да 1974 года ішлі на адрас лідзянкі лісты і паштоўкі не толькі з Менска , але і з тых гарадоў, куды ездзіў на творчыя сустрэчы паэт і кампазітар Адам Герасімавіч (ён закончыў Ленінградскую кансерваторыю). Пісаліся пісьмы і ў тыя мясціны, дзе лячыліся летам Алеся Аляксандраўна з сынам, раіў ім лячыцца народнымі сродкамі. *"Нашы беларускія травы вельмі карысныя, толькі трэба лячыцца не ў шаптуноў, а ў знатных людзей", "…У цёплых краях на курорце памацнееце, падужэеце; набярэцца сіла Вам і Вашаму сыну. Знойдзецца здароўе Вашаму сэрцу і душы, хачу верыць у гэта"*, - аптымістычна зазначае аўтар пісьма. Вось гэты аптымізм сустракаем мы і ў Алесі Аляксандраўны, якая, нягледзячы на цяжкую хваробу, гасцінна і шчыра сустракае маладых і ўжо сталых людзей творчага складу на сваёй кватэры.

З 1970 года Алеся Бурак часта хварэла. У асноўным пісьмы і паштоўкі прыходзілі ад Адама Русака. У 1974 годзе яна была запрошана на 70-гадовы юбілей паэта-песенніка. На ўрачыстасці было многа паэтаў, знакамітых людзей Беларусі. Шкада, што паразмаўляць А. Русаку і А. Бурак не ўдалося: ён быў на сцэне, яна – сярод гасцей у зале.

*сэрцы"*, будзе жыць вечна да апошняга подыху чалавека. Сустракаюцца вершы і дэкламатыўнага характару. Да іх можна аднесці рускамоўныя "Современнику", "Безнадежность", "Пусть ласка ответит ласке", "Наши ценности" і беларускамоўны "Такія лекі". Здзіўляюць вершы – прысвячэнні беларускім творцам М. Аўрамчыку, Р. Барадуліну, Я. Купалу, Я. Коласу, Э. Агняцвет, В. Таўлаю, А. Русаку. Апошняму – цэлыя пісьмы-лісты ў вершаванай форме. Не абыходзіць лідская паэтэса ўвагаю і сваіх паплечнікаў па пяру, яна надзяляе паэтычнымі шаржамі М. Мельніка, П. Макарэвіча, А. Хітруна, датычыцца гэта і вершаў "Ішла гамонка шчырая", "Чатыры Алесі". ¨сць прысвячэнні і іншым сябрам творчага кола: В. Верасняк, Н. М. Пазняк, верш памяці См. Сліўко і інш. Не адну старонку свайго зборніка Алеся Аляксандраўна выдзеліла для сваіх блізкіх: сына Уладзіміра, унучкі Юліі, праўнука Ігната; не забыла тых, хто падтрымлівае яе здароўе: урачы Мамчыц С. І., Місевіч А.В., Азарка А. Э.



***Алеся Бурак, 1978 г.***

У зборніку "Прастора дабрыні" шмат лірычных вершаў пра чалавечыя ўзаемаадносіны, пра каханне і растанне, пра самаахвярнасць. Усе яны – аб самым сутнасным, аб звычайных пачуццях. Пад пяром А. Бурак ажывае прырода: ялінка, бярозка, хвойка, клён – жывыя істоты ( бярозка *"глядзіць сабе пад ногі"*, ялінка *"ветру буйнаму ўсміхнецца"*, клён *"к плечу нежно прикоснулся"*, хваінка *"цягнецца да сонца"*, а на яе ствале *"золата смяецца"*). Тлумачыцца гэта тым, што аўтарка ўмела карыстаецца мастацкімі сродкамі мовы (што і важна ў паэзіі) як увасабленне, параўнанне, эпітэты (*"рамонкі – усмешкі сусвету", "пахне сокамі зямлі маладое ў полі збожжа", "восень па-над краем долі паспяшаецца, бяжыць"*).

Імкненне як мага больш ведаць і сваю мову і свой родны край не пакідала Алесю Аляксандраўну дома ў час канікулаў. Яна з'яўлялася старшынёй савета турыстаў школы, пазаштатным экскурсаводам. Хочацца назваць тыя месцы дзе пабывала А. Бурак са сваімі вучнямі: Трокі, Вільня, Друскенікі, Гародня, Бярозаўка, Наваградак, вёска дзяцінства Я. Брыля - Загор'е, родны кут Я. Купалы - Вязынка, калыска Я. Коласа - Стаўбцы, Мікалаеўшчына, радзіма Марата Казея - Станькава, Брэсцкая цвердзь, Хатынь, Трасцянецкі лагер смерці, Менск з абавязковым наведваннем музея Вялікай Айчыннай вайны, музеяў Я. Купалы, Я. Коласа, стадыён "Дынама", прысутнічалі на ледзяным шоў у Палацы спорту. Падарожнічалі пехатою, на спадарожных машынах, карысталіся "аўтастопам", цягніком, аўтобусамі і самалётам. Менавіта самалётам ТУ-124 пятнаццаць хлопчыкаў і дзяўчынак 6-ага класа ляталі на 10 дзён у Адэсу, дзе не толькі купаліся ў моры і загаралі, а пабывалі на Пацёмкінскай лесвіцы, у Адэскім порце са шматлікімі замежнымі караблямі, са свечкамі ў руках былі на экскурсіі ў Адэскіх катакомбах, дзе знаёміліся з партызанскімі стаянкамі, паглядзелі спектакль у Адэскім тэатры оперы і балету, які пасля нядаўняй рэстаўрацыі лічыўся другім у свеце пасля Міланскага Ла-Скала.

Але дзе б ні была А. Бурак, яна заўсёды спяшалася да родных мясцін. Нават *"мора не паланіла дзяўчынку з палескіх краёў"*.

*На Лідчыне ж росныя травы,*
*Зялёныя долы, дубравы,*
*Адданасць любімай справе,*
*Да іх хачу бегчы – не йсці.*

Лідчыну лічыць роднай, бо тут прайшлі працоўныя гады са сваімі радасцямі, нягодамі, спасцігненнем шчырых чалавечых адносін і нападкамі зласлівай зайздроснасці, хаця Алеся Аляксандраўна заўсёды была вернай сваёй дабрыні. З вялікай любоўю адносілася яна не толькі да сваіх вучняў, якія і зараз наведваюць яе, але і да сваёй радзімы. Узросшая з беларускіх каранёў, яна не аднойчы прызнаецца ў сваёй адданасці.

*"Я так люблю край непаўторны свой,*
*Яго палеткі, долы, пералескі"* , -

чытаецца ў адным месцы. У іншых вершах сустракаюцца наступныя радкі: *"шчодра грэе... міласцю вялікай родны край", "у тваіх абдымках крыўд не знаю, мой родны кут, мая зямля", "шкадую, што не маю слоў, каб гожасць свайго пераплесці тонкай песняй"*.

Першы раз у нашым горадзе Алеся Аляксандраўна была ў 1945 годзе ў гасцях у сям'і Рыгора Аляксандравіча Сідарка, які адразу пасля вызвалення Ліды працаваў тут першым сакратаром гаркама партыі. Горад быў разбураны на 80%, увесь цэнтр ляжаў у руінах. Выдзяляўся будынак цяперашняга ЗАГСа, дзе жыла сям'я Сідарка, вакол яго – пустэча. А. Бурак радавалася, калі, прыехаўшы сюды на работу, бачыла як адбудоўваецца горад, сама ўдзельнічала ў разборы руінаў вакол нават 8-ай школы, у якой пачала працаваць. Радуецца і сённяшняму новаму абліччу, непазнавальна змяніўшымся краявідам.

Засмуціла яе кніга "Памяць", якую падаравалі ёй на ўрачыстасці ў дзень горада. У гэтым выданні толькі на 200 старонцы ўпамінаецца імя першага сакратара вызваленай Ліды. Ні слова, ні знаку аб гэтым няма ў Лідскім краязнаўчым музеі, нягледзячы на тое, што ў музеі ВАВ у Менску ёсць экспазіцыя Рыгора Сідарка, з якой заўсёды Алеся Аляксандраўна знаёміла ў час наведвання музея сваіх вучняў. У нядаўні час руплівая лідчанка пры дапамозе родных дачок Р. А. Сідарка, якія жывуць у Менску, сабрала архіўныя дакументы, кнігі з фотаздымкамі славутага партызанскага камандзіра, перадала іх свайму сябру, мудраму і здольнаму журналісту А. В. Жалкоўскаму. Аляксандр Васільевіч захаваў звесткі аб Сідарку ў "Лідскай газеце", у карэліцкім "Полымі", а таксама ў "Хойніцкіх навінах", таму што ў

Хойніцкім раёне нарадзіліся і Сідарок Р. А., і Бурак А.А.

У горадзе Лідзе паважаная Алеся Аляксандраўна жыве з 1955 года. Тут нарадзіліся яе сын Уладзімір, унучка Юлія і праўнук Ігнат. Ім яна перадала свой дар: Уладзімір ужо выдаў свой зборнік вершаў, Юлія і Ігнат неаднаразова змяшчалі свае вершаваныя творы ў падборцы "Суквецця" у "Лідскай газеце". З гэтага можна зрабіць выснову, што сямейства Бурак мае сваю творчую дынастыю. Няхай іх не пакідае прамень натхнення, а мы будзем верыць, што прыйдзе той час, калі аб творчым коле сям'і Бурак будуць ведаць жыхары нашай Радзімы – Беларусі, няхай, нават, толькі адной вобласці – Гарадзенскай! Хоць і нарадзілася Алеся Аляксандраўна на Палессі, але ж сваім родным кутом яна лічыць горад Ліду. У творчым арсенале адной з найстарэйшых паэтэс Лідчыны ёсць прысвечаныя нашаму гораду вершы "У гасцях добра, а дома лепш", "Мой горад і мая мова", "Лидский вальс", "Лидская лирическая", "Курган Бессмертия".

*"На года, на века*
*Положили в курган*
*По слезинке сирот,*
*По кровинке из ран,*
*По морщинке от вдов*
*Мы сюда принесли…*

Апошні радок гаворыць аб тым, што Алеся Аляксандраўна з вучнямі, будучы ў Менску сустрэлася ў музеі ВАВ з ганаровым грамадзянінам горада Ліды Гапеевым Яфімам Данілавічам. Яны разам наведалі Трасцянецкі лагер смерці і адтуль прывезлі зямлю на курган, у адкрыцці якога ўдзельнічаў сам Гапееў Я.Д., а Алеся Бурак ўдзельнічала ў напісанні тэксту для кургана.

Трэба пазначыць, што Гапееў Я. Д. у гады Вялікай Айчыннай вайны быў камандзірам Лідскага партызанскага злучэння і з'яўляўся паплечнікам камандзіра Івянецкага партызанскага злучэння Сідарка Рыгора Аляксандравіча – роднага дзядзькі Алесі Аляксандраўны (брата яе маці). (Звесткі аб Івянецкім партызанскім злучэнні, штаб якога знаходзіўся разам з Лідскім партызанскім ў Налібоцкай пушчы, змешчаны ў 5 томе "Беларускай Савецкай энцыклапедыі"). І што цікава, ведаў Сідарка Р. А. і яго партызанскі паплечнік, пазней сакратар Лідскага гаркама партыі Фамічоў.

У снежні 2010 года Алесі Аляксандраўне споўнілася 80 гадоў. Яна інвалід I групы, ужо больш за 8 гадоў амаль не выходзіць з кватэры, і толькі – бальніца і дом. Яна піша вершы і зараз, дае слушныя парады, кансультацыі пачынаючым паэтам, дапамагае ўсім, хто звяртаецца да яе і з іншымі просьбамі. Яна ведае шмат вершаў знакамітых і сучасных паэтаў. Нават чытае па памяці вершы тых, хто да яе прыходзіць.

У лідскай паэтэсы захавалася віншавальная паштоўка ад студэнткі акадэміі міліцыі Семяновіч Таццяны з такім запісам: *"Дзякуй Вам за тыя гадзіны, якія Вы правялі са мною"*. У свой час Алеся Аляксандраўна адпачывала ў Гарадзенскім пансіянаце і праводзіла там творчыя вечары, дзе больш за гадзіну чытала свае вершы без усякай паперкі і кніжкі. Многія лідзяне ведаюць



***Алеся Бурак, 1988 г.***

пра гэта. А вось што піша ў сваім пісьме слухачка пансіяната з Ліды, заслужаная настаўніца Беларусі Вольга Дзмітрыеўна Івашына: *"Дарагая Аляксандра Аляксандраўна, з днём нараджэння…Вы яшчэ не адзін раз прачытаеце свае цудоўныя вершы родным, сябрам, блізкім і знаёмым, узбагаціце іх душы і сэрцы сваёй цеплынёй, дабратой, прыгажосцю і майстэрствам. Будзьце заўсёды аптымісткай, такой, якой я Вас ведаю. Заўсёды з Вамі В. Івашына. 17 снежня 1994 год."*

Аднойчы пры размове я запытаў у Алесі Аляксандраўны пра яе жыццёвае крэда. Яна тады ўзяла і запісала мне такія радкі:

*Покуль ходзяць ногі,*
*Покуль бачаць вочы,*
*Памагаць ты людзям*
*Будзь заўжды ахвочы.*

Хочацца сказаць яшчэ і пра хобі А. Бурак. Яна вельмі любіць шыць, вышываць, рабіць пруткамі і шыдэлкам. У снежні 1995 года ў Лідзе праводзіўся рэспубліканскі фестываль творчасці інвалідаў. Яе выстава рукатворных вырабаў заняла першае месца, а ёй быў уручаны дыплом лаўрэата фестывалю, які зараз знаходзіцца ў літаратурным музеі Лідчыны. Яе вязаныя рэчы маюць многія лідзяне.Трэба зазначыць, што нягледзячы на сталыя гады Алеся Аляксандраўна так і застаецца па-своему мудрай і ўсебакова развітай жанчынай, яна стараецца быць інфармацыйна-дасведчанай у сучасным бурлівым свеце. З'яўляючыся чытачом-

падпісчыкам шматлікіх інфармацыйных носьбітаў яна не толькі цікавіцца і перачытвае інфармацыю, але і заўзята разгадвае крыжаванкі і іншыя займальныя галаваломкі. І гэта зразумела: у яе засталася і захавалася такая жылка яшчэ з маладых гадоў. Яна мне прызналася, што ў школьныя гады ў Дукорскай школе быў размешчаны стэнд з фотаздымкамі самых актыўных чытачоў яе бібліятэкі, і, што дзіўна фота Алесі Бурак знаходзілася на ім  яшчэ і пасля таго, калі яна была ўжо студэнткай Менскага педінстытута імя М. Горкага.

*А если я вяжу, пишу и сочиняю,*
*И отдаю я этому все дни,*
*То значит: я живу (не доживаю) -*
*И это состояние души.*

Я хацеў бы параіць сваім землякам пазнаёміцца з яе кнігаю “Прастора дабрыні”, якая знаходзіцца ў гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы, у абласной бібліятэцы імя Я. Карскага, а таксама ў філіяле Лідскага гісторычна-мастацкага музея ў літаратурным музеі В. Таўлая, дзе размешчаны таксама стэнд і матэрыялы пра яе жыццёвы і творчы лёс. У прадмове да зборніка Міхась Мельнік пазначыў:*”Прастора дабрыні – гэта зварот да духоўнай прасторы ў сэрцы чалавечым, якая падымецца над людскім болем і над жорсткасцю”.*

Напрыканцы хачу сказаць, што нягледзячы на выпрабаванні лёсу, Алеся Аляксандраўна не страціла сваёй каляіны, была вернай сваёй прафесіі, захавала свае найлепшыя рысы характару, такія як шчырасць, шчодрасць, дабрыня, спагада, аптымізм, няўрымслівасць, якія можна замяніць трыма словамі: Чалавек, Настаўнік, Творца. Гэтыя рысы, магчыма, накрэслілі на лёсе паэтэсы мужныя, самаахвярныя, творчыя людзі такія як Жыдовіч Марыя Андрэеўна, Гарбацэвіч Васіль Савіч, Русак Адам Герасімавіч, Сідарок Рыгор Аляксандравіч, Гапееў Яфім Данілавіч, Жалкоўскі Алесь Васільевіч і іншыя. А для мяне асабіста ў спіску такога Чалавека з’яўляецца Алеся Аляксандраўна Бурак.

***Алесь Хітрун**,*
*студэнт 5 курса   філалагічнага факультэта*
*Гарадзенскага дзяржаўнага*
*ўніверсітэта імя Янкі Купалы.*

*PS: (Матэрыялы Алеся Хітруна пра паэтэсу Алесю Бурак можна прачытаць у “Настаўніцкай газеце” пад назвай “На прасторы дабрыні” (4 лютага, 2010 год, №15(6824), стар.4) і ў “Лідскай газеце” – “Я іду па ўзлессі, а са мною Алеся…” (25 чэрвеня, 2009 год,  №71(11742), стар.3), а таксама матэрыял Пятра Макарэвіча ў “Прынёманскіх вестках” – “На прасторы дабрыні”(4 верасня, 2008 год, №36(488), стар.9).*

***Шаноўнай Алесі Аляксандраўне Бурак – настаўніцы і паэтэсе***

Даўным – даўно па ўсёй краіне
Жывуць яе выпускнікі.
Іх шыхт сягоння незлічоны.
У вучняў вучні падраслі
І шлюць настаўніцы паклоны
З усіх, усіх куткоў Зямлі.

Ды што з таго, што падступіла
Так няўмольна і пакрыла
Пышны волас сівізна…
Яшчэ ў грудзях не згаслі сілы,
Яшчэ не слабнуць сэрца крылы,
Не адцвіла ў душы вясна!

Яна так слаўна піша вершы,
І на знаёмых эпіграмы,
І прысвячэнні сябрам лепшым –
Ды з густам найвышэйшым самым.

Яе ніколі не пакіне
Натхненне светлага ўздым,
Бо аддае, як дар краіне
Свой досвед, ласку маладым.

***З павагай Міхась Мельнік.***

**Падборка вершаў найстарэйшай паэтэсы Лідчыны *Алесі Бурак***

**Прастора дабрыні**

Прастора дабрыні маёй душы
Мне дапамагае бачыць існасць
Таго, што за акном маім ляжыць,
Самотнасць майму сэрцу ненавісна.

Я, пэўна, шчаслівейшая з людзей,
Бо іншым слова шчырае нясу,
Бо радуюся справам дабрадзеяў
Ды і зласлівых зразумець магу.

Не трэба ідэаламі нам трызніць,
Бо кожны чалавек такі, як ёсць,
Галоўнае – нікога не пакрыўдзіць
І не прынізіць годнасці сваёй.

Люблю жыццё пакутліва, няўтольна
І бліжняму заўжды дапамагу
Цяплом сардэчным, працаю нястомнай.
Вось толькі здрады дараваць я не змагу.

*2006 г.*

**Сэрца сэрцу**
(Маці сваёй)

Без бацькі расла я старэйшай дачкою…
Падоўгу адна па-над сіняй ракою
Я з горкай калінай на лёс наракала
І крыўду ў роснай вадзе паласкала.
Ці то ад ракі удалась сінявокай,
Ці то ад калінкі – уражліва-тонкай.
Ад рос прыгажэла, рабілася чыстай,
Ад долі сірочай – пяшчотна-іскрыстай.
Цяпер зразумела, як нас ты любіла!
Без бацькі адна ўзгадавала – ўзрасціла,

І кожную з нас на жыццёвую сцежку
Выводзіла, слёзы хавала за ўсмешкай.
І зараз аб нас тваё сэрца баліць,
Ад кожнай імкнешся бяду адхіліць…
Ты ведай, чакай: мы спяшаем заўжды
Да той непаўторна-празрыстай вады.
Да сэрца, што нашу бяду забірае.
Да белай хусцінкі, што слёзы ўцірае.

*1967 г.*

**У вянок Валянціну Таўлаю.**

I

Люты. Ладзіць баль віхура,
К тыну лашчыцца завея,
Хмары сцелюцца панура,
Вецер за сцяной шалее.

За акном мароз і сцюжа…
А ў хаце, ля цяпельца,
Нарадзіўся хлопчык мужны,
Светлы розумам і сэрцам.

Гадавала яго маці
Для любові, шчаснай долі,
Не ўзгадала, што ўзрасціла
Смелага байца з няволяй.

Ва ўзросце падлятковым
Сын абраў свой шлях цярністы,
Ваяваў бунтарскім словам,
Думкаю, памкненнем чыстым.

Ратаваў за ўз'яднанне
Беларускага народа,
Меў за гэта пакаранне:
У турме гібеў ён годы.

II

Ты зрабіў нямала ходак пешшу
Па шляхах нялёгкіх і крутых,
Ты стварыў артыкулы і вершы,
Што праграмай сталі для другіх.

Ты сваім агніста-мудрым словам
Прадракаў радзіме светлы лёс,
Родную пакутлівую мову
Праз выпрабаванні ты пранёс.

І гучыць яна прыветна-звонка
На аблогах роднае зямлі,
На зямлі свабоднае старонкі,
Што ў баях абараніць змаглі,

Засланіць ад ворага ліхога
Нашу еднасць, наш цудоўны край.
Ты для нас, нашчадкаў, значыш многа:
На ніве годнасці – выдатны аратай.

III

Ад Лідскай крэпасці ў кірунку рынка
Я крочу сцежкаю, дзе ты ступаў,
Спыняюся ля сціплага будынка,
У якім ты жыў, тварыў і сумаваў.

І магчыма, тут пісаў сястрычцы
Вершык, каб запомніла яна,
Што яе шчаслівае сцяжынцы
Ты аддаў жыццё сваё спаўна.

Я лічу сябе тваёй сястрою,
І тваім высновам я служу,
Лепшым скарбам кожнаю парою –
Вольнай Беларуссю даражу.

*2005 г.*

**Мая мова**

Цябе зневажалі, тапталі,
Палілі ў агні, крыжавалі,
А ты ж засталася жывою,
З узнятаю ўвысь галавою.

Як гулкае рэха ў лесе,
Як спеў жаўрука ў паднябессі,
Гучыш, беларуская мова,
У казках народных, замовах.

Як лепшая з лекаў, гаючая,
Ад болю ў сэрцы, жывучая,
З суседнімі мовамі ў згодзе –
Спрадвечны наш скарб у народзе.

Не, мова мая не загіне
І род свой людскі не пакіне,
Яна будзе жыць да скканання
Майго і твайго існавання.

Жыві ж мая мова, красуйся,
Не толькі ва ўсёй Беларусі,
Звіні, пранікай у замежнасць,
Ты – нашай душы незалежнасць.

*2007 г.*

**Маё шчасце**

Сабе я, людзям веру і заўжды,
Адкрытая душой, іду насустрач
Туды, дзе шмат пакут, дзе шмат бяды.
Спагадай, дабрынёй не надакучу.

Не закрану вярэдліва-злым словам
Таго, хто праўду любіць, лёс шануе.
Хай шчырасці людской, задумак светлых змове
І глыбіні пачуццяў пашанцуе.

А шчасце маё бачыцца мне ў тым,
Што не зайздрошчу, не караю – плачу,
(Хоць ніхто не чуе). Мне б заўжды
Прыносіць радасць людзям, ну і ўдачу.

*2002 г.*

# Лёсы людскія

Першае зерне спазнання сваёй гісторыі ў мяне закінуў бацька - Франц Станіслававіч Радзько: гадоў 15 таму назад ён, неяк неназойліва, сказаў, што яго дзед, Міхал, сын Дамініка, быў кавалём і яшчэ да Першай Сусветнай вайны, выкаваў для касцёла ў Белагрудзе крыжы і агароджу. Любы майстар, агледзеўшы тую агароджу сёння, годна ацэніць якасць кавальскай працы.

Потым была паездка з сям'ёй і сваякамі ў Навагрудак. Размясціўшыся на абед ля падэшвы замкавай гары, мы адчулі, што дакранаемся да нейкай таямніцы, але дадалося і пачуццё гаркаты і сораму - мы ведалі, што сядзім на зямлі, на якой адбываліся гістарычныя падзеі еўрапейскага значэння і маштабу, а распавесці што-небудзь цікавае пра гэта ніхто з нас не мог. Там, ля развалін Навагрудскага замка, я вырашыў заняцца вывучэннем гісторыі. Не гісторыі Рыма, Егіпта, Еўропы або Расіі, а гісторыі той зямлі, на якой жыву. Бо нездарма, нашу зямлю даўней звалі "краінай замкаў".А дзе тыя замкі? Хто, калі і для чаго іх пабудаваў? Хто разбурыў? І чаму?

Паступова з'явілася жаданне дазнацца пра жыццё маіх дзядоў і прадзедаў, пра іх ролю ў гісторыі. Спачатку пачаў дапытваць сваякоў і надакучаць ім сваімі незразумелымі, і нікому не патрэбнымі, пытаннямі - і ў мяне пачалі з'ўляцца старажытныя фатаграфіі, дакументы, сведчанні. Аднак, было зразумела, што гэтая крыніца будзе абмежавана магчымасцямі памяці, і давядзецца шукаць нейкія пісьмовыя сведчанні.

Тады я пайшоў у касцёл прасіць паказаць мне метрычныя кнігі. Але святары са шкадаваннем развялі рукамі - аказваецца, уся дакументацыя з касцёлаў і цэркваў была канфіскавана савецкай уладай і змешчана ў архівы, дзе створаны "лепшыя ўмовы" для захоўвання і рэстаўрацыі старажытных кніг.

…У Гарадзенскім нацыянальным гістарычным архіве сустрэлі мяне не як дарагога госця. Спачатку прапанавалі аплаціць 133.670 рублёў передаплаты за тое, што ***пачнуць шукаць*** звесткі для складання генеалогіі роду, праз месяц патэлефанавалі і сказалі, што нічога пэўнага не знайшлі, але, калі б я пералічыў на разліковы рахунак архіву яшчэ 180.000 рублёў, то мне пакажуць і аддадуць чарнавікі праробленай пошукавай працы. Трохі пагандляваўшыся і, паменшыўшы азначаную суму ўдвая, я стаў шчаслівым уладальнікам інфармацыі, якая, як аказалася потым, да маіх продкаў не мае аніякага дачынення. Цяжка было змірыцца з думкай аб завяршэнні пошуку, і я папрасіў дазволу самастойнай працы з дакументамі архіву, не ўяўляючы, у які хамут сябе запрагаю. Паколькі, хацелася аднавіць не толькі генеалогію, але і гісторыю бацькоўскай і матчынай ліній, прыйшлося пераварнуць вялізную колькасць метрычных кніг розных касцёлаў, а яны пісаліся на рускай, польскай і лацінскай мовах, часцяком, спехам і неразборліва, шмат канцылярскіх і падатковых кніг, лісты, прашэнні і таму падобнае.

Вельмі дапамагло мне тое, што ў сярэдзіне 19-га стагоддзя каталіцкія касцёлы праводзілі перапісы насельніцтва даволі часта: кожныя 2…4 гады. Перапісчыкі вельмі акуратна запісвалі ў перапісныя кнігі назву вёскі, вуліцы, нумар хаты і ўсіх, хто у ёй жыў: прозвішча, імя і імя па-бацьку гаспадара, яго род заняткаў і ўзрост; затым імя і дзявоцкае прозвішча жонкі, потым - сыны па старшынстве, пасля іх - дочкі, нават калі яны і старэйшыя за сыноў, ніжэй – радня і прыслуга.

Супрацоўнікі архіву, бачачы маю стараннасць, пачалі шчыра дапамагаць, і я вельмі ўдзячны ім за гэта.

Вынікам такой працы сёння я маю, незразумелае іншым, маральнае задавальненне ад таго, што ведаю, што мой пра-пра-пра-прадзед Міхал Радзько нарадзіўся, прыкладна, у 1771 годзе, меў жонку Мар'яну, малодшую за яго на 5 гадоў, ведаю, дзе і як жылі іх дзеці і дзеці іх дзяцей, і дзе хто пахаваны. Яшчэ ведаю, што дзядуля маёй маці падчас Першай Сусветнай вайны служыў у Рускім войску і патрапіў у палон да аўстрыйцаў, а тыя накіравалі яго працаваць да нейкага фермера Баўэра. Пасля вайны, калі ўсім палонным дазволілі вяртацца дадому, гэты фермер хацеў аджаніць прадзеда са сваёй дачкой, але той адмовіуся, бо меў тут жонку і дзяцей, тады Баўэр, у знак падзякі за добрасумленную працу, падарыў прадзеду выдатны гарнітур з шыкоўным шыракаполым капялюшом і добры гадзіннік на ланцужку. На фатаграфіі ён выглядае цалкам рэспектабельна (цікава было б дазнацца думкі яго жонкі, Марцэлены, калі яна сустракала з палону мужа ў такім убранстве). І шмат іншай інфармацыі, дзякуючы якой наведванне могілкаў і малітва там набывае іншы сэнс. Бо нездарма, ва ўсіх культурах свету існуюць абрады ўспамінаў памерлых. Нават у савецкай ідэалогіі аддзяліўшай сябе ад царквы і, такім чынам, ад Бога, былі заклікі "Вечная памяць", "Ніхто не забыты і нішто не забыта" і іншыя. Сёння немцы, практычны народ, марнуюць вялікія грошы на тое, каб знайсці і прывезці на радзіму рэшткі загінулых у вайну салдат.

А вось прыклад з нашай сучаснай рэчаіснасці, калі двое маладых разумных людей, якія маюць аднолькавае прозвішча, ведаюць, што дзяды іх жылі ў адной вёсцы і пераканана лічаць сябе не сваякамі, а аднафамільцамі…

На гэтым хацелася б скончыць маё апавяданне поўнае надзеі што хтосьці, прачытаўшы гэта, захоча ў савім супрацоуніку, ці суседзе па лесвічнай пляцоўцы знайсці сваяка.

* * *

У адным з нумароў «Лідскага летапісца» быў надрукаваны артыкул аб мабілізацыі, якую праводзіў на гэтай тэрыторыі царскі ўрад у Першую Сусветную вайну. Прыводзілася інфармацыя аб загінуўшых, сярод якіх быў Юрый Осіпаў Лапко.

Падчас працы у архіве, мне давялося сустракаць імя гэтага чалавека, і зараз, карыстаючыся выпадкам, хацеў бы расказаць яго гісторыю:

Юрый-Георгій (так у метрычнай кнізе) Лапко нарадзіуся, прыкладна, у 1882 г., у вёсцы Бельскія Лідскага павету. Бацька – Осіп Лапко, маці – Анеля з Жукоўскіх. У 1909 годзе Юрый-Георгій ажаніўся з Юзэфай

Казлоўскай, а 20 лістапада1914 года быў прызваны на вайсковую службу.

Лідскае валастное апякунства правяло абследванне яго сям'і і пастанавіла: *«...жена – Юзефа 27 лет, сын – Марк 2 лет, дочь – Мария 4-х месяцев, отец – Осип 63 лет, мать – Анеля 50 лет, сестра – Анна 17 лет, сестра – Феломена 14 лет. В марте 1915 года Лидский Уездный Съезд в административном присутствии рассмотрел заключение Лидского волостного попечительства и определил: Юрий Осипов Лапко трудом содержал жену и детей, за исключением родителей и сестер; назначить семейству, призванного на действительную военную службу нижняго чина Юрия Лапко, ежемесячное пособие, с 27 ноября 1914 года, по 5 рублей 34 копейки в месяц, каковое выдавать под расписку его жене Юзефе Лапко»...*

* * *

Аднойчы мне патэлефанаваў невядомы мне чалавек і пачаў распытваць аб маіх дзядах і прадзедах. Я разгубіўся і не ведаў, што адказаць, тады невядомы сказаў, што яго вельмі зацікавіў артыкул аб гісторыі маёй сям'і, апублікаваны ў "Лідскай газеце" 9 лютага 2010 г., і ён хацеў бы пагаварыць са мной. Так я пазнаёміўся з жыхаром горада Ліды Кульбацкім Іванам Уладзіміравічам, і вось што ён распавёў.

Бацька Івана Ўладзіміравіча - Кульбацкі Уладзімір Сямёнавіч, 1889 года нараджэння, быў прызваны на дейную вайсковую службу ў царскае войска. Першапачаткова, вайсковая частка, укамплектаваная выхадцамі Гарадзеншчыны, размяшчалася ў Омску (або Томску), дзе асноўны час займаліся шыхтовай падрыхтоўкай, але, пасля пачатку Першай Сусветнай вайны, была перадыслакавана на Заходні фронт. Успамінаючы той час, Уладзімір Сямёнавіч часта гаварыў аб прадажнасці і тупасці камандавання рускага войска. Прыводзіў прыклады бессэнсоўных шматкіламетровых пешых маршаў, таго, як пасля захопу, коштам велізарных чалавечых ахвяр, якой-небудзь умацаванай вышыні, паступаў загад пакідаць яе, а, праз некаторы час, ізноў прыходзілася ісці на штурм і ізноў хаваць аднапалчан...

Кульбацкаму пашанцавала: з параненай нагой ён апынуўся ў шпіталі. Потым прыйшоў праваслаўны святар, сказаў, што рускае войска адыходзіць, і прапанаваў усім хутчэй уцякаць. Хадзячыя сыйшлі, пакінутым святар даў па крыжыку. Некалькі дзён былі страшнымі: не было каму не толькі падаць вады, але і вынесці з памяшкання целы памерлых таварышаў. Таму прыходу аўстрыйскіх салдат усе былі радыя - бо з'явілася надзея выжыць. Аўстрыйцы выветрылі памяшканне, далі параненым "чорнай кавы" і хлеба, потым прыйшлі лекары з перавязачным матэрыялам і медыкаментамі.

Тых, хто ачуньваў, накіроўвалі ў канцэнтрацыйны лагер - велізарную тэрыторыю, абгароджаную калючым дротам і высланую саломай, каб хоць неяк палепшыць умовы ўтрымання больш, чым 12 тысяч ваеннапалонных. Прыязджаў Пілсудскі, вербаваў у сваё войска ваяваць за Польшчу, многія пагадзіліся, але многія і адмовіліся, бо ваяваць супраць рускага войска значыла страляць у сваіх землякоў і былых аднапалчан. Пасля заканчэння вярбоўкі карміць пачалі дрэнна, медыцынскую дапамогу не аказвалі, з-за чаго многія паміралі. Гэта прывяло да бунту, пасля ўціхамірвання якога аўстрыйскія ўлады размеркавалі салдат па гаспадарках краіны.

Уладзімір Сямёнавіч патрапіў на мясакамбінат, дзе былі добрае сілкаванне і ніштаватыя ўмовы ўтрымання. Але, неўзабаве, яго і яшчэ траіх палонных забраў да сабе вінароб Баўэр, віно (або каньяк) якога, было вядома, па словах нашага героя, ва ўсёй Еўропе. Да велізарнай радасці, яны сустрэлі там свайго таварыша па няшчасці - такога ж ваеннапалоннага, які працаваў у Баўэра ўжо некалькі месяцаў. Кожны з салдат атрымаў выразны пералік абавязкаў. У прыватнасці, Кульбацкі стаў конюхам і даглядаў чацвёрку коней, двое з якіх прызначаліся для працы ў полі, а пара гнядых запрагалася толькі ў брычку, на якой гаспадар наведваў гарадскі збор. Дарэчы, 20 вёрст, якія падзялялі ферму і горад, такая павозка пераадольвала без цяжкасцяў.

На зваротным шляху вінароб з фурманам заўсёды заязджалі ў карчму, дзе была добрая кухня, і за столікамі на чацвярых можна было пакурыць кальян (нядрэнна для веннай Еўропы пачатку XX-га стагоддзя).

Гаспадарскі сын быў афіцэрам Кайзераўскага войска, а траіх дочак Баўэр настойліва сватаў за ваеннапалонных, але ні аднаго вяселля так і не адбылося. Па вялікіх святах накрывалі стол, за якім рассаджваліся ўсе, хто жыў на ферме: сям'я Баўэра, прыслуга і нашы салдаты, прычым кожнаму, хто прысутнічаў, абавязкова, падавалі запечанага голуба. Аднак, дысцыпліна была строгай: аднойчы, пасля дбайнай выведкі і падрыхтоўчай працы сябрам удалося расстарацца канчатковага прадукту, які вырабляўся на ферме і расцягваць задавальненне на некалькі дзён не сталі. Што было потым - невядома, але вядома, што больш такія інцыдэнты не паўтараліся.

Пасля канца Першай Сусветнай вайны і падпісання мірных дамоў урадавымі дэлегацыямі, прыйшоў час вяртацца дадому. Перад растаннем гаспадар шчодра надарыў кожнага з салдат. Уладзімір Сямёнавіч Кульбацкі атрымаў выдатны шыракаполы капялюш, добрыя нажніцы з ролікавым нажом і машынку для стрыжкі валасоў. Але на гэтым баку мяжы ўжо поўным ходам ішла іншая вайна, на гэты раз за тое, каб зрабіць усіх людзей шчаслівымі. На чыгуначных вакзалах было складана проста папіць вады, таму капялюш дадому не даехаў. Затое машынцы для стрыжкі шмат гадоў была ўдзячная ўся мужчынская палова роднай вёскі - па нядзелях хата Ўладзіміра Сямёнавіча ператваралася ў цырульны салон.

Затым ізноў была вайна, на гэты раз - Другая Сусветная.

Гітлераўцы, каб абараніць свае тылы ад чырвоных партызан, спалілі вёску. Сялянам на зборы далі некалькі гадзін, каб сабралі толькі самае неабходнае. Магчыма, у тым пажары, згарэла такая ж фатаграфія на кардоннай аснове на абароце якой напісана: "Ojciec nash w niewoli austryjackiej".

А колькі яшчэ такіх фатаграфій валяецца на паліцах і гарышчах закінутых сядзіб?

***Андрэй Радзько.***

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі”, г. Менск, выйшла кніга “Радзівілы. Партрэты ...” 608 ст. Наклад 2000 асобнікаў.




У выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў 1-шы том выдання “Гісторыя беларускай літаратуры. XI - XIX стагоддзі”, 912 ст., 1500 асобнікаў.




У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі”, г. Менск, выйшаў 1-шы том энцыклапедыі ў двух тамах “Археалогія Беларусі” 496 ст. Наклад 2500 асобнікаў.




У выдавецтве “Архэ-Пачатак” выйшаў нумар часопіса “ARCHE”, прысвечаны Грунвальдскай бітве. 340 ст. Наклад 700 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве “Літаратура і мастацтва”, выйшала кніга Мікалая Смірнова “Секретный узел. Тайная война в Беларуси (1939-1944). 248 ст. Наклад 1200 асобнікаў.




У выдавецтве “Літаратура і мастацтва”, г. Менск, выйшла кніга Алеся Карлюкевіча “Радзімазнаўства. Мясціны. Асобы”, 352 ст. Наклад 1600 асобнікаў.




У выдавецтве “Беларусь”, г. Менск, выйшла кніга Э.Г. ¨фэ і Ж.Э. Мазец “Нобелевские лауреаты с белорусскими корнями”, 160 ст. Наклад 2000 асобнікаў.



**Знак-сімвал у гонар 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова. Ліда, вул. Камуністычная.**
*Здымак С. Судніка.*